# ЗМЕСТ Крыніца

# Я

# Міхась СТРАЛЬЦОЎ



*Імгненні ёсць пакутлівага шчасця -*
*Ірвуцца ўвысь і думка і душа.*
*Ды толькі тое ўсё ў радок не ўкласці,*
*Як ты яго, радок, не падвышай.*

*Бо адмыслова, самадастаткова*
*Само сабой гаворыць пачуццё.*
*Тады абразай можа здацца слова,*
*Тады адно - цудоўнасць і жыццё!*





# СМАЛЕННЕ ВЕПРУКА

Ідуць ужо халады бяруцца прымаразкі — ападаюць інеем сырыя туманы Чарсцвее зямля і цёмным ільсняна халодным зяленівам б е ў вочы парадзелая пры дарозе трава Ужо выпетрала зябліва пасівела ў гародчыках і пазванчэла бадыллё, і панішчымнела паветра Неба ўдзень ужо ніжэй прыпадае, ціснецца да зямлі Яшчэ выганяюць на пашу кароў — далей ад вёскі, у лес. Пад вечар жывёла не хоча вяртацца ў хлеў, цаляе адбіцца ў прапахлае бульбоўнікам і сцюдзёным капусным водарам поле.

І вечарамі, і ўранку марозліва, хмельна бы першаком, пахне ў наваколлі дымам.

Такою парою ў вёсках свяжуюць вепрукоў

Мне даўно хацелася напісаць адно апавяданне назваць яго так: «Смаленне вепрука» Цяпер я ведаю, што бадай, не напішу баюся, каб тое пра што хацеў напісаць, не прыцішылася няўзнак, а то і не згубілася там, у здзейсненай пісаніне, а яно ж мне самае важнае Дык навошта ж тады згадваю і навошта пішу? Мне проста падумалася што можа, усё ж абзавецца на астачу нейкай логікай тое, што тут раскажу Паглядзім

Я жыў тады ў нечапанай частцы горада, калі надумаўся пісаць, у старым раёне забудаваным няўклюднымі цаглянымі, а найбольш драўлянымі дамкамі, што ўсцяж патаналі ў садах. Цяпер мала засталося ад таго раёна — адны лапінкі астраўкі зацінутыя кварталамі несамавітых бязверхіх дамоў Засталіся ля новых будынін побач з дз цячымі пляцоўкамі то крывая кашчавая яблыня то вішня што вырасла ў дрэва,— купчастая ў кроне і тоўстая ў камлі І засталася яшчэ вуліца, хоць і старая, але шыракаватая і роўная бо быў гэта некалі брукаваны тракт Назву яму памянялі, адхрышчва-

## *Пра Мяне*

**14.2.1937** *нарадзіўся ў вёсцы Сычын, што на Магілёўшчыне. Бацька – Лявон Клімавіч Стральцоў дырэктар мясцовай школы, маці Марыя Міхайлаўна хатняя гаспадыня.*

**1954** — *скончыў Нова-Ельненскую сярэднюю школу і паступіў у БДУ на аддзяленне журналістыкі філалагічнага факультэта.*

**1957** *у «Маладосці» надрукавана першае апавяданне «Блакітны вецер».*

**1959** *скончыў вучобу ў БДУ і да 1987 года працаваў у рэдакцыях беларускіх газет і часопісаў.*

**1962** *прыняты ў Саюз пісьменнікаў СССР, выдаў першы зборнік прозы «Блакітны вецер». У гэту кнігу, афармленую Барысам Заборавым, увайшло сем апавяданняў «Дома», «Мацеевы дровы», «Восеньскі ўспамін», «Блакітны вецер», «Двое ў лесе», «Суседзі», «Перад дарогай». У артыкуле «Ці існуе блакітны вецер?» Анатоль Вярцінскі адзначаў, што Міхась Стральцоў «...шукае свой стыль на шляху вобразна-асацыятыўнага мыслення».*

**1965** *выйшла ў свет кніга літаратурна-крытычных артыкулаў «Жыццё ў слове», у якой выявіліся першыя подступы да стварэння аповесці «Загадка Багдановіча». «Алгебра і гармонія... у Багдановіча настолькі з'яднаны, настолькі зрабіліся ягонай паэтычнай сутнасцю, што здаецца натуральным дапусціць, нібы не алгебрай павяралася ў яго гармонія, а гармонія павярала алгебру. Здаецца, каб можна было перакласці на мову алгебры гармонію, дык вершы Багдановіча разгарнуліся б у лагічную паслядоўнасць матэматычнай формулы. Здаецца, з кожнага верша Багдановіча можна вывесці закон «залатога сячэння» паэзіі».*

**1966** *выдаў другую кнігу прозы*

# Выгнаны патрыцый

Пра Яго звыклі пісаць — паэт, празаік, эсэіст, крытык. Жанрава так яно і ёсць, але сутнасна быў Ён і застаўся перш за ўсё паэтам, хаця (парадокс?) найпаўней выказаўся ў прозе і эсэістыцы. Пра гэту дзіўную асаблівасць Яго таленту скажу крыху пазней. Што ж да Ягонай крытыкі, то мушу адзначыць — большасць артыкулаў, прысвечаных творчасці Брыля, Панчанкі, Барадуліна, Карамазава, Кудраўца і інш., абумоўлены аўтаравай прыязнасцю да названых пісьменнікаў і праз гэта шмат страцілі ў сэнсе мастацкай аб'ектыўнасці...

Пра сябе, паэта, Ён сказаў·

*Мне звышнадзённай тэмы*
*не падняць,*
*Як не пазбыцца і лірычных трантаў.*
*Як барытону можна заспяваць*
*Напружана-задзірыстым дыскантам?*
*Каб так зрабіў, каб гэтакі наіў*
*Мяне завабіў на сцяжынку моды,*
*Дальбог павыміралі б салаўі*
*На ўчастку мне адведзенай*
*прыроды.*

*Мне б так сказаць: «Я здолеў*
*заручыць*
*Сябе з уласнай думкай,*
*і свой голас*
*Птушынай песняй здолеў надтачыць,*
*Сабраў расу, якою ўмыўся колас».*

*«Сена на асфальце», змест якой склалі наступныя творы — «Трыпціх», «На вакзале чакае аўтобус», «Там, дзе заціша к, спакой», «Сена на асфальце», «Добрае неба», «На чацвёртым годзе вайны», «Што будзе сніцца», «Роздум», «І зноў, зноў горад», «Свет Іванавіч, былы донжуан», «Дзень у шэсцьдзесят сутак». З гэтай кнігай у нашу літаратуру вярнулася (пасля ўзвышанскай прозы) прыгажосць стылёвага індывідуалізму: «Вось жыву я цяпер у адным добрым месцы на адзіноце з лесам, восеньскай цішынёй, з незразумелым пакуль мне самому набыткам свае душы. Днём лес свіціцца, засланы скурчаным сухім лісцем, халадок цвеpазіць скроні, і такое адчуванне ў мяне, што калі разгадаю я цяперашнюю патаемнасць лесу, адзінокага на галінцы лістка, калі спасцігну простым словам пругкую выразнасць чорнага крушынавага ствала, калі спалучу я ў адным адчуванні скупы водар халоднай зямлі, журбліваe святло неба і далёкі рокат трактара, і сарочы порсткі чэкат, скрозь восень гляну я сабе ў душу, нібы ў крыніцу, адвяду рукой апалыя ў ваду пажоўклыя лісты...»*

**1968** *выдаў аповесць «Загадка Багдановіча», якая выклікала захапленне ў Алеся Адамовіча: «Якая культура думкі, пачуцця... І якое разуменне, што ў паэта не біяграфія, а лёс. І тужлівае жаданне сабе іменна гэтага».*

**1970** *асобным выданнем выходзіць у свет аповесць «Адзін лапаць, адзін чунь».*

**1973** *выходзіць першая кніга вершаў «Ядлоўцавы куст», у 9-м нумары «Маладосці» надрукавана апавяданне «Асеннім днём» (канчатковая назва «Смаленне вепрука»). Маскоўскі крытык Вячаслаў Івашчанка адзначаў: «Традыцыйная «вясковая» і наватарская «інтэлектуальная» плыні ў прозе Стральцова не дзве асобныя мелодыі аднаго аўтара, а дзве тэмы, якія перакрыжоўваюцца, перагукваюцца і ўзбагачаюць адна адну... У аповесці «Адзін лапаць, адзін чунь», у апавяданні «Смаленне вепрука» адчуваецца відавочнае імкненне Стральцова да*

ючыся ад даўніны, але не памянялі і нават забыліся даць назву базару, што месціцца пры той вуліцы і завецца ён па-старому — Конскі базар.

Увосень, кожнай раніцы ў нядзелю, чуваць было, як парыпваюць на маёй асфальтаванай вуліцы вясковыя вазы, як цокаюць капытамі коні і як вішчаць і рохкаюць у драбінах падсвінкі Пазней, калі ўстанеш, расходзішся ад сну, паснедаеш, а потым пойдзеш па цыгарэты ў блізкую краму — не прабіцца будзе да прылаўка праз чужых, негарадскіх людзей Таўканіна, гармідар, і нетутэйшыя дзядзькі гукаюць нечага ад касы да цётак, што стаяць у чарзе, і для большай пэўнасці на мігах нешта паказваюць ім А на пустцы ля крамы ўжо атабарыліся цыганы Жанчыны сядзяць з дзецьмі гарлапаняць, нібы ў полі, увелькі з сваёй модай кудлатыя дзецюкі Конь, выпражаны з калёсаў, цягне сена з драбін, клыча яго ды матляе галавой, нібы «так, браткі, так!» — хоча сказаць гаманкой кампаніі падпітых мужчын Нібыта конь той ведае, што цыганы ёсць цыганы,— ім усё можна

Вось так было, а можа, бывае і цяпер на тым гарадскім лапіку, дзе застаўся Конскі базар, вось так было тою парою калі ідуць халады, калі бяруцца ўранку прымаразкі — ападаюць інеем сырыя туманы

Тою парою, калі ў вёсках свяжуюць вепрукоў

І ў апавяданні павінна была згадвацца тая пара і павінна была чуцца вёска пах падмерзлых трэсак на дрывотні, тарахценне трактарка ля фермы, і на шумавым фоне гэтым — гулкім ёкатам галасы людзей спалоханы гэгат гусака на тарфянішчы, настылы звон калодзежнага вядра і нечакана — пругкі выпад ветру наўскасы а над усім, а ва ўсім павінна была быць каменная, зацятая маўклівасць зямлі, травы і скаладнелага шурпата-шызага неба Вось што трэба было ***загнаць у падтэкст*** А як загнаць, я не ведаў Трэба было, каб адчувалася як выходзіць на ганак чалавек, як ляскае за ім а пасля дробна брынчыць клямка, ён чуе гэта, але і наваколле пачынае ўжо валодаць ім і вось тут, на самай трэшчынцы ўвагі, услед за скавышлівым павевам ветру сарока з-за пуні махнецца яму ў вочы тугою сваёй чарнатой спалохаецца кульнецца ўгору, востра бліснуўшы гэткай жа тугою беллю, і саслізне, падламаўшы крылы у агарод, на плот сігане ад-

**Самаатэстацыя вычарпальная, і сваёй, у першай і другой страфе, іроніяй яна не надта заахвочвае пісаць пра Яго паэзію. Бо што можна сказаць пра гэту паэзію, якую генетычную тайну адкрыць, калі *сам* аўтар раскрыў ці не галоўную сваю творчую крэда-таямніцу: «...Я здолеў заручыць сябе з уласнай думкай...»?!**

**Але, мусіць, ёсць неблагое выйсце ў тым, калі паспрабаваць аўтару пакінуць аўтарава, а сабе сваё — гэта значыць, няпэўныя здагадкі, заснаваныя на больш-менш уважлівым прачытанні вершаў. Хай будуць гэтыя, менавіта няпэўныя, здагадкі, бо нешта ж таксама няпэўнае карціць, не дае душы супакоіцца, з трывогай прымушае думаць пра паэта, што «...сабраў расу, якою ўмыўся колас», што імкнуўся «...пабачыць, як свой кіне цень лясная елка на паляну», акумулюючы ў гэтым сціплым жаданні «пабачыць» і сэнс творчасці і, магчыма, сэнс жыцця. Так, няпэўныя здагадкі (пэўныя пакінем жывым класікам) найбольш прыдатныя ў гаворцы пра мастака, чый зямны шлях завершаны і чыя прыжыццёвая драма ўраўнаважваецца высокім спакоем...**

**Калі б злы ці добры чараўнік ператварыў Яго ў музычны інструмент, то на гэтым інструменце можна было б іграць толькі мінорную музыку Я не хачу сказаць, што вясёлыя хвіліны (ці наогул радасць) заўсёды абыходзілі Яго. Вядома ж, не. Радасць (творчая, сямейная — нарэшце, інтымная) была. Адна з кніг Яго, дарэчы, так і называецца «На ўспамін аб радасці». Аднак жа відавочна і тое, што не радасць дамінавала ў Яго характары, не весялосці вы-**





туль, і трывожна зачачэкае, закалышацца там «Бач, як бы чуе ўжо»,— раптоўна падумае ён і ўспомніць свой сённяшні клопат і знарок безуважную жончыну стараннасць, калі раніцой стаўляла ў печ вядзерныя чыгуны з вадой Ён падманна, нібы нейкі другі знайшоўшы сабе клопат, прыпыніцца на ганку і твар падставіць ветру і вочы яго трывожна будуць убіраць у сябе наваколле, і нябачна накрэсліць там яму гонкі вецер і сум палёў, і халодны вобмарак травы, і перадзімовае трыванне дрэваў

Так ён будзе стаяць, і ў яго будуць варушыцца бровы Ён пачуе, як зарохкае ў пуні вяпрук.

...есці яму сягоння дадуць чым пазней, каб так, угаладаўшыся, лягчэй абмінуў ён здагадку пра тое, што прызначана яму на гэты дзень. Але ж гэта, можа, і насцярожвае яго Ён яшчэ і не здагадваецца ні пра што, адно трывожыць яго, чаму ***гаспадыня***, выходзячы з сенцаў на двор, не хоча падаць на ягонае рохканне голас, чаму з дурным кэрханнем, з бязладным лопатам крылаў пазляталі з седала і раней часу кінуліся да ганка куры Пах пракіслага хлеба і паранкі чуваць яму, чутно, як нямірна сакочуць. не падзяліўшы нешта, куры на двары і цвёрда шкрэбае аб ганак дзюбаю певень, як разладжана, роспачным нейкім голасам, злуецца на курэй гаспадыня Але аціхае пасля ўсё, і зноўку трэба чакаць і нудзіцца Ды вось, нарэшце, тое, што не можа быць падобным на падман тупанне ў сенцах, знаёмы шоргат мешалкі і галасы, і другі, глушэйшы і спакайнейшы голас,— гэта ***гаспадар***. І адчыняюцца сенцы, і бухаюць дзверы, прадракаючы міг нечакана хісткай, поўнай незразумелага сэнсу цішыні У ёй і галасы інакш чуваць. таропка-сцішаны — гаспадынін і коратка-круглы, цёмны — гаспадароў Тады зноў як бы рушыцца, абрынаецца ўсё, паглынутае новай, яшчэ больш незразумелай цішынёй Гаспадара не чуваць (застаўся на ганку?), і ўсё бліжэй, бліжэй да пуні гаспадыніны крокі .

Ён пачынае хламкаць, сутаргава і рашуча, як бы напярэймы той няпэўнасці, што раптоўна пасялілася ўжо ў ім і гняце яго. І гэтак жа рашуча, як пачаў, у нейкі міг перастае ён есці і, злосна рохнуўшы, востра ўскідвае лыч і нюхае паветра, але хваравіта-няўцямна, тужліва глядзяць у пустату яго маленькія, кволыя вочкі, і ўжо чамусьці няможна даверыцца яму

*сінтэзу, імкненне спалучыць у прасторы аднаго твора і мінулае і сучаснае. » Алесь Адамовіч разглядаў «Смаленне вепрука» ў кантэксце пошукаў і знаходак Кузьмы Чорнага: «Здаралася, што малады Чорны свядома «супернічаў» з класікамі... пісаў апавяданне «Буланы», вядома ж, маючы на ўвазе талстоўскі «Халстамер». Тым самым правяраў самога сябе, беларускую мову, беларускую прозу... Міхась Стральцоў «супернічае» ўжо з Чорным вучачыся такому смеламу суперніцтву ў таго ж Чорнага, але пачуццё сучаснай прозы, мабыць, ужо не тое: бо ёсць ужо ўсё, «што і ў людзей»...»*

**1974** *выходзіць у свет кніга выбранай прозы «На ўспамін аб радасці». Праз дзесяць гадоў, перачытваючы гэту кнігу, Аляксандар Станюта сказаў пра яе аўтара: «Як сапраўдны нацыянальны талент, ён нікога не паўтарыў, не даўшы тым самым нікому паўтарыць сябе».*

**1976** *выходзіць зборнік літаратурна-крытычных артыкулаў і эсэ «У полі зроку». Каштоўнасць зборніка ў прызнанні, якое відавочна супярэчыла тагачасным афіцыйным стандартам адносна «правоў» мастака: «Трэба верыць у* **сваё** *(выдзелена намі.—* **Рэд.** *) права быць мастаком, і тады чытачы будуць пазбаўлены таго не вельмі прыемнага і не вельмі маральнага відовішча, калі пісьменнік, паэт ці празаік усё адно баючыся, што чытачы-суайчыннікі не паверацы у добрыя намеры ягонага пяра, праз радок кленецца ў сваёй вернасці гэтым суайчыннікам-чытачам, кідаючы тым часам адным вокам і на рэдактара».*

**1979** *выходзіць у свет другі зборнік вершаў «Цень ад вясла».*

**1981—1982** *прымусовае знаходжанне ў мазырскім «лячэбна-працоўным прафілакторыі». У лісце ад 7.01.82*[1] *паэт так характарызаваў сваё мазырскае існаванне: «Тут, на адзіноце сярод людзей, асабліва пачынаеш цаніць усялякі нязмушаны, шчы-*

[1] Ліст адрасаваны Л.Дранько-Майсюку.

**падала быць запаветным пачуццём. Калі весялосць і з'яўлялася, то абавязкова ў журботнай афарбоўцы. Невыпадкова ж Ён прамовіў· «О весялосць мая у восеньскай журбе!» Невыпадкова і такое прызнанне «Я вінават, што скрухай змучан...» А вось гэтыя радкі гучаць, як вывад псіхалагічнай устойлівасці:**

*За днём зара ідзе, а ноч вядзе заранку*
*Свяціць табе спагадай, мне — журбой.*

**Яго мастакоўская свядомасць знаходзілася па-за межамі штучнай драматызацыі канкрэтнай з'явы ці прадмета, гэтаксама як і песімістычнай зададзенасці ў выяўленні самага імгненнага свайго пачуцця. Проста самім жыццём Яму быў наканаваны выбар на карысць смутку, і таму нават звычайная сасна, якая ў іншых паэтаў выклікае столькі аптымізму, уяўлялася Яму не чым іншым, а тарпейскай скалой — вобразам нейкай прадвызначанай асуджанасці, і асуджанасць гэтую (сваю ці, наогул, чалавечую) Ён успрымаў як бездакорную справядлівасць, не наракаючы ні на Бога, ні на будзённае жыццё.**

**Непазбыўная нота жалю ўвесь час працінала Ягоную надламаную постаць, і Ён звыкся з гэтай нотай. Ён не проста сумаваў, а жыў сумам. Не сумна, а менавіта сумам, як начныя кветкі жывуць расой. Ягоны сум быў тоесны маўклівасці, а ў больш пашыраным (надбытавым) значэнні — тоесны творчаму маўчанню Ён называў сваё маўчанне звонам навыварат Звон навыварат — адсутнасць музыкі.**

**Ёсць людзі, якія і ў маўчанні**

*ры знак спагады ці ўвагі — у малых радасцях вялікі сэнс... Я нават думаю: вось месца, дзе найпрасцей падацца ў экзістэнцыянісцкую веру, беручы экзістэнцыю як філасофію пражытага і перажытага імгнення ў яго самацэннасці, у неизбывной, кажучы па-руску, каштоўнасці. Нешта ў гэтым сэнсе, хоць экзістэнцыялізм, вядома, не толькі ў гэтым... Жыццё мае цячэ патрохі ў не мной прызначаным рэчышчы, для працы сваёй часу амаль няма што зробіш? ды і думка валюхаецца, як мокрае гарыць. Праўда, напачатку, як быў у каранціне, можа, болей імпульсіўна, са злосці, чым па натхненню, пісаў вершы (пісаліся), цяпер — не... Як будзе далей пабачым. Тое-сёе мроіцца ў галаве: з прозы — не з прозы, з крытыкі не з крытыкі эсэі*[2] *нейкія. Як жартуе Вера Сям.(ёнаўна) Палтаран...»*

**1983** *у серыі «Бібліятэка беларускай паэзіі» выйшаў зборнік «Яшчэ і заўтра».*

**1986** *выходзяць з друку апошнія прыжыццёвыя кнігі «Пячатка майстра» (літаратурна-крытычныя артыкулы, эсэ) і «Мой свеце ясны» (вершы).*

**1987, вясна** — *цяжкое захворванне. Вычытаў падпісную карэктуру «Выбранага» (проза, паэзія, эсэ).*

**5 траўня** *выходзіць у свет пераклад рамана Ч.Айтматава «Буранны паўстанак» (І вякуе дзень даўжэй за век). Мяркуем, што праца над перакладам адыграла для М Стральцова тую ж негатыўную ролю, якую ў свой час падобная праца адыграла ў творчым лёсе Ю.Казакова, творы якога, дарэчы, М Стральцоў вельмі любіў. Перакладаючы трылогію казахскага пісьменніка А.Нурпеісава «Кроў і пот», Ю.Казакоў не ўзбагачаў свой лірычны талент, а незваротна яго выдаткоўваў, «губляў» у глыбіні чужога эпасу. Падобнае адбылося і з Міхасём Стральцовым на прыкладзе айтматаўскай прозы.*

**23 жніўня** *смерць. Пахаваны на Чыжоўскіх могілках у Менску.*

[2] У лісце падкрэслена.

ні асцярожлівай ласцы ў гаспадыніным голасе ні паспешлівай яе руцэ, што дрыготка казыча за вухам Рашуча і злосна ён зарохкае зноў, а потым нечакана жорстка калыхнецца ўбок аграмадна-гладкім сваім і грузным тулавам і напружыць карак, адступаючы назад і перастаўляючы пад сабой недарэчна круглыя кароткія ногі Каб умеў, падзівіцца мог бы ён як тое рохканне неспадзеўкі слаба і нудліва абзавецца ў ім не прарочачы ўжо нічога акрамя бяды бо не так убачыць ён, як учуе што гаспадарова постаць непазбежна і цёмна набліжаецца ўжо да варот і забірае засланяе сабою светлы прахон на двор Не будзе ўжо гаспадыні, і застанецца ён сам-насам з гаспадаром. І будзе ён кідацца па пуні, рохкаць і тужыць, і нерухома будзе стаяць гаспадар, мусіць, беспамылкова зазнаўшы, што цяпер непатрэбны і марны быў бы любы падман: трэба лепей набрацца цярплівасці і чакаць, можа, нават выйсці за вароты на двор — набрацца цярплівасці і чакаць. Ён і зробіць гэтак, і ўжо з-за варот пачуе, як ураз аціхне, перастане рохкаць вяпрук, як потым будзе бэрсаць ён лычом падсцілку то прыслухоўваючыся, то пачынаючы непакоіцца зноў як аберне ён цэбар з мешанкай, нарэшце, рашыўшыся, пойдзе да варот Гэта будзе самы трудны міг, калі трэба спакойна хіснуцца з-за вушака напярэймы яму і выставіць перад сабою дула ружжа і старацца не чуць, як у грудзях цёмна чохкае, шырыцца сэрца і цэліцца, блізка настаўіўшы дула, ва ўяўную плямінку пад брывом пад кароткімі, белымі пруткімі вейкамі і бачыць тужлівую, амаль па-чалавечы асэнсаваную пакору ў тым, як, зміріўшыся з непазбежнасцю, усё чухае, чухае ён безабаронным каркам аб вушак... Вось і ўсё.

І далей ужо няцяжка будзе ўявіць працяг Уявіць ладнаватыя санкі ну тыя і фасон і памер якіх чалавек свядома ды з разлікам падладжваў пад сваю мажлівасць ды пад свой імпэт каб выпадкам можна было і добрую вязанку дроў па шаранку прывезці з лесу каб малое магло ўправіцца з імі на згледзянелай горцы каб і нядужага дзядка можна было прытарабаніць марозікам дамоў з суседавай лазні Вось і абернуць тыя самыя санкі ўскоцяць яго на іх, і павалакуць па рэдкіх лапіках ранняга снегу ці па камлыжнай восеньскай зямлі кудынебудзь за пуню у алешнікавы зацішак на лажку і непарадак нейкі ўраз угледз ць сарока ў тамтэйшым гаспадарчым жыцці — застракоча, зашастае па алешніку ды па платах.

Вось і ўсё Вось што акрамя ўсяго іншага павінна было адчувацца трызніцца ў тым апавяданні

А сама задума мыслілася так. ну скажам недзе ў нейкім горадзе у вялікім свеце сярод людзей, жыве ***сын*** — магчыма жанаты а можа і не. У дзяцінстве, у сваім вясковым дзяцінстве гэта быў надзвычай уражлівы хлапчук — хударлявы бледны шыракароты парывісты адначасна ціхмяны зацяты і ў той жа час быстры на слёзы Можна сказаць, што душа ягоная ўбірала ў сябе многа і можна сказаць што яна была надзелена здольнасцю разумення хацення дабра і разумення людзей, але не таго хцівага, саманадзейнага разумення заручанага з адным днём, а другога журботнага і трохі безнадзейнага, без выгодаў для сябе яно благога чалавека прымушала шкадаваць гэтак жа, як і добрага — хаця б за тое, што ён благі Але гэта — пасля Пачаць трэба было б з ранняга юнацтва з той пары калі чалавек адчуваць сябе можа бадай што вясновай пупышкай вось толькі што ўзарвала тугую сваю абалонку яна — о, салодкі міг вызвалення небяспечная ласка сонца ў трызненн далёкіх дажджоў! І навальніца прыйдзе, і сутаргава разарве неба маланка — не раз не два,— выбліснe сонца, іападзе цёплы дым над арэшынай, і не скажа маланка, для якой завязі згубны быў яе халодны зялёны прамень. Але вось — маладосць, і герой наш і жыць спяшаецца, і адчуваць жыццё прыспешвае сябе. «Бывай жа родная засень, і родная хата,— думае ён — і ты, маці не глядзі так трывожна ўслед» — і галаву яшчэ не горача пячэ ранішняе сонца і ў крыніцы што так сцішна жыве пад засенню родных ліп яшчэ так багата бруістай вады

Расказаць трэба было пра юнака, які безразважна і смела рынуўся ў жыццё і не ашчаджаў сябе, шчыра беручы ад людзей і гэтак жа шчыра аддаючы ім сваё. Ды і што тут было ашчаджаць ці шкадаваць! Яму здавалася што не можа быць на свеце чалавека які уведаўшы, не палюбіў бы яго· ну хаця б за гэтую ягоную прагу спагады і ласкі для сябе і для ўсіх! Толькі часам, у шумлівым разгары ягонай з людзьмі злагады і любові нечакана задумлівым рабіўся ягоны пагляд, і здавалася тады што цішыня высокая і сцярожкая вырастала за ім і адчуванне было такое, нібыта нехта ў яго стаяў за сп ной. І час надышоў і пабурылася за спіною цішыня, і бяда пастукалася ў дзверы і зазнаў ён тое, што хоць аднойчы ў жыцці зазнае кожны чалавек: і расчараванне, і адчай і нудліва-вінаваты позірк сяброў і нетрывалую ласку жаночага сэрца.

І вось сядзеў ён аднойчы ў добрага знаёмага ў ягонай кватэры за на скорую руку без жаночай помачы накрытым сталом Гаварылі маўчалі бралі чарку і маўчалі зноў Гаспадар лысаваты цыбаты біты жыццём і разумны чалавек, доўга нешта — ламаліся запалкі — не мог прыкурыць цыгарэту Нарэшце натрапілася добрая запалка ён прыкурыў і нечакана з нейкай незразумелай горыччу засмяяўся сам сабе а потым сказаў·

—Ведаеш быў я ў маці З ма Сумнавата Вечарам старая паставіць чыгунок з бульбай на комінак. сядзем з ёю глядзім на агонь, гаворым ці маўчым — во як зараз з табой І хараша неяк, то бяздумна, то трывожна мне. Закуру крамную папяросу а яна патухне зноў І зноў я запалкай чырк ды чырк. А маці тады ціха так кажа мне· «Дык няможна так псаваць запалкі сынок. Можа ад вугольчыка прыкуры, га?» І ведаеш аж скаланула мяне ўсяго.. Не тое каб сорамна стала перад ёй — не запалак жа маіх шкадавала яна мне,— а падалося мне бра-

**здаюцца вясёлымі. Ён не ведаў такога псіхалагічнага стану. Ягонае маўчанне было без дамешкаў гарэзіі ці прыхаванай блазноты. Яно нічым не саграваласяя, акрамя тытунёвага дыму.**

**У вершы «Аднойчы ноччу...» Ён убачыў сябе, маўклівага, праз свайго двайніка:**

*...калі ты раніцай курыш,*
*разгублены і задуменны,*
*мне балюча глядзець на цябе.*
*І днём між людзей ты ходзіш*
*нейкім далёкім рэхам*
*і цыгарэт выкурваеш болей,*
*чым прамаўляеш слоў.*

**Адчуваецца нейкая гранічная бязвыхаднасць у тым, што раніца пачыналася з курэння, разгубленасці і задуменнасці, што ўсё гэта пераходзіла ў дзень, калі Ён апынаўся сярод людзей, але не самім сабой, паэтам, а «нейкім далёкім рэхам», і таму ў надзеі знайсці *сябе* даводзілася цыгарэт выкурваць больш, чым прамаўляць слоў.**

**Так, Ён шмат курыў Попельніца і цыгарэта геральдычна аздаблялі Яго пісьмовы стол. Гэту характэрную дэталь не прамінуў мастак Аляксандр Шэвераў, калі афармляў кнігу «Мой свеце ясны». На форзацы гэтай цудоўна аздобленай кнігі — бела-сіняя попельніца, у якой запаленая цыгарэта. Побач з попельніцай аркуш паперы з завостраным алоўкам. Папера, дарэчы, чыстая, на ёй — ніводнага слова.**

**Алкаголь (гэты класічна-славянскі прывід радасці доўгія гады не абмінаў Яго) не ператвaрыўся ў вобразны лад вершаў. Толькі ў прозе, у аповесці «Адзін лапаць, адзін чунь», ёсць сакавітая, па-жыццёваму дакладная сцэна выпіўкі. Курэнню ж у вершах адведзена даволі радкоў, і сама гэта згубная, з пункту гледжання медыцыны, звычка, з'яўляючыся, відаць, не адной толькі фізіялагічнай патрэбай, стала не проста ўласцівай Яго паэзіі (прозы таксама) асаблівасцю, а неад'емным, хочацца нават сказаць, сакраментальным матывам Яго творчага існавання. Памятаю, як у адным маім празаічным чарнавіку Ён прачытаў пра папяросы «Нёман». Вельмі здзівіўся: «І ты, старычок, памятаеш пра іх!» І доўга глядзеў на мяне з нейкай асаблівай настальгічнай уважлівасцю. Яму было прыемна, што я памятаў папяросы, якія былі папулярныя ў Яго шасцідзесятыя гады.**

**Да знаёмства з Ім я быў амаль абыякавы да тытуню, але назіраючы, як Ён з цыгарэтай засяроджана думае, смуткуе, моўчкі жыве сабою, мае стаўленне да курэння памянялася з абыякавага, скажам так, на філасофскае...**

**Ён быў упэўнены: шчаслівая хвіліна прыходзіць да чалавека ў яго апошні дзень, але пры той абавязковай умове, калі чалавек будзе бачыць сонца, слухаць птушку і звон вясновай вады. Сам жа гэтай шчаслівай хвіліны не дачакаўся. Не было ні сонца, ні птушкі, ні вады. Замест вясновай прыроды — быў казённы анкалагічны ложак. Нешта накшталт прадбачання свайго фізічнага фіналу выдыхнулася ў адным з вершаў·**

*І што тут казаць? Бывае...*
*Палата, рэжым і пасцель.*
*І ўсё-такі хай нас мінае*
*Вось гэта журботная бель.*

**Журботная бель не мінула, але відавочна ўзбуйніла маральную якасць Яго паэзіі — паэзіі, пазбаўленай хлусні.**

це. — ён лёгка, усмешліва зыркнуў на субяседніка і, нібы збаяўшыся сваёй той расчуленасці, зарагатаў — Што скажаш, га? А каб жа ты ведала, думаю, колькі мы, такія харошыя, тых запалак рублёвых па рэстаранах ды піўных у адзін вечар кідаем, га?

І пасмяяліся, і памаўчалі, і ўзялі па чарцы яшчэ.

Пасля ўсталі яны з-за стала, і гаспадар хацеў праводзіць госця, але той адмовіўся, сказаў пра гэта прабачліва і ціха, і гаспадар зразумеў, што, можа, так і трэба, што пасядзелі і памаўчалі яны добра, а ў чым паразумеліся, здагадаецца кожны сам

Тады госць наш развітаўся і памалу пайшоў на вуліцу Вечарэла Сонца нізка стаяла над горадам і лена, холадна біла ў вокны, у бляшаныя дахі дамоў залаціста-барвовым, безуважным святлом Трамвай звінеў недзе, і пах, астываючы нагрэты за дзень асфальт, і пахла, можа, чуйней за ўсё, прапыленай цэглай і фарбай Была пустою вуліца, ён ішоў, а даўгалыгі цень лажыўся на дарогу і соўгаўся паволі, нібы папіхаючы сябе, і раптам побач ці не за драўляным плотам, у гародчыку, коратка і жаласна ціўкнула птушанё. Гэта як бы знак нейкі быў, і ён спыніўся і паглядзеў туды Халаднаватая чырвань аблівала бэз, павеў скразняковага ветру калыхнуў лісцё, і цені ад яго затрапяталіся на жоўтай сцяне, і зноў прыцішана-жаласна ціўкала птушанё. Тады ён прыгледзеўся і ўбачыў яго. Ён бачыў яго блізка, тое сумна натапыранае, шэрае птушанё, гэтак бясконца, незразумела адзінокае ў знаёмай яму і, мусіць, не першы раз аблюбаванай засені падвечаровага куста. На сцяне, на лісці на вялікіх прасцягах горада памірала сонца, і што адчуваў, каму і на што жаліўся ён, гэты жывы маленькі камячок, натомлены за дзень нейкім сваім, зразумелым яму, а мо зусім і незразумелым клопатам? Што гэта было страх, натужнае чаканне непасільнага празарэння ці чуйна, вусцішна і раптоўна адчутая адасобленасць ад усяго і разлад з усім? І ці не так трывожыць, гняце незразумелым нейкім сэнсам і самога чалавека тужлівая палоска расхінутай на захадзе вечаровай зары?

Так падумалася яму і ён сцепануўся ад іншай, непрадбачна вострай думкі што прыйшла разам з гэтай, але якая ўжо, мусіць, жыла ў ім з той пары, як сядзеў у гасцях і браў чарку, і слухаў сябе і ў самім сабе гаспадаровы словы Гэта думка ***пра маці*** была яна так увачавідкі падступілася да яго, што зусім невыпадковым, несумненна і адзіна значным падалося яму імгненне, у якое цень ад бэзавага лісця калыхнуўся на сцяне і неспадзеўна ціўкнула за плотам птушка У маркотным, дзіўна запавоненым одуме ішоў ён дамоў, і разам з ім думка пра маці ішла, ці, дакладней, памяць аб нейкай віне перад ёй успамін пра марна растрачаную сілу любові, якая, можа, не сагрэла нікога Бруілася крыніца пад засенню родных ліп, і, прыклаўшы руку да вачэй, углядалася ўдалеч маці

З таго дня неспакой і трывога пасяліліся ў ім

Аднаго разу яму сасніўся сон Напачатку то быў лагодны сон, то было панаванне прыцемку на мяжы святла, калі ўсё азначала і ясніла сабой не лінія адно абрыс, няўлоўна пэўны, нібы вобраз птушкі, якая толькі што пераляцела дарогу перад табой Высокім полем, бярозавым шляхам нібыта ехаў на веласіпедзе ён, захмарана-ціхай і цёплай чулася наперадзе далеч, і гулі ў бярозавым вецці хрушчы І так расхіналася насустрач невядомасці душа, і так было добра. Куды, куды, чаго ехаў ён? Але такім знаёмым, хоць і не знаёмым дагэтуль, быў краявід, так даверліва лашчыла вочы супакойнае неба, што немагчыма не думаць было, што ўсё гэта было ўжо некалі з ім, калі не ў сапраўдным дык у душэўна прыдуманым жыцці «Ага, дык гэта ж я еду дамоў,— нечакана весела, радасна здагадаўся ён,— вунь там скончыцца шлях і зачарнееца вёска» І далей ехаў ён, але чамусьці не канчаўся шлях, і знаёмае пакутна знаёмае нешта, чым свіціўся, жыў і вабіў краявід, ніяк не магло акрэсліцца ні здагадкай, ні сэнсам. Азірнуцца захацелася яму, ён ужо і намерыўся але не мог І тады як бы парыў ветру нечакана напружыўся, ураз раскідаўся ў яго за спіной: зашалясцела, зашастала, невядома адкуль узяўшыся і асыпаючыся долу, сіберна-калянае лісце. Стала ціха Холад і спусташэнне чуў ён за сабой. Падалося на момант, што ён заплюшчыў вочы, адно чуючы, як іначылася, незразумела іначылася ўсё наўкол яго, а можа, і ў ім, і страх праціnaў ягонае сэрца І ён тады ўбачыў О, ён убачыў усё так дакладна — у той кароткі міг, калі нехта, дачасна схаваны ў ім, адным балючым штуршком расхінуў яму вочы і грудзі! І тады ён убачыў сцены, якія адразу пазнаў прапахлыя павуціннем, негабляваныя сцены, і тапчан у куце, закіданы старой вопраткай, і старыя начоўкі на ім, і лаву ля дзвярэй, і вёдры на ёй, і на падлозе кашы з бульбай, і чыгуны, і цэбар з мешанкай, і вузкае, на адно бервяно прарэзанае акенца ў сцяне, і нейкі слоік на ім, і шклянку з гусіным тлушчам на ім (ён гэта ведаў), і адно замурзанае (ці не поклад?) курынае яйка..

О, навошта, навошта такое знаёмае ўсё гэта, і навошта стаіць перад лавай маці, і навошта чыгуны каля яе ног, навошта яна павярнула галаву да яго,— о, які цёмны, невідушчы, цяжкі, нібы плёскат вады ў вядры, у яе пагляд! Ён хацеў ступіць да яе, але яна, засланяючыся, павяла рукой, і тады, нібы па хаценню яе, расхінуліся сцены, і трывожна, квола зашамацела, бліснула яму пад святлом ліхтара салома. То была пуня Нейкая постаць стаяла на каленях, спіной да яго. і нешта хрыпела, трэпала па саломе за тою спіной, і сціхана блішчэла параскіданая ўсюды салома, і шкрэбаліся на седале куры І чыгуны стаялі ў сенцах, і цэбар з мешанкай, і кашы з бульбай! Так ён прачнуўся ўночы А ўдзень яму прынеслі тэлеграму

Ва ўсіх нас ёсць ці была некалі маці, і, на жаль, не заўсёды добрыя прыходзяць да нас тэлеграмы.

Вось і ўсё Ізноў ідуць халады, бяруцца прымаразкі — ападаюць долу інеем сырыя туманы Яшчэ выганяюць на пашу кароў — далей ад вёскі, у лес. Пад вечар жывёла не хоча вяртацца ў хлеў цаляе адбіцца ў прапахлае бульбоўнікам і сцюдзёным капусным водарам поле. І вечарамі, і ўранку марозліва, хмельна, бы першаком, пахне ў наваколлі дымам.

Такою пароюпішу я эпітафію апавяданню, якое магло б называцца «Смаленне вепрука» О, вядома, не шмат логікі ў ім, але ж не шмат логікі і ў стратах, што прыносяць нам лета ці вясна зіма ці восень. Ёсць, на жаль, рэчы, непадуладныя нам але ж ёсць і суцяшэнне ёсць і надзея У таго, хто бярэ ў рукі пяро, надзея ёсць таксама О, паэт да таго ж бывае яшчэ крыху забабонным. Наіўны, ён хоча перамагчы сапраўднасць, ён хоча верыць. я засцярогся ад бяды — бо сказаў Дабро і надзея тут накрэслілі свой круг

1973

Да старасці Ён не дажыў і, мяркую, памёр у сваю пару, у той час, калі паэзіяй сталі пагарджаць самі паэты. Зрэшты, мог пакінуць нас і раней, у тым жа 1984 годзе, калі памёр Караткевіч. Ці на тры гады пазней, як і памёр. Не гэта істотна. Істотна іншае — памёр Ён з крыўдай на сяброў Яго сябры-літаратары, людзі з талентам і душой, пачыналі з рамантычнага паразумення, з магіі слова, а скончылі (цяпер гэта відавочна) холадам лічбаў і банальным прагматызмам. Ён лічыў гэта здрадай самой прыродзе мастацтва. Не, Ён не зайздросціў прагматыкам, але адчуваючы, што з імі, абачлівымі філолагамі, у Яго застаецца ўсё менш і менш душэўнай еднасці, пачынаў думаць пра старасць — гэта значыць, развітваўся з маладосцю, асноўнымі дзейнымі асобамі якое з'яўляліся былыя сябры. Цяжка ўявіць Яго старым ды яшчэ з кавенькай, тым не менш Ён марыў пра сваю арэхавую кавеньку — увасабленне журботнай немаладосці.

Ён з ліку тых рэдкіх літаратараў, якія маюць духоўны ўзрост, а гэта, як вядома, нешта зусім іншае, чым проста гады, што складаюцца ў звыклае жыццё; гэта талент той крanaльнай памяркоўнасці, якая дае магчымасць паверыць у неверагоднае — ну хоць бы ў тое, што сярод людскасці (слова Гарэцкага, якога Ён вельмі любіў) можа існаваць толькі адзін кепскі чалавек.

Ён жыў з гэтай верай, жыў не ідэямі — пачуццямі, дзеля адлюстравання якіх цярпліва чакаў свайго слова. Менавіта слова, а не слоў. Ягоная лексічная ашчаднасць, здаецца, перавышае ўсе магчымыя ўяўленні аб стылёвай лапідарнасці. «Я хачу напісаць радок, толькі адзін радок...» — прызнаўся Ён у кнізе «Ядлоўцавы куст». Заўважце, не верш, а толькі радок. І ў той жа кнізе можна знайсці яшчэ адно характэрнае прызнанне: «Прысніўся верш — не верш, а два радкі...» Ніхто з нашых паэтаў так не набліжаўся да патрабавання Малармэ шанаваць чысціню паперы. І як тут зноў не ўспомніць, здзіўляючыся інтуіцыі мастака Аляксандра Шэверава, афармленне кнігі «Мой свеце ясны», на форзацы якой сярод іншых дэталяў змешчаны і ліст паперы, не крануты (!) алоўкам.

Ён не загаворваў пачуцці, а далікатна выяўляў іх. Калі адчуваў што слова шкодзіць пачуццям, тады змаўкаў Ужо з першых сваіх твораў зразумеў вартасць маўчання, гаючую непатрэбнасць слоў. Пра гэта добра сказана ў апавяданні «Восеньскі ўспамін»: «Ёсць хвіліны прыемнай блізкасці паміж людзьмі, нейкай ціхай узрушанасці і лагоды... Гэта добрыя хвіліны і добрая блізкасць, якой не трэба слоў».

Іншы раз маўчанне перарывалася вершамі, выпадковымі для Яго. Назаву гэтыя няўдалыя вершы дзеля ўдакладнення сваёй чытацкай незадаволенасці — «26 красавіка, 1966», «Размова з часам», «Партызанская гармата», «Усім сказаць. была, была бамбёжка...», «Эпіграмы» Тут навідавоку сацыяльная канкрэтыка, плоская спроба іроніі, адным словам, нешта тое, што нагогул неўласціва Яго пісьму, якое ў свае шчаслівыя парнаскія моманты жывілася не гэтай груватскай канкрэтыкай, не выдуманай іроніяй, а датклівай эмпірыкай — усё той жа разгуб-

*Юрась ЗАЛОСКА - Уладзімір БОЙКА*

# СОНЕЧНЫ СТРАЛЬЦОЎ

**Ю.З.** Вам, Уладзімір Андрэевіч, давялося працаваць разам з Міхасём Стральцовым у аддзеле літаратуры «ЛіМа», бачыць яго як чалавека, назіраць як творцу І вось зараз наш часопіс прадстаўляе Міхася Стральцова як Постаць — паэта, празаіка, эсэіста Скажыце, ці не зарана (запозна?) усчынаецца гэта гутарка?

**У.Б.** А ці існуюць крытэрыі для паняццяў «зарана» «запозна»? У літаратурным жыцці так часта «зарана» і «запозна» ў лёсе творцаў пераблытваюцца «Зарана» ці «запозна» прыйшло шырокае прызнанне да Уладзіміра Караткевіча? Мабыць, многае «запозна» для лёсу такога чалавека, такога пісьменніка «Зарана» тут ніколі не бывае, калі, канешне, творца і сам умее паглядзець на сябе збоку дастаткова патрабавальна.

Калі гаварыць пра Стральцова, дык увага да яго творчасці і асобы ніколі не можа быць перадчаснай Што датычыць запозненасці, дык вось паралельны прыклад, мне здаецца, досыць красамоўны паэт Алесь Разанаў Памятаю ягоны зборнік, які не мог выйсці ў свет, пакуль да яго прадмову не напісаў Пімен Панчанка, а пасляслоўе — Варлен Бечык (ролю грамадскага рэдактара ўзяў на сябе Уладзімір Караткевіч, і трое рэцэнзентаў паставілі на ім свае подпісы). Бачыце, якое атачэнне патрэбна было, каб адпаведныя «інстанцыі» дазволілі паэту прыйсці да чытача? Вось, па сутнасці, і пазнілася кніга Значыцца, і ўвага чытача тармазілася Але «інстанцыі» гэта мала турбавала А вершы ўражвалі нетрадыцыйнасцю, актыўнымі пошукамі формы Сёння гэты паэт не абыдзены ўвагаю, але ці адэкватна чытае яго крытыка? Канешне, нямала істотнага і важкага пра яго творчасць сказана Ды яна — праява больш шматслойная, больш аб'ёмная У такім сэнсе моцна запазняецца і гаворка пра Міхася Стральцова Хто быў на вечары ў гонар ягонага 50-годдзя ў Доме літаратараў, памятае, як прагнуў пісьменнік пытанняў пра творчасць. А пытанняў такіх было так мала

**Ю.З.** Але тым не менш гаворка пра Стральцова пачалася, і пачалася з пэўным пафасам і ў пэўным тоне Наколькі яны слушныя?

**У.Б.** Усё ж пачыналася яна трошкі раней, а цяпер прадаўжаецца Што датычыць пафасу і тону, дык здаўна ўтварылася нейкая «іерархія», «табель аб рангах» — літаратурнымі чыноўнікамі, пэўныя пабочныя прычыны часта ўплывалі на характар, змест і нават «памеры» гаворкі вакол таго ці іншага пісьменніка Па сёння гэта не зжыта ў літаратурным побыце. Адсюль, мабыць, далёка не заўсёды адэкватнае адлюстраванне рэальнай «удзельнай вагі» таго ці іншага творцы ў літаратурным працэсе.

Праява Стральцова была адразу відочная хоць і гаварыл пра яго «пад сурдзінку» Адразу не падлягала сумненню, што гэта — адметная індывідуальнасць. Па-першае, апавяданні Іх аўтар — вытанчаны стыліст (наўмысна падкрэсліваю гэта таму што культура беларускай прозы шмат у якіх праявах знівелявана ). Вакол апавяданняў Стральцова адразу пачал ўзнікаць «завіхрэнні» ва ўспрыняцці нават блізкім да пісьменніка колам чытачоў Памятаю вострыя спрэчкі вакол апавядання «Свет Іванавіч былы донжуан» Аповесць «Адзін лапаць. адзін чунь» стала падзеяй вельмі прыкметнай Па-другое стральцоўскія артыкулы і эсэ. Працуючы ў «ЛіМе», нельга было не пісаць рэцэнзій пэўных матэрыялаў да літаратурных дат І з першых жа публ кацый гэтага жанру акрэслілася адметная эсэістычнасць стральцоўскага пяра вытанчанасць стылістыкі культура мыслення інтэлігентнасць Нельга было не дзівіцца, колькі гэтым зусім яшчэ маладым чалавекам было назапашана душэўнага досведу колькі было начытана адчута перадумана Бліскучая арыентаванасць у еўрапейскай літаратуры у рускай, не кажучы ўжо аб роднай Стральцоў адразу заняў у беларускай літаратуры сваё месца, сваю нішу і мабыць, можна дастаткова рашуча акрэсл ць АДКУЛЬ ён ідзе. Але яшчэ пару слоў пра яго эсэістыку

Ці не пра Кузьму Чорнага ўзяўся ён напісаць для газеты Памятаю, Міхась знік на колькі дзён з рэдакцыі І вось прыходз ць, дыктуе — тры-чатыры старонкі машынапісу Невялічкае эсэ. Але — такое шчыльнае! Адным духам чыталася Не магло не ўразіць трапныя назіранні сваё свежае, важкае слова актыўнасць перажывання

**Ю.З.** Напэўна таму спрыяла яго ўнутраная паэтычнасць паэтычнае ўспрыняцце рэчаіснасці?

**У.Б.** Можна валодаць развітым паэтычным успрыняццем рэчаіснасці (і рэчаіснасці літаратурнай таксама), але пры гэтым кепска арыентавацца ў рэальнай праблематыцы жыцця У Стральцова ж — менавіта начытанасць, арыентаванасць у свеце літаратуры а галоўнае — арыентаванасць у *балючых кропках душы сучасніка* найвял кшая спагадлівасць да гэтай душы Колькі ён пакутаваў з-за душы чалавечай — сваёй, чужой — па вялікім рахунку па дробязях. Дробязяў у людзях для яго не было. Ён умеў паспагадаць, суперажыць, усцешыць, зразумець. Інтэлігентнасць арганічная Ніколі не стамлюся вымаўляць гэтае слова ў дачыненні да Стральцова

Ну і нарэшце паэзія Яго першыя вершы парушалі звыклае і напрацаванае беларускай паэзіяй тут не было ўсялякіх «гімнаў» але чуваць было «як гарыць цыгарэта кінутая некім на вуліцы», відочны былі «зялёныя кругі жыцця» Для мяне, як чытача стральцоўскія парушэнні звыклага ў паэзіі гэтак жа заўважныя нечаканасцю як і рэчы Разанава Пры ўсёй індывідуальнасці кожнага гэта праявы РОДНАСНЫЯ — па культурнай глебе якая іх жыв ць па ўнутраным напале і напяцці радка Многім аўтарамі друкуюцца кіламетры вершаў дзесяткі тысяч тэм, матываў уздымаецца, і хвалюючых, і цікавых, але з гэтых кіламетраў столькі напісана як бы адной рукой і перажыта як бы адным (нейкім сярэднеарыфметычным) узроўнем біцця сэрца . Фармальна — нібыта пісьменныя вершы, але каб прыйсці ў паэзію і сказаць. Я — ТОЙ ХТО ШЛЯХ, І ХТО ПА ІМ ІДЗЕ (А.Разанаў), альбо: «Кіну рыну — пакіну

ленасцю, псіхалагічнай няпэўнасцю, усё тым жа непадманным сумам. Яму заўсёды патрэбна была экзістэнцыйная адлегласць паміж выпадковым уражаннем і неабходным назіраннем, і калі яна з'яўлялася, то выяўленне яе іншы раз было самым шчасліва-немудрагелістым:

*Стоячы перад люстэркам*
*ён доўга сябе пазнаваў...*

Ён паэт неаўтабіяграфічны. Зрэшты, уся наша паэзія такая. Паспрабуйце, напрыклад, у вершах Купалы ці Вярцінскага знайсці дакладныя прыкметы іхняга жыцця. Не знойдзеце. Аўтабіяграфізм, калі і прысутнічае ў беларускай паэзіі, то абавязкова з нейкім асаблівым, цяжкім для чытання кодавым знакам. У гэтым сэнсе наша паэзія даволі зашыфраваная, ва ўсякім разе не такая адкрытая, як, напрыклад, руская.

У Яго вершаваных краявідах, і ў празаічных таксама, дамінуе ўмоўнасць — Ягоная вёска не мае канкрэтнай назвы, як і Ягоны горад. Гэта Вёска ўсіх нашых вёсак, і Горад усіх нашых беларускіх гарадоў.

Дакладна пазначаны хіба што літаратурна-міфалагічныя алюзіі і вобразы. Але калі вобразы літаратурныя ўвайшлі ў Яго паэзію тэматычна, як у вершах «Пачатак», «Купала», «Міцкевіч на Беларусі», «Вечаровае», «Экспромт» і інш , то вобразы міфалагічныя ўзбагацілі Яго пісьмо на больш высокім — сэнсавым узроўні. Тут я маю на ўвазе і радок пра сонечнага Феба ("Развагай сталае пары..."), і верш пра неасцярожнага Фаэтона ("Фаэтон"), і згадку пра Кастальскую смагу ("Прыехаў сябра"), а таксама пра гаючы эфірны скавышок ("А будзе час, калі і без нагоды...").

Ягоная паэзія — творчасць стомленай душы, разгубленай не так перад жыццём, як перад сваімі пачуццямі. У зборніках «Ядлоўцавы куст» і «Цень ад вясла» ёсць яшчэ нейкі бунтоўны штуршок, надзея на ўсё тое ж каханне, аднак у апошняй кнізе «Мой свеце ясны», нягледзячы на яе праставата-бадзёрую назву, ад гэтай надзеі застаўся толькі цень.

Дарэчы, цень — любімае Яго слова, таксама, як і сініца — птушка, вобраз неабароненасці і душэўнага святла.

Ён не трымаў сініцу ў руцэ і не імкнуўся лавіць яе — проста любіў слухаць, любіў вітацца з ёю, стоячы ў ценю. Цень — прытулак для патрыцыяў, пазбаўленых матэрыяльнай улады. У адным з вершаў, якраз у тым, дзе сасна ўявілася Яму тарпейскай скалой, Ён жартоўна ахрысціў сябе выгнаным патрыцыем, не падазраючы ўсёй праўдзівай дакладнасці такой самаатэстацыі. І сапраўды ў нашым прыгожым пісьменстве Ён быў выгнаннікам[1] з літаратурнага сената — самакрытычным арыстакратам слова, якому было балюча глядзець на свае ранейшыя здабыткі, асабліва празаічныя. На зборніку прозы «Журавлиное небо» трэцяга верасня 1983 года Ён зрабіў мне такі надпіс: «Браце Леанід! Мне здаецца, што ўсе ўжо забыліся пра маю прозу і мне ж самому згадваць пра яе балюча ці надару цябе чым новым? Маліся за мяне Твой...»

Ён дарэмна хваляваўся, пра Яго прозу не забыліся ні даўнейшыя чытачы, ні пакаленне

Гэты дом на гары, Горкі дым успаміну Хай развеюць вятры .» (М Стральцоў). Здавалася б, гранічна традыцыйна, але — якое напяцце пачуцця і якая натуральнасць інтанацый!

Такім чынам тры іпастасі Стральцова проза эсэістыка паэзія Гэта праявы аднаго — высокага!— кшталту аднаго ўзроўню.

**Ю.З.** Ці не знаходзіце што апроч начытанасці у Стральцова само жыццё варункі жыцця былі балючай кропкай? Маю на ўвазе развітанне з вёскай тым векавечным ладам жыцця з якога паэт выйшаў і мусіў быў назаўсёды яго пакінуць.

**У.Б.** Ну, калі пісаў пра гэта значыцца — не пакінуў Тут я вымушаны крануць матывы якія прагучаць дысанансам з распаўсюджанымі і як бы ўжо ўсталяванымі поглядамі

Справа ў тым што ў каго пальцам ні пакажы з нашых сучасных паэтаў і празаікаў — ледзь не перад кожным так ці інакш стаяла гэта праблема І перад пасляваенным пакаленнем таксама. І нават раней Задоўга да вайны было засведчана цяпер ужо сапраўды класікам «Зноў шкода мне родных аселіц скрыпучых на полі калёс Туман серабраны абеліць атаву звінячую, плёс. Зара на куросаднях ціха збіраецца ўжо начаваць а мне яшчэ хочацца крыху на ржышчы старым пастаяць .» Хочацца «каб і без мяне мае зоры гарэлі над вёскай маёй .» Я гарадскі чалавек, а ўсё жыццё са мною гэтыя радкі Аднекуль адтуль, з дзяцінства калі давялося і вясковага жыцця паспытаць удосталь Пасля прыйшло пакаленне, якое засведчыла вуснамі Рыгора Барадуліна «Трэба дома бываць часцей трэба дома бываць не госцем .» (Гэтае натуральнае пачуццё не замінае яму засвоіць сэрцам большыя абшары і ў прасторы, і ў часе ). А шмат хто так і застаецца на мяжы паміж горадам і вёскай· і сваёй несумненнай сувязі з народнай культурай не рэалізуе (як натуральна рэалізаваў яе, напрыклад, Антон Бялевіч), і выкшталцонасці культуры гарадской не дасягае. Так і застаюцца недзе паміж горадам і вёскай. Не хапае, мабыць таго чым так багаты быў Міхась Стральцоў

**Ю.З.** Я аднак, меў на ўвазе менавіта тое, што Міхась Стральцоў можа, як ніхто ў пару 60—70-х гадоў здолеў адчуць драму вёскі

**У.Б.** Мне здаецца, не ўсё так проста Тое што ён адчуваў драму і можа, адным з першых, калі не першы па-мастакоўску выявіў яе — гэта факт Але «драма вёскі» — толькі часцінка тае драмы, што выяўлена ў творчасці Міхася Стральцова. Пра гэта мабыць, даследчыкі яго творчасці яшчэ скажуць Ім яшчэ трэба ПРАЙСЦІ ШЛЯХ Стральцова Яны — на пачатку шляху Наўрад часцінку драмы варта выдаваць за ледзь не пануючы матыў хоць знешне гэтая драма здольна падацца зручным стрыжнем на які можна «насадзіць» аналіз творчасці гэтага пісьменніка Вельмі зручна залічыць Стральцова да так званых «деревенщиков» але ён востра адчуваючы і выяўляючы драму вёскі выходзіць усё ж на іначшыя абсягі чалавечай драмы Разумееце, як назваць тую драму што вынікае з ажыццяўлення мары Паўлюка Труса «О край палёў калі ж ты станеш краем фабрык дымных і машын? .»? Ну стала Беларусь «краем фабрык» Цікава было б суаднесці гарадскія матывы лірыкі Труса і Стральцова Не зразумейце так, быццам рупіць мне тут экалогія матухны-прыроды Яна канешне, рупіць. Але Стральцоў адчуў прадонне ЭКАЛОГІІ ДУШЫ У «сямі восьмых» айсберга ягонай паэзіі і прозы адчувальная праблема праблем абездухоўленне чалавека — ці не ёсць гэта працэс незваротны Міхась востра адчуваў· для любога чалавека апроч здольнасцяў і таленту патрэбна *культура абыходжання* са сваімі здольнасцямі і талентам. Патрэбна *работа душы*. А яе выцясняе празмерна сур'ёзнае да сябе стаўленне, эгацэнтрызм, страта здольнасці адчуваць чужы боль як свой Паўтару· да адэкватнага прачытання Стральцова — яшчэ ШЛЯХ І ШЛЯХ.

**Ю.З.** Нагадаю: вы сказалі, што можна акрэсліць, АДКУЛЬ ён ідзе.

**У.Б.** Натуральна Найперш Міхась Стральцоў узнік як пачатак самога сябе. Для яго надта ж прыдатнае азначэнне Разанава Я — ТОЙ ХТО ШЛЯХ, І ХТО ПА ІМ ІДЗЕ Так-так. Стральцоў быў і шляхам, і тым, хто па ім ішоў Дык АДКУЛЬ ЖА усё-такі?

Некалі моцна выцяла па сэрцы кніга «Загадка Багдановіча» З'яўленне гэтай рэчы здзівіла Не ведаю, як знаўцы Багдановіча ўспрымаюць яе, хоць у кніжкі, здаецца, добрае імя,— магчыма, пэўныя даследчыкі і з пачуццём рэўнасці ставяцца да высноў Стральцова, які зусім нечакана выйшаў да чытача з адметнай, нестандартнай, тыпалагічна новай літаратуразнаўчай работай. Калі б мы былі меней заклапочаныя «табелем аб рангах» празмернай увагай да«іерархіі», дык за такую работу не грэх было б прысудзіць аўтару навуковае званне. Пры нашай жа культуры літаратурнага і навуковага побыту дарэмна было чакаць такой павагі да адкрыццяў калегі А ў «Загадцы Багдановіча» адкрыцці ёсць. І Міхася Стральцова, чалавека, з якім сустракаўся кожны дзень, я тады ўбачыў іначшымі вачыма Якая найтанчэйшая духоўная душэўная структура, з якіх балючых, найтанчэйшых ніцяў выткана гэтая душа І кожная з ніцяў трымціць і баліць усімі болямі рэчаіснасці — сённяшняй учарашняй, заўтрашняй — і ўсімі болямі культуры Дзякуючы яму бачыш трагізм культуры засведчаны праз вострае маральнае адчуванне канфлікту бацькі і сына Багдановічаў — Чалавечае адкрыццё. Тое, што ўсе імкнуліся загладзіць, прыхарошыць, Міхась Стральцоў не пабаяўся выявіць. Чаму? Адказ у паэзіі Багдановіча: «Проці цячэння вады зможа толькі жывое паплыць. .» З тым балючым, што было ў лёсе Багдановіча, Стральцоў не пабаяўся сутыкнуцца. І гэта не прыватны матыў канкрэтнай біяграфіі канкрэтнага паэта і пісьменніка (маю на ўвазе і Багдановіча, і Стральцова); інтэнсіўнасць іх болю з нагоды чалавечай драмы — гэта мадэль нечага істотнага ва ўсёй нашай культуры Тут можна бачыць нейкія прыкметы року, кону, «ананке» Прыкметы таго што стагоддзямі навісае над беларускай культурай.. Вунь калі не «зарана» было гаварыць пра Стральцова НА ПОЎНЫ ГОЛАС — калі ён адкрыў «свайго» Багдановіча І па сёння ці адэкватна перажыта чытачом стральцоўская «Загадка Багдановіча»?..

Міхась Стральцоў па самой існасці свайго таленту — з нішы Багдановіча Ён увесь — з тых імпульсаў, што ад Максіма-кніжніка сыходзяць. АДТУЛЬ яго шлях.

**Ю.З.** Такім чынам на пытанне «АДКУЛЬ Стральцоў? » вы адказваеце — «Ад Багдановіча»?

**У.Б.** Так.

Некалі шмат хто ішоў за Багдановічам Але, як ведаеце былі 20—30-я гады Арбіты літаратурнага развіцця былі груба парушаны, і многія творцы былі адштурхнуты ад «багдановічаўскага шляху» Аднадумцам Багдановіча быў Бядуля — яны сябравалі Гарэцкі — сучаснік Багдановіча — маліўся на яго, распрацоўваючы свой накірунак (дарэчы Гарэцкі і Стральцоў — асобная тэма для даследчыкаў). І быў цэлы шэраг маладых паэтаў 20—30-х гадоў

маладзейшых пісьменнікаў. Немагчыма было забыцца, бо ў гэтай прозе перажытае тоесна лексіцы, і аўтарская інтанацыя бездакорная роўна настолькі, наколькі гэтага было патрэбна цнатлівасці пачуцця.

Дык вось, калі Ягоная паэзія — творчасць стомленай душы, для якой боль, выказаны ў слове, не застаецца словам, застаецца самім сабой — болем, то проза ( у тым ліку і «Загадка Багдановіча») — маладое свята сінтаксісу, у якім і боль, і радасць, і тужлівы роздум яшчэ неад'емныя ад слова. З цягам часу ідэалізм гэтай неад'емнасці даўся ў знакі, ледзьве не ператвараўся ў таўталагічны прыгнёт, і Ён зразумеў, што неабходны змены — стылёвыя, жанравыя, нават светапоглядныя. У «Смаленні вепрука» — апавяданні апавяданняў беларускай літаратуры,— пішучы эпітафію няздзейсненаму твору, Ён напісаў эпітафію і сабе, празаіку Мастакоўская метамарфоза адбылася — ідэалізм прозы канчаткова саступіў свядома абранай паэзіі.

Вядома, у гэтай метамарфозы былі і больш значныя падставы. Назаву іх нацыянальна-спадчыннымі. Ён, беларус, як ніхто з нашых пісьменнікаў адчуваў, што належыць да нацыі, якая ўсё яшчэ лепш сябе выказвае ў паэзіі, чым у прозе. Гэта асаблівасць, як вядома, тлумачыцца перш за ўсё маладосцю беларускага этнасу, пачуццёвай, а не разумовай спецыфікай яго мовы.

На жаль, Ягоная творчая метамарфоза не была пазбаўлена істотнай супярэчнасці. Свядома выбіраючы паэзію ў адрозненні ад прозы, дзе выбар жанру быў непрадузяты, мала залежны ад рацыянальных умоў, жадаючы выказацца лепш, абсалютна па-беларуску, Ён не пазбег, і не мог пазбегнуць, своеасаблівай эстэтычнай антыноміі. Назаўсёды развітваючыся з прозай, не падазраваў, што Яму, як мастаку, найпаўней наканавана было выказацца не ў паэзіі, а менавіта ў прозе, дзякуючы якраз непрадузятасці выбару апавядальнага жанру.

Прадчуваю пытанні: дык што, паэзія — памылка ў Ягонай творчай анкеце і Ён не паэт?! А як жа тады разумець пачатковую думку гэтага артыкула, што сутнасна Ён быў і застаецца паэтам?

А так і разумець, што перш за ўсё Ён паэт І не толькі ў вершах — у апавяданнях і ў эсэ таксама. І чыста жанрава Ягоная паэзія ніякая не памылка, а запозненае дзіця, народжанае не ад юнацкай страсці, а ад сталага жадання мець яго.

Яшчэ могуць быць пытанні: што значыць «назаўсёды развітваючыся з прозай, Ён не падазраваў...» і г.д.?! А калі Ён не мог далей пісаць?! Калі Ён скончыўся як празаік!

Не, не скончыўся. І пісаць Ён мог гэткія ж, як і пісаў, апавяданні, нават аповесці. Але Ён не мог сабе дазволіць паўтораў, таму развітанне з прозай было прадвызначана.

Пра «Загадку Багдановіча», бясспрэчную Яго мастацкую ўдачу[2], трэба сказаць асобна — асобна ў тым сэнсе, што гэта не хваласпеў самаму трагічнаму нашаму песняру, гэта, калі хочаце, інтэлектуальны ўздых, нават плач па нашых страчаных магчымасцях.

Асноўны матыў «Загадкі» скрушлівы — нарэшце лёс даў Беларусі паэта, праз творчасць

доў, якія адбыліся як творцы, але не цалкам раскрыліся . Ну а на спадчыну Багдановіча тагачасныя «ідэолагі» глядзелі праз павелічальнае шкло, вышукваючы што б там вырваць з літаратурнага ўжытку (прыгадайце, як доўга не перавыдавалася літаратурна-крытычная і публіцыстычная спадчына Багдановіча). Дык вось, Стральцоў — гэта не што іншае, як актыўнае аднаўленне глыбіннага разумення традыцыі, менавіта накірунку багдановічаўскай традыцыі як адной з вядучых у беларускай культуры (на мой погляд, дык і самай плённай). Сёння зусім відавочна што багдановічаўская традыцыя — адз ны нармальны шлях, на якім могуць быць вырашаны праблемы адраджэння нашы сённяшнія і заўтрашнія праблемы, вырашаць нашы сённяшнія праблемы калісьці пачаў Максім Багдановіч! Вось што важна зразумець, шукаючы адказу на вашае пытанне аб своечасовасці ні несвоечасовасці цяперашняй увагі да Міхася Стральцова

Так, праблемы нашага адраджэння пачаў вырашаць Максім Багдановіч Задаў танальнасць і ўзровень вырашэння гэтых праблем. Уладзімір Караткевіч ледзь не класічна ўпісваецца ў намаганні, да якіх далучаю Міхася Стральцова І пра Караткевіча можна сказаць што яго пачатак — ад Максіма-кніжніка Мы столькі дзесяцігоддзяў пагарджаем кніжнікамі. Мы любім — каб «ад вёскі» «ад сахі», «ад бараны» Ці зжытыя, урэшце славутыя заклікі «ўдарнікаў» у літаратуру?! Канешне, мо занадта завастраю. Ды не зразумейце так, быццам Купалу і Коласа процістаўляю Багдановічу Яны ж таксама — «ад кніжніка»

**Ю.З.** У мяне склалася такое ўражанне, што Стральцоў быў досыць адзінокім творцам у сваім часе.

**У.Б.** Ну які ж ён адзінокі калі побач — Караткевіч Разанаў Барадулін Адамовіч, Быкаў? Сёння развіваецца ў гэтым рэчышчы творчасць Уладзіміра Арлова, і дай яму Бог надалей асталявацца І сярод самых маладых сёй-той спараджае аптымістычныя надзеі

**Ю.З.** Баюся, Уладзімір Андрэевіч што ў нашай гутарцы скора перабяром усіх сяброў рэдкалегіі новай «Крыніцы» — Разанава Арлова Чытачы могуць не так зразумець

**У.Б.** Даруйце, але я не ведаю, хто сябры рэдкалегіі (Смяецца.) А што, Дранько-Майсюк, выпадкам не сябра рэдкалегіі? Мне карціць і яго тут назваць.— Дарэчы калі з Міхасём працавалі ў «ЛіМе» тыя матэрыялы дзе аўтары былі з намі нязгодны, палемізавал мы ў першую чаргу рыхтавалі да друку старанна захоўваючы папрокі ў свой адрас. Падшыўкі газеты могуць пацвердзіць, што чыстую праўду кажу.— Я кажу пра Разанава і Арлова не як пра членаў рэдкалегіі а як пра пісьменнікаў якіх чытаю. Прадмет гаворкі вымагае таго каб іх мёны тут назваць — іншыя ў кантэксце гэтых разваг не стасаваліся б. Гэтак удакладняецца адказ на вашае няпростае пытанне: гэта сёння добра відаць, што Стральцоў не быў адзінокі А тады мабыць, і Стральцоў і Караткевіч і Разанаў і Барадулін — кожны па-свойму быў адзінокі Разанаў сёння хіба не адзінокі? (Прашу шаноўнага сябра рэдкалегіі захаваць і гэтае можа, занадта суб'ектыўнае меркаванне Што зробіш так успрымаю. )

**Ю.З.** Як Міхась Стральцоў пачуваўся ў кантэксце свайго часу і свайго пакалення, як ён рэагаваў на пэўную заангажаванасць — ці то палітычную ці суполкавую, як ён існаваў?

**У.Б.** Чалавеку які займаўся літаратурнай крытыкай існаваць у тыя часы было вельмі няпроста І шляхі выяўлення свайго стаўлення да таго што з'яўлялася ў літаратуры былі роз-

якога Беларусь магла б эстэтычна рэалізавацца ў свядомасці свету гэтаксама, як, напрыклад, Францыя рэалізавалася праз творчасць Верлена. Магла б, каб не занадта кароткі век паэта! У выніку праз Багдановіча, праз тое, што ён паспеў напісаць за свае няпоўныя дваццаць шэсць гадоў. Беларусь рэалізавалася толькі дзеля сябе самой — гэта значыць, не ў свядомасці свету, а ў сваіх яшчэ не надта нацыянальна-устойлівых думках і адчуваннях.

Для мяне, чытача, тэкст «Загадкі» — звычайны. Незвычайная ж пазатэкставая прастора, у якой аўтар і герой набываюць непарыўную еднасць. Мастацтва, радзіма і жанчына — вызначальныя каардынаты гэтай еднасці. У адносінах да мастацтва яны, аўтар і герой, сышліся на апалогіі Сальеры (праўда, пры гэтым не адмаўляючы і маццарціянскаму падыходу да творчасці), у адносінах да радзімы іх аб'яднала пакута; у адносінах да жанчыны — расчараванне, якое вынікла з несумернасці выпадковай асалоды сямейнаму шчасцю.

Але ў гэтым яна і ёсць, доля паэтаў — за хараство хвіліннападуладнай асалоды расплочвацца перадсмяротным расчараваннем.

Леанід **ДРАНЬКО-МАЙСЮК**
10 траўня 1994

[1] Аднак не трэба разумець гэта ў сэнсе нейкіх спланаваных супраць Паэта рэпрэсій. Лёс выгнанніка быў наканаваны Яму ўласным талентам (заўвага мая. *Л.Д.-М.*)

[2] Праўда, мяне крыху бянтэжыць у гэтым эсэ празмерная колькасць цытат





ныя Для Стральцова гэта было няпроста па-свойму, у яго былі свае шляхі Яго інтэлігентнасць дапамагала яму знаходзіць выйсце, здавалася б, з безвыходных сітуацый Як ён рэагаваў на «заангажаванасць»?

У нас так часта гэтае паняцце напаўняецца неадэкватным зместам Мне здаецца выдатна разумеў сваю заангажаванасць і адказна да яе ставіўся Максім Багдановіч. Ён бліскуча выканаў усе задачы сваёй заангажаванасці Гэтак жа і Уладзімір Караткевіч, і Алесь Разанаў, і Васіль Быкаў і Алесь Адамовіч і кожны, хто па-сапраўднаму заангажаваны РОДНАЙ КУЛЬТУРАЙ Заангажаванасць, на жаль разумеюць часта зусім механічна. Гэта ж і ёсць той самы «сацыяльны заказ», які чамусьці блытаюць з заказам адміністрацыйным А справа ў тым што сацыяльны заказ (заангажаванасць) заказ адміністрацыйны — рэчы зусім розныя Адпаведным «інстанцыям» у свой час мабыць, было выгадна за сацыяльны заказ выдаваць заказ адміністрацыйны які і зыходзіў з «інстанцый» А сацыяльны заказ НЕ ЗАЛЕЖЫЦЬ ні ад якой адміністрацыі бо ён фармулюецца не ёю, не ЦК партыі не парламентам ці Саўмінам незалежнай Беларусі — гэта калі заўгодна ПАТРЭБА ЭПОХІ Эпоха ангажуе творцу БЕЛАРУСЫ НІКОГА НЕ МАЮЦЬ? — «НЯХАЙ ЖА ХОЦЬ БУДЗЕ ЯНКА КУПАЛА»! Вось вам вырашэнне сацыяльнага заказу Аніякая адміністрацыя не была зацікаўлена ў такім вырашэнні Затым Багдановіч з'явіўся Яго выклікала да жыцця патрэба няшчаснай культуры, якая ніяк не магла асталявацца, заціснутая ў «Северо-Западном крае» Патрэба пашыраць рамкі роднай культуры, ставіць яе на «пачэсны пасад між народамі» (гэта Купалавы словы і больш позні я) — Багдановіч гэта адчуў найвостра, заангажаваны роднай культурай. Вось жа была тая ноч у жыцці Багдановіча, калі ён стварыў «Пагоню» «Хай пачуюць, як сэрца начамі аб радзімай старонцы баліць» Хай пачуюць! Вось вам вырашэнне сацыяльнага заказу Трэба было зафіксаваць БОЛЬ І гэтым болем былі заангажаваны і Купала, і Колас, і Багдановіч, і Бядуля і Гартны, і Гарэцкі, і Гарун Мы заангажаваныя сёння, як некалі Алесь Гарун «Дык шануй, Беларус, сваю мову — Гэта скарб нам на вечныя годы, За пашану радзімаму слову Ушануюць нас брацця-народы!» Не чую гэтага чатырохрадкоўя сёння хоць зборнік Гаруна перавыдадзены ..

Стральцоў і вырашаў (у самых нетрах таталітарызму) сацыяльны заказ — сапраўдны а не адміністрацыйны У гэтым сэнсе ён быў заангажаваны як і Багдановіч, і Купала, і Колас... Як Быкаў сёння заангажаваны Уся творчасць Алеся Адамовіча — хіба гэта не заангажаванасць? Шчасце лёсу Стральцова ў тым, што ён адэкватна адчуваў і рэалізаваў сваю заангажаванасць. Ён вырашаў сацыяльны заказ эпохі зразуметы не вульгарна-сацыялагічна, а — сутнасна

У гэтым сэнсе своечасовая ці не своечасовая ўвага да Стральцова — не зусім тое пытанне. Аб'ектыўна ён існуе і застаецца нашай сучаснасцю. Ён — наша ПЯКЕЛЬНАЯ БАЛЮЧАЯ СУЧАСНАСЦЬ Варта разгарнуць любы зборнік яго вершаў эсэістыкі каб пераканацца. Міхась Стральцоў — еўрапейскага кшталту пісьменнік. І гэта — ад арыентаванасці на культуру, на творчасць, на літаратуру як ДАР (Багдановічава слова). Дар можа быць, калі мы патрабавальныя да сябе калі на еўрапейскім узроўні працуем і творым, калі не даем сабе паслаблення як Міхась Стральцоў Міхась не даваў сабе паслаблення за рабочым сталом, востра адчуваючы што не ў гісторыі а побач і Купала і Колас, і Багдановіч, і Адамовіч і Быкаў, і Барадулін, і Разанаў і тыя, што яшчэ прыйдуць. Не ў тым справа, у першым ці другім па-

# «...скруха скорыцца журбе»

**У архіве Валянціны Міканораўны Шчадрыной[1] сярод мноства лістоў беларускіх пісьменнікаў захоўваюцца і лісты ад Міхася Стральцова. Тры з іх прапануем вашай увазе. Пісаў іх паэт з мазырскага ЛТП.**

**Знаходжанне ў гэтай установе прыемным ніяк не назавеш. Паэту патрэбна была дапамога, маральная падтрымка. І шмат хто дапамог яму, у тым ліку і Валянціна Міканораўна. Даведаўшыся, дзе апынуўся аўтар «Загадкі Багдановіча», пазваніла ў Нароўлю свайму старэйшаму брату, папрасіла яго наведаць Стральцова. Вяла таксама перамовы з Іванам Шамякіным наконт датэрміновага вызвалення паэта з ЛТПоўскай зоны. Па просьбе Валянціны Міканораўны Шамякін звязваўся з пракурорам Гомельскай вобласці... Не ўсё проста складвалася ў гэтым, далёкім ад літаратуры, сюжэце — тым не менш, вызваленне было датэрміновым.**

**Лісты М Стральцова да В М. Шчадрынай маюць відавочную для чытача цікавасць, бо напісаны мастаком, які цудоўна валодаў і эпісталярным жанрам.**

**Рэдакцыя**

каленні ён інтэлігент. Інтэлігентнасць — гэта не толькі адукаванасць, гэта — формула душы, яе вартасць, якасць, здольнасць адчуць БОЛЬ

Адчуванне болю ў Стральцова увесь час было. І можа, ад таго — яго асабістая трагедыя.. Міжволі прыгадваецца лёс Сяргея Ясеніна. Піў Ясенін не ад таго, што быў разбэшчаны як многія сцвярджаюць,— ЯМУ БАЛЕЛА. Каб зразумець асабістую трагедыю Стральцова ёсць адзін толькі шлях: паглыбіцца ў яго паэзію, пагарджаючы любымі плёткам Перш чым вымаўляць папрокі, варта як след падумаць, якія невырашальныя праблемы перад гэтай душой стаялі Наўрад ці акрэслім карані гэтай драмы Але мусім зразумець, як жа было чалавеку цяжка і балюча, што не заўсёды ён быў здольны спраўляцца са сваім душэўным станам

**Ю.З.** Хацелася б пачуць і пра тое, якім быў Міхась Стральцоў у звычайным, паўсядзённым жыцці, якія ў яго былі манеры зносін з сябрамі і калегам , як ён ставіў сябе ў літаратурным асяроддзі

**У.Б.** Вельмі няпростае пытанне Яно — прадмет асобнай гаворкі Абмяжуюся найістотнымі (і, на мой погляд, найкаштоўнымі) штрыхамі

Ён быў іранічны Гэта была адмысловая іронія вытанчаная — спецыфічна стральцоўская Але найперш — самаіронія «Ну, як жа мы ж з табою сябры а гавару з табою як класік! .» Гэта была культываваная самаіронія І — нярэдка балючая з разуменнем таго што нічога не пераробіш у пэўнай жыццёвай сітуацыі Адсюль — далікатнасць Адсюль — магутны але прыхаваны БОЛЬ Адсюль — бескампраміснае ўзіранне ў сябе.

Калі чужы артыкул трапляў на рабочы стол Міхася — ці ў «ЛіМе» дзе разам працавалі, ці ў «Нёмане», дзе ён працаваў апошнія месяцы жыцця — аўтар мог быць спакойны, бо ведаў артыкул будзе прачытаны адэкватна, адэкватна зразуметы і вельмі далікатна і асцярожна без страт для аўтарскай думкі, падрыхтаваны да друку Я, напрыклад, ведаў загадзя, калі пісаў па яго замове: Стральцоў усё зразумее дакладна і можна сябе не абмяжоўваць. Бывае, пэўны чыста эмацыянальны «піруэт» замяняе сабой пяць-шэсць абзацаў лагічнага развагання Стральцоў такія моманты заўсёды разумеў, умеў ім радавацца

У нас неяк не замацавалася ў побыце завядзёнка званіць па тэлефоне прачытаўшы кнігу ці артыкул калегі А Стральцоў не стамляўся званіць. (Яшчэ такі быў — Рыгор Бярозкін.) Можна было з ім год не сустракацца, але вось недзе выходзіць твой артыкул, які прыцягнуў яго ўвагу,— і раптам званок. «Гэта Стральцоў Стары я прачытаў маю сказаць. .» Не было слоў пустой пахвалы ці павярхоўнага незадавальнення — было аргументаванае ПЕРАЖЫВАННЕ таго, што табе ўдалося, а што — не.

Можна выводзіць Стральцова і ад Чэхава. Бо прынцыпы яго літаратурнага і чалавечага існавання былі замацаваны на маральных імператывах лёсу і творчасці Чэхава Не ўспрымаць сябе занадта ўсур'ёз. Ён, Стральцоў ніколі не ўспрымаў сябе «занадта ўсур'ёз» (як успрымаюць сябе многія сённяшнія літаратары). Да пісьменніцтва як да генеральства ён не ставіўся, у яго не было той надзьмутасці і пыхі, якой вее ад усякага «псеўда» Ён быў сапраўдны пісьменнік і добра ведаў што гэта накладвае шмат адказнасці І ён тую адказнасць нёс. Балюча нёс — мы слушна кранаем гэты матыў

**Ю.З.** І смерць яго была пакутнай.

**У.Б.** Вельмі Гэтая душа не заслужыла такіх пакутаў цела

---

**Уважаемая**
**Татьяна[2] Никаноровна!**

**Говорить ли о впечатлении, под которым я нахожусь еще и теперь, несколько дней назад простившись с Вашим милым братом[3]? Скажу просто я очень и очень благодарен вам обоим — поистине, прав был кто-то, сказав однажды, что истинные белорусы живут где угодно, но... Простите мне готовую сорваться с языка хулу на «абарыгенаў».**

**Да, история моя в достаточной мере грустна, но что же делать? Стараюсь не ударяться по сему поводу в мировую скорбь...[4] Конечно, «медлительно влекутся дни мои», но упование и надежда на то,**

**Што скруха скорыцца**
**журбе,**
**Душа ізноў рахманай**
**стане —**

**и поддерживает, и даже духом воспарить иной раз понуждает Вот как в нашем с вами теперешнем случае и мне опять хочется сказать спасибо.**

**Напишите мне несколько слов, буде охота. Я знаю, некоторая одиозность моего теперешнего адреса Вас не смутит — просто не хочу слишком бессовестно посягать на Ваше время. Всё же напишите, а?**

**Что нового в стольном?**

**Будьте здоровы и благополучны.**

**Ваш М. Стральцоў**
**12.12.81**
**247760 Мозырь-11, ЛТП-2**





P S Дыялог адбыўся «знянацку» Перачытаўшы тэкст, хацеў быў нешта дадаць. Аднак гэта стаў бы ўжо не той дыялог Таму — постскрыптум

Было шчаслівае лета калі штораніцы сустракаліся на Камсамольскім возеры не зважаючы на надвор'е, плавалі ў празрыстай яшчэ не парушанай купальшчыкам вадзе Пасля ішлі снедаць і — праз утульныя зялёныя дворыкі Старажоўкі — да плошчы Перамогі на вуліцу Захарава у «ЛіМ»

Бывала, і пад выхадныя ўвечары шлі з работы да яго — на Чарнышэўскага размаўлялі чыталі вершы да раніцы а з ранішнім сонцам — шл да мяне зноў гаварылі чыталі вершы Пра што гаварылі? Пра ўсё тое што эскізна закранута ў гэтым дыялогу (натуральна, у інакшых фармулёўках), пра жыццё, пра ўсё чыста Калі і напішу ўспаміны пра Міхася, дык размовы (напаўзабытыя) выдумляць, як гэта часам робяць мемуарысты канешне ж, не стану Але арыенцір для ўспамінаў, пра што гаварыл і часта, падоўгу знайшоў напрыклад, у яго «Вузельчыку на памяць» пазначаным познімі датамі — 1982 1985 Вось яно: «У Макса Фрыша. Ён — герой — пасля ночы блізкасці з каханай як бы мімаходзь адзначае сабе, «спадзяецца што ў сне не хроп» І далей думае пра нешта падобнае. Вось такая дробязь. А мне падумалася як часта мы абыходзім вось такія дробязі, якім у мастацтве няма цаны Каторы наш аўтар ці проста не звярнуў бы ўвагу на такое (банальна! дробязна!), ці такое, каб напісалася, выкрасліў бы маральна пільны рэдактар. Бо такое часам наша разуменне маральнасці мастацкасці»

Пацверджанне таго што не перабольшваю значэння Багдановіча для Стральцова аказваецца, ёсць у Алеся Адамовіча «І заўсёды з ім — можа як самае раданае творча бл зкае — Максім Багдановіч Гэта не выпадкова .»

Пра Багдановіча (са Стральцовым) гаварылі шмат Мабыць, асабліва шмат калі даспявала яго «Загадка Багдановіча» З далёкіх часоў помняцца паэтычныя радкі Міхасёвы пра «жыцця зялёныя кругі» якія самкнуцца над галавой калі «перагару я ападу я» (як жа няблізка тады ўсё гэта вымалёўвалася .), пра яго адчуванне, што за ім «тыл з любві пяшчоты дабраты», нарэшце — пра выказанае ў адным з самых кароткіх яго вершаў «Ноч Сон не йдзе. Чую як гарыць цыгарэта кінутая некім на вуліцы — пад ліпу на ссохлы прыпылены дол Нянавісці да сябе праз сцяну не пачую. .»

Недзе ў Хэмінгуэя. «Мир был ясный и четкий лишь слегка затуманенный по краям .»

І ўсё чыста і апошнія сустрэчы (ён так хацеў каб яшчэ ў якой рэдакцыі папрацавалі разам!..) асветлены былі пачуццём тых першых гадоў калі столькі заставалася наперадзе калі свет сапраўды здаваўся незамутнёным «лишь слегка затуманенным по краям» (адліга! гэта пасля адлігі ўжо — розная муць ), калі над чыстаю вымытаю даждажом травою, над спакойным люстэркам вады сарваўшыся з пясчанай водмелі чайка стартавала некуды ў блакіт

Сонца Нам шэнціла на сонечныя раніцы і дні і пазней насуперак усялякай муці што затуманьвала абсягі жыцця таксама пазней пазней «Мы, старычок, яшчэ папрацуем .» — чую Міхасёў голас.

Не, Хэмінгуэй не памыляўся «Трудно найти настоящие слова .»

Стральцоў — сонечны

---

**Уважаемая**
**Валентина Никаноровна!**

**Ваши края, слава богу, милостивы ко мне Вспоминается много хорошего, связанного некогда с Гомельщиной. В свое время, когда в Гомеле жил Гречаников и иже, я довольно часто наезжал сюда. С тех пор, правда, многое переменилось. иных уж нет, иные далече (в разных смыслах) от меня, как и я от них, а новые дружбы после сорока трудны, ленивы, зыбки — даже и для Гомеля. Так уж мы устроены.**

**Чтобы не соврать, году в 58 был я, университетским студентом, на летних сборах в Мышанке. Там мы однажды с Бородулиным выбрались в самоволку (на танцы куда-то в деревню и на «сельхознапиток»). После танцев тайно заночевали в моей палатке (Бородулин жил в казарме), под утро проснулись от переполоха в моем лагере из-за исчезновения Бор.[одулина] Как-то были наказаны: помню, что очутились оба на кухне и что Бород.[улина] донимали его же стихами о «Настиной кухне» (целинными), а Бор.[одулин], как всегда, остроумно и не без ярой злости огрызался, захлебываясь словами: бу-бу-бу! — а потом, помнится, мы уединялись читать почему-то Фета и размышлять над природой его метафор. Неплохое было время!**

**Сейчас мне не особенно до стихов, хоть, правда, и пишу что же ещё? — стихи, занимаюсь этим грешным делом, которое, кажется, во мне упорно не одобряет Брыль[5], хоть так являя свою всегдашнюю привередливость. Бог с ним.**

**Время трудновато для пера, на прозу не разгонишься, но я замыслил (слово-то какое!) некие эссеи[6], заметочки о литер.[атуре], о разных разностях для разгона пера, что ли,— посмотрим, что получится.**

**Книгу Ваших переводов[7] пришлите — для меня это будет подарком, право. Жаль, что мне пока нечем отдарить. Буду должником, ибо долг этот необременительный и по-своему приятный.**

Спасибо за предложение помощи при случае непременно воспользуюсь. Ещё не совсем огляделся.

Пишите. Ваш Михась.
15.01.82

Дорогая
Валентина Никанор.[овна]!

Сегодня у меня, как и везде на всех пространствах любезного отечества, субботник. Ворочал лопатой землицу, даже приятно было,— где-то у склада сломал веточку вербы с «коцікамі», принёс к себе, поулыбался, сел за стол писать Вам, а заодно и сочинить экспромтик, который тщеславно цитирую. Хораша Вы перадалі па-беларуску матчыну гаворку, спадабалася мне, вось і я Вам трохі па-наску·

Святлом ад «коцікаў»
вярбы
Вось гэты мой радок
атулен.
Крамзоліў нешта
Барадулін[8]
Пра іх — ды мне
такой журбы!

Я з ЛТПоўскага двара[9]
Сюды прынёс іх
неўпрыкметку,
Каб заключыць у верша
клетку
Ў надзеі славы і дабра.

І вось надзеяю гарым
Над нашым столікам
прытульным,
Што не падасца
Барадульным[10]
Наш верш — а значыць,
і старым.

Так веселим себя и так утешаемся. А Вы вспоминайте там меня, пожалуйста, при пасхальных куличах, верьте в воскресение души человеческой и в благодать от содеянного добра. Сим победиши, и сим опять же утешимся! Благо Вам!

Да, равнодушие обидно, но злопыхательство... Не есть ли это то же равнодушие, агрессивное только; ведь есть и пассивная доброта, наша славянская чисто,— уже от лени? Как только не защищается человек! Вроде бы и ничего нового в этом нет, сельавишка[11], не более, но вот всякий раз останавливаешься перед всем этим в некоем то ли просветленном, то ли душевном недоумении: «врагов имеет в мире всяк, но от друзей спаси нас, боже», как у Алекс.[андра] Сергеевича. Вон Саша Яскевич, есть у нас такой критик и прилежный ученик Вяч. Зайцева (был у нас такой, может, слыхали?) по части парапсихологии, белой магии, биополя и пр. и проч.— вызвался по собственной инициативе в письме ко мне проповедовать благостность страдания и прелесть его неизречённую, и всё это по-кликушески глупо как-то, не к месту, что я не утерпел и написал ему что-то отрезвляющее насчёт вериг, которые вполне смотрятся сегодня под модным пиджаком у кандидата наук и проч.— обиделся, видать, и не ответил. Дескать, вот я «самохаць да яго, з добрымі намерамі», а он... Вот Вам и вся цена добродетели нашей! Это уже я говорю. Смешно, конечно, но и нехорошо после от этого как-то на душе.

Ивану Петровичу[12] я написал второе письмо: честно, по-мужски, без плача и воздыханий. Думаю, этого довольно. А «положительный облик» здесь полагается каждому, и посмей его не иметь! Правда, ведь? Улыбнитесь! Я думаю, Иван Петрович всё поймет, и если сделает доброе дело ( а это может сделать только он) — зачтётся это и в моих святцах и на небеси. Ценить добро я, кажется, умею, и обязательства, сопутствующие добру в моём случае, в отношении меня,— обязательства с моей стороны осознаю хорошо Словом, Ив.[ана] Петр.[овича] я не подведу — слава богу, давно дед уже и сам «за добродетель страдал и корпел», как говорили встарь.

Как хорошо, что Вы помогли Лёне[13] Нет, аборигенные «браткі-беларусы» просто чудо: я про себя называю их «скігітлівымі парсючкамі, што рохкаюць ля карытка з бацвінкай, скігічуць-скігічуць, а потым каторы, натапырыўшы хібок, і барсане лычам, барсане свайго браткусвінчо і за карак яго ўхопіць — і заенчыць, і заякоча зноў сам. І памкнецца хламкаць першы». Что-то в этом роде.

Впрочем, ну их всех на сухой лес!

Пишите, пожалуйста. А что Лёня? Он почему-то перестал мне писать. А я отвечал, кажется, аккуратно.

Будьте здоровы. Поклон Вашей матушке.

Ваш Михась.
17.04.82

P.S. Письмо уйдет только в понедельник, 19-го. Таков здесь порядок. Поэтому я стараюсь обычно писать в начале недели или в самом конце.

М.С.

Публікацыя
Валянціны ШЧАДРЫНОЙ

1 Перакладчыца на рускую мову твораў У Караткевіча, А. Кудраўца, А. Асіпенкі, Я. Скрыгана і інш. У час ліставання з паэтам працавала кансультантам па беларускай літаратуры ў СП СССР

2 Памылка паэта. Трэба: Валентина.

3 Кахненка Віктар Міканоравіч, брат Шчадрыной В.М.

4 Далей ідуць неразборлівыя тры словы.

5 Пазней у кнізе «Сёння і памяць» Янка Брыль пісаў: «Сабраныя ў кніжку (зборнік «Яшчэ і заўтра» — *Рэд.*), яны прагучалі для мяне інакш — вершы таленавітага ва ўсім Стральцова... Кніжка Стральцова настроіла на светлы, працавіты лад».

6 У лісце падкрэслена.

7 Маецца на ўвазе зборнік аповесцяў Уладзіміра Караткевіча «Седая легенда» (М. «Советский писатель», 1981 Пераклад В. Шчадрыной.).

8 Паэт цытуе верш «Экспромт». Канчатковая рэдакцыя другога і трэцяга радкоў першай страфы ў кнізе «Мой свеце ясны»:
...Мой роздум над радком атулен.
Пісаў калісьці Барадулін....

9 Канчатковая рэдакцыя ў той жа кнізе: «Я з камунальнага двара...»

10 У лісце падкрэслена.

11 У лісце падкрэслена.

12 І. П. Шамякін, у той час кіраўнік СП БССР.

13 Паэт Л.Дранько-Майсюк.





# За мяжою звычайнага

Сказаць, што Міхась Стральцоў мой кумір?..

Калі перачытваю «Смаленне вепрука» мо ў які пяцідзесяты раз, не пакідае ўражанне: гэтай рукою тады Творца вадзіў. Рукою Творцы Стральцова вадзіў найвышэйшы Творца. Напэўна, не выпадкова крахатуліна-глыба стала стральцоўскім развітаннем з прозаю. «Дабро і надзея тут накрэслілі свой круг».

Стральцоў для мяне адзін з нямногіх богаабраннікаў у сучаснай нашай, як мог бы ён, сцішана ўсміхнуўшыся, сказаць, «изящной словесности».

Дзякуючы Багдановічу і Коласу я пакінуў пісаць на расейскай мове, а Стральцоў быў першы з сучасных суайчыннікаў-літаратараў, хто ўразіў мяне:

«Расказаць трэба было пра юнака, які безразважна і смела рынуўся ў жыццё і не ашчаджаў сябе, шчыра беручы ад людзей і гэтак жа шчыра аддаючы ім сваё. Ды і што тут было ашчаджаць ці шкадаваць! Яму здавалася, што не можа быць на свеце чалавека, які, уведаўшы, не палюбіў бы яго: ну хаця б за гэтую ягоную прагу спагады і ласкі для сябе і для ўсіх! Толькі часам, у шумлівым разгары ягонай з людзьмі злагады і любові, нечакана задумлівым рабіўся ягоны погляд, і здавалася тады, што цішыня, высокая і асцярожная, вырастала за ім, і адчуванне было такое, нібыта нехта ў яго стаяў за спіной. І час надышоў, і пабурылася за спіною цішыня, і бяда пастукалася ў дзверы, і зазнаў ён тое, што хоць аднойчы ў жыцці зазнае кожны чалавек: і расчараванне, і адчай, і нудліва-вінаваты позірк сяброў, і нетрывалую ласку жаночага сэрца».

Мала каго Бог надзяляе гэткім тонкім пяром, гэткай глыбока ўнутранай, прыроднай (не нажытай-паказной-падманнай) інтэлігентнасцю, якую не запэцкаць анічым, бо яна іскрыцца шчодра з скупой-закрытай-адкрытай душы. Тут няма ніякае блытаніны. Гэта быў дужа нестандартны чалавек. Вельмі ўжо НЕПРАНУМАРАНАВАНЫ.

Можна сказаць, была загадка Багдановіча, «Загадка Багдановіча», была і загадка самога Стральцова. І не было адначасова ніякае загадкі. Быў Талент А ён заўсёды — загадкавы і дзесьці ясны. Ну чаму так назваў Стральцоў сваю кнігу — «Мой свеце ясны»?..

Быў яшчэ Чалавек пад Богам. Быў яшчэ і Д'ябал перад ім. Чорны чалавек. Пра якога сам Стральцоў пісаў. Без змагання Бога з Д'яблам не бывае і самага прымітыўнага жыцця. А тут вунь якое яно: «Адзін лапаць, адзін чунь» — і жыццёвая мітрэнга. Зрэшты, мітрэнга гэтая і адбілася жыватворна ў лепшых стральцоўскіх творах Творы сталі гожым люстэркам ягоных, дарыйце, пакутаў, памкненняў «мятущейся души». Без мітрэнгі, што перакінулася ў высокае душэўнае напружанне, не было б і люстэрка. Люстэрка, у якое так прагна-балюча, шчымліва-соладка хочацца зазірнуць.

Нельга ні аб чым шкадаваць. Ён ёсць — ёсць такі — у адваротным выпадку яго зусім магло б не быць.

Цяпер багата хто, распавядаючы пра яго, не разумеючы зусім ладу жыцця, на ягонае падобнага, і ладу душы пры такім жыцці, піша, дзе трэба і дзе не трэба, пра ягоную слабасць, вульгарна спрошчваючы ўсё да прымітыўнае фізіялагізацыі. Спачувальна, а то і прыхавана-паблажліва разважае — ураўнаважаны і добраўладкаваны. Нібыта па-сяброўску (і ці ж па праву?), а на самой справе выступае ментарам. Эфемерная годнасць, розум-міраж. Як той, хто ніколі не бачыў мора, можа разважаць пра яго? «Вам не дано понять, что вдруг со мною стало...»

Не бывае так, на жаль. каб не пакутуючы ў жыцці пакутаваў мастак У ВЫНІКАХ ТВОРЧАСЦІ сваёй. Можа, і бывае, але тады гэта падман, які раскрываецца непазбежна і хутка Стральцоўскай душы было што распавесці, ды толькі распавядаць мала калі было — і зусім тут не слабасць прычынаю, а сіла душэўных хістанняў, чысціня сумлення. «А ці ж можна пісаць, калі нічога не чуеш?» — сказаў ён аднойчы ціха. О, каб яшчэ колькі людзей у нашай літаратуры так чулі!..

Мы сустракаліся з ім мала. Ён па-дзіцячы цёпла расказваў пра любімага майго Юрыя Казакова, які «паліць цяпер грубку недзе на лецішчы ў сваім Падмаскоўі». (Параўнайце: «Смаленне...» і «Во сне я горько плакал...» Не бачу раднейшых душ у нашай і расейскай літаратурах.) Прасіў называць яго панам Міхалам. З якім выразным позіркам паціснуў мне руку, калі я ішоў з літарацкай трыбуны, абараніўшы «зашытага» Лёню Галубовіча ад нападак няздары, што вялізнай сваёй заслугаю называў сваю месячную прысутнасць у Нью-Ёрку, на асамблеі ААН. (Дарэчы, цікавая драбніца Стральцоў, здаецца, за мяжою і не бываў ніколі. Хіба што за мяжою звычайнага.) Нарэшце, расказвалі мне, у рэанімацыі, трызнячы, шкадаваў, што ён не дапісаў разам са мною п'есы. Ён, які казаў мне колісь, што не ягоны гэта жанр...

Як холадна казытнула мне сэрца паведамленне пра страшную гэтую праяву нашае блізкасці!..

Цяпер, як згадаю яго, часта прыходзіць на памяць ягоны эпіграф з малавядомага нам і любімага ім выдатнага паэта Случэўскага: «И капля вод полна страданий и неизбежностей полна...»

І ўсё ж...

«Дабро і надзея тут накрэслілі свой круг».

Алесь АСТАШОНАК

# Міша, Міша...

Вайсковыя могілкі, што на вуліцы Казлова (для мяне — на Даўгабродскай, бо ў даваенным дзяцінстве маім Даўгабродская пачыналася не там, дзе цяпер, а з таго вугла, дзе стаіць сёння Палац мастацтваў), дык вось, Вайсковыя могілкі гэтыя — мой вечны боль. Там быў пахаваны мой дзед, мамін бацька, Іван Панцялеймаў, і дзядзька мой, таксама Іван,— трапіў пад трамвай у ліпені 1938-га года, у семнаццацігадовым узросце Там была пахавана і мама — у жорстка марозным студзені 1940-га, падчас «фінскай вайны», калі павымярзалі ўсе сады. Каб выкапаць маме магілу, доўга палілі касцёр, адагравалі зямлю хоць трохі, бо і лом яе не браў у тым студзені...

Помнікаў усім траім паставіць не паспелі — над дзедам і над дзядзькам стаялі драўляныя каталіцкія крыжы, а над мамай — слупок з бляшанай таблічкай: ГАЛІНА ІВАНАЎНА ТАРАС 1913—1940.

Магілы тыя згубіліся. Я не знайшоў іх у сорак чацвёртым, калі вярнуўся з партызан. Крыжы зніклі, слупок таксама, усё вакол парасло быллём і папараццю, і варонка ад бомбы чарнела на тым месце, дзе былі магілы. Ва ўсякім разе, мне здавалася, што менавіта на тым. Дакладна паказаць месца магла б бабуля, але і яе я не знайшоў, вярнуўшыся з лесу, — яна была далёка, у Германіі, куды яе вывезлі немцы разам з маёй сястрычкай Таечкай і цёткай Люсяй, пра што я тады не ведаў А потым яны апынуліся ў Польшчы, адкуль паходзілі бацькі бабулі,— яе, сястрычку, і цётку я адшукаў у Познані толькі праз шаснаццаць год пасля вайны. Але і цётка, калі наведала Менск (бабуля была ўжо зусім старэнькая, нямоглая, так і памерла, не ўбачыўшы родны горад), магілы тыя не знайшла... Вось ужо і паўстагоддзя прайшло з тых дзён, як згубіліся яны, а боль па іх не адпускае, і час ад часу, калі бывае асабліва сумна і горка, я іду на Вайсковыя могілкі, на тое прыкладна месца, дзе былі, як мне здаецца, родныя магілы, і моўчкі размаўляю з мамай, з дзедам і з дзядзькам...

Аднойчы я пабываў там разам з Мішам Стральцовым.

Не памятаю дакладна, калі гэта было — недзе ў 1978-м ці 1979-м годзе. Помню толькі, што было лета і што якраз у той дзень было мне асабліва горка і сумна.

Сустрэліся з Мішам на праспекце, тады — Ленінскім, перад скрыжаваннем яго з Даўгабродскай і Варвашэні Міша ўзрадаваўся сустрэчы, сказаў· «Нешта ты нейкі дужа сумны, старычок! Здарылася што? Ці проста кошкі на душы шкрабуць? Мо прагонім нягодніц? У мяне ёсць чым!..» І паказаў на сваю кішэню — там была пляшка гарэлкі.

Я і сам думаў пра тое ж: каб неяк «прагнаць кошак», але спачатку трэба было завітаць на могілкі, і я хацеў сказаць яму, што іду на могілкі, што, калі ён згодны, пойдзем разам, а потым можна будзе падумаць наконт «кошак», але ён апярэдзіў мяне. І здзівіў тым, што нібы прачытаў мае думкі, і сам прапанаваў пайсці на могілкі: «Давай, старычок, пойдзем на Вайсковыя, да Паўлюка! Там у мяне ёсць усё, што трэба і кілішкі, і відэльцы, і адкрывачка Пайшлі?» Я падумаў, што Паўлюк — гэта, напэўна, нехта з абслугі могілак, мо вартаўнік ці які адміністратар, у якога Міша трымае «ўсё, што трэба». Спытаў· «А што за Паўлюк?» «Там убачыш,— усміхнуўся ён.— Не бойся, ён свой хлопец!..»

І мы пайшлі. Купілі батон, кілбасы, бляшанку кансерваў «Сайра», бутэльку мінеральнай вады...

На могілках я сказаў яму, што спачатку пойдзем «на мае месца», да Паўлюка потым, і пачаў расказваць пра гэтае «свае месца» пры тыя страчаныя ў сорак чацвёртым магілы, пра маму сваю, як і ад чаго яна памёрла ў студзені саракавога, як палілі касцёр, каб даць рады чыгуннай ад марозу зямлі, пра няшчаснага свайго дзядзьку Івана, пра дзеда, якога амаль не помню — памятаю толькі пах тытуню і люльку ягоную ў выглядзе галавы Медузы-Гаргоны, блакітныя вочы і залацістыя вусы, іх мяккі, нібы шаўковы, дотык, калі ён мяне казытаў імі. І зноў пра маму, якую смерць прыбрала гэтак рана — на дваццаць сёмым годзе жыцця...

Расказваючы, азірнуўся на Мішу. І ўбачыў, што ён плача, што вочы ў яго поўныя слёз. І толькі тут у мяне ў самога выступілі слёзы і горла перасмыкнула плачам. А Міша заплакаў амаль рыдам.

Вядома, нехта скажа, што гэта гарэлка плакала, а не Міша. Што ж, гэта праўда. Але і няпраўда таксама. Злосная няпраўда. Бо піў ён (а піў часам страшэнна, тут няма чаго наводзіць на яго «хрэстаматыйны глянец») праз неабароненасць сваёй душы, праз яе дзіцячую, ці, хутчэй, нейкую дзявочую чуллівасць. Нездарма ён і быў падобны на дзяўчыну, нясмелую, далікатную, сарамлівую, і чырванеў як дзяўчына — лёгкім пяшчотным румянцам, апускаючы вочы з даўгімі вейкамі. І хіба не жаноцкасць яго характару, яго натуры абумовіла і тонкасць яго прозы, пранізлівую пяшчотнасць яго паэзіі? І разам з тым ён быў чалавекам мужным, нават зацятым у сваёй мужнасці, калі бараніў тое, у што верыў, у чым быў перакананы. Але бараніў не дрынам, не кулаком, а шпагай — зброяй шляхетнай і рамантычнай, зброяй кавалераў Прыгожай Дамы. Ды тут — у гэтым маім успаміне аб ім — кажу пра гэта між іншым... А тады мяне проста ўразілі і расчулілі яго слёзы, і не аналізаваў я, чаму ён плача, і не думаў, што гэта плача гарэлка, якая, дарэчы, для каго проста згубная прывычка, а для каго — лёс...

Пастаялі, памаўчалі... Міша ўздыхнуў: «Спачуваю табе, старычок. Пойдзем да Паўлюка, памянём тваіх». І ён павёў мяне да Паўлюка, але не ў старожку, як я думаў, а некуды ў глыб могілак, туды, дзе былі самыя старыя магілы, яшчэ дваццатых, пачатку трыццатых гадоў. І падышлі мы да непрыкметнай магілкі ў гушчары кустоў, пад густымі зялёнымі шатамі дрэў, і там на сціплым, заімшэлым помнічку прачытаў я імя нябожчыка: ПАЎЛЮК ТРУС.

«Ну, здароў, Паўлюк,— натуральна, нібы з жывым чалавекам, паздароўкаўся Міша. – Бачыш, нядоўга ты мяне чакаў Сёння я не адзін, сябра са мною, Валя Тарас. Свой хлопец, Паўлючок, свой хлопец!.. Трэба нам тут разам з табою пагаманіць...»

Недзе каля самага помніка, у густой высокай траве, была ў Мішы схованка. Ён пакорпаўся тамака, дастаў гранёныя кілішкі, цэлафанавы мяшэчак, у якім былі відэльцы, адкрывачка, соль, нават папяровыя сурвэткі. Дастаў з кішэні і паставіў на траву бутэльку «Сталічнай». Усё гэта ўпарадкоўваючы, ціха прамовіў нібы сабе самому· «У школе вывучаюць, дысертацыі пра «Дзесяты падмурак» пішуць, а на магілу ніхто ніколі не прыходзіць. У Саюзе пісьменнікаў начальнікі нашы, відаць, і не ведаюць, дзе Паўлюкова магілка... Ну, сядай, старычок!.. Наразай батон, кілбаску...»

Мы доўга сядзелі каля той Паўлюковай магілы, выпівалі няспешна і гаманілі, гаманілі, гаманілі. Аб усім на свеце!.. Мне было лёгка з ім і проста, хоць і зусім розныя мы людзі, і ва ўзросце розніца паміж намі была даволі значная: ён быў роўна на сем гадоў маладзейшы за мяне. Але ўсё ж нарадзіліся мы пад адным знакам — пад Вадалівам. Я — 9-га лютага, ён — у дзень святога Валянціна, 14-га, на мае імяніны. Таму, нягледзечы на ўсю розніцу характараў і жыццёвага вопыту, было ў нас і нешта агульнае, блізкае і аднаму і другому Мо таму і ўдалося мне хараша (ён сам казаў, што хараша) перакласці на рускую мову радкоў трыста яго-ных вершаў. На старонках «Нёмана» ён яшчэ ўбачыў іх, а ў асобнай — маскоўскай — кніжцы не ўбачыў, яна выйшла пасля яго смерці.

Але самае значнае, што я зрабіў для яго, — гэта пераклад выдатнейшага яго апавядання «Смаленне вепрука» (у перакладзе — «Смаление вепря»), якое было надрукавана ў часопісе «Дружба народов», а потым увахodзіла ва ўсе анталогіі лепшых беларускіх апавяданняў у перакладзе на рускую мову, у анталогіі лепшага савецкага апавядання. Перачытваючы «Смаленне...» сёння, бачу, што ў ім — увесь Міша, з усёй яго трапяткой, пяшчотнай, чыстай душою, з яго танчэйшым, пранізлівым адчуваннем жыцця — светлага і трагічнага адначасова. І калі перачытваю, успамінаецца мне той летні, ці то ліпеньскі, ці то жнівеньскі дзень, як сядзелі мы каля магілы Паўлюка Труса, як хараша, хоць і сумна нам было за той горкай, але і салодкай чаркаю памінання І ўспамінаецца другі Міша, якога вылечылі ад гарэлкі. І той самы, здавалася б, чалавек, і — не той Адбылася ўсё ж нейкая падмена асобы, нешта штучнае, ненатуральнае з'явілася ў ім. І думаецца, што не трэба чалавека — дарослага — лячыць ад яго самога, не трэба яго перавыхоўваць, калі лёс ужо акрэслены, вызначаны Богам, наканаваны нябёсамі. Хай чалавек застаецца такі, які ёсць, быў бы ён — ЧАЛАВЕК, а ўсё астатняе можна і трэба сцярпець. Хоць гэта і цяжка...

З таго дня Вайсковыя могілкі для мяне — не толькі апошні прытулак мамы маёй, дзеда Івана і дзядзькі Івана, не толькі боль па страчаных іхніх магілах, але і месца, дзе засталася часцінка Мішавай душы. І разам з уздыхам па маме, па дзеду і дзядзьку нараджаецца, цісне грудзі і ўздых успаміну пра сябра: Міша, Міша...

Валянцін ТАРАС

# Яснае святло з суседняй вуліцы

З Міхасём Стральцовым мы не былі асабліва блізкія, але мелі ўзаемную, як хочацца думаць дасюль, прыязнасць адзін да аднаго. Ён звяртаўся да мяне па імені, я таксама. Не адступлюся ад гэтага і цяпер...

Разрыў з сям'ёй Міша перажываў страшэнна Па ўсходнеславянскім звычаі піў Герцэн некалі пісаў, што піць з гора не такая ўжо дрэнная звычка, як аб ёй думаюць. Але віно не памагала, і такая тонкая душэўная арганізацыя, як у Мішы, адгукнулася, відаць, на непазбыўнае гора смяротнай хваробай. Ён быццам адчуваў гэта. У застойна-нерухомыя 70-я пасля работы ў «малым Доме друку» мы ішлі ў магазінчык на супрацьлеглым баку плошчы Перамогі. Там разлівалі таннае віно. Міша хутка п'янеў і, калі

выходзілі пакурыць, штосьці прагаворваў для сябе і час ад часу, адлучана гледзячы не на субяседніка, а кудысьці ўдалечыню, паўтараў, зноў-такі для сябе аднаго: «Скоро стану добычею тленья. Тяжело умирать, хорошо умереть...» Някрасаў напісаў гэта за тры гады да смерці. Таксама адчуваў? Ці апраўдваецца сказанае камусьці з паэтаў Барысам Пастарнакам: не прарочце ўласную смерць — збываецца?..

Часта праходзячы па вуліцы Прытыцкага, гляджу на акно вуглавой кватэры на 8-м паверсе. Бываў там, калі ў ёй жыў Вячаслаў Адамчык. Аднойчы туды прыйшоў Міша з першай жонкай, было добрае застолле. Потым хадзіў ужо да Мішы з перакладамі для кнігі «Свет мой ясный» Перакладаў доўга і цяжка, таму што я, з дазволу сказаць, паэт графічны, а Міша — акварэльны Акварэль — прадмет маёй зайздрасці: думаеш пра пяшчотны каляровы мазок, а выходзіць чорная «сацыялагічная» лінія. Як сапраўдны лірык, Міша жыў самадастатковым жыццём пачуцця і думкі, за якімі, аднак, неназоўная сацыяльнасць адчуваецца, можа быць, нават глыбей і вастрэй, чым у іншых адкрыта палітычных вершах Міша стрымана хваліў пераклады і з усёй яго далікатнасцю змоўчваў пра графічнае ажыццяўленне ягоных акварэляў Зрэшты, яго паэтычная палітра многае ўбірала і ад яго «зоркай» прозы, была ў ёй таксама яснасць выяўлення цяжкавымоўнага.

*Мгновения мучительного счастья,*
*Что выпадают на твоем веку,*
*Ни целиком, ни даже малой частью*
*Не заключить и в лучшую строку.*
*Любое слово станет оскорбленьем*
*Для золотого чувства твоего,—*
*Тогда живет оно самодовленьем,*
*Тогда в нем только жизнь как волшебство.*

Такіх імгненняў у кнізе «Свет мой ясный» шмат, яны апраўдваюць слова «свет» у яе назве, і хай не будзе банальнасцю сказаць, што сам ён быў СВЕТЛЫМ чалавекам, і чорныя гады яго жыцця толькі адцянілі гэта. За ўвесь нямалы час няблізкага, але і не шапачнага знаёмства я не пачуў ад яго ніводнага дрэннага, брыдкага, агіднага, ці проста злога слова ні ў чый адрас. Не магу ўявіць яго пагардлівым, грубым, хітрым, двурушным. Канечне, у кожнага чалавека свае ўяўленні аб добрых людзях, але я перакананы, што ў стаўленні да Міхася Стральцова такія ўяўленні ў тых, хто ведаў яго, супадуць. Увесь сакрэт мастацтва, гаварыў Л.М.Талстой,— У ДУШЫ мастака...

Апошняя, як аказалася, наша сустрэча адбылася на праспекце Машэрава. Выйшлі з выдавецтва «Мастацкая літаратура», чакалі 39-ы тралейбус, нам было па дарозе. Гарбачоўская перабудова танула ў славаблуддзі, Міша быў хмурны, як заўсёды ў апошні час, адлучаны, паглыблены ў сябе (ведаў ужо?), негаваркі і толькі сказаў з прыкрасцю не зусім яму ўласцівае «Ничего... чем хуже — тем лучше!..» — па-руску Я зразумеў яго: горш за супакойлівую хлусню, якая працягвалася, ужо нічога не можа быць. І згадзіўся з ім: хай раскрыецца УСЯ глыбіня бездані, да якой мы коцімся!..

Усміхнуўся, кіўнуў галавой ад пярэдніх дзвярэй і сышоў на вуліцы Прытыцкага...

Для мяне Міхась Стральцоў — адзін з тых, чыё фізічнае і духоўнае аблічча ўспамінаецца разам са шчымлівым вершам В.Жукоўскага: «О милых спутниках, которые наш свет Своим сопутствием для нас животворили, Не говори с тоской: их нет, Но с благодарностию: были». Прыгожы быў чалавек, і мая памяць аб ім светлая.

Фёдар ЯФІМАЎ

# Конь гуляў па волі

У музычным свеце, у музыказнаўстве маецца паняцце абсалютны слых. Паняцце гэтае льга прымяніць і да літаратуры, хутчэй за ўсё да вылучнага пісьменніка, хіба што з невялічкім удакладненнем — абсалютны слых і абсалютнае адчуванне слова, ягоных магчымасцяў, ягонай незаменнасці і дакладнасці ўжывання. Гэта, відаць, болей, чымся ў музыцы, у літаратуры талент надзвычай рэдкі.

Вырай беларускіх паэтаў і празаікаў пачатку 60-х гадоў шчаслівы быў тым, што ў ім з першага прылёту быў Міхась Стральцоў, які меў прыроджаны абсалютны літаратурны густ Сказаць пра яго — талент, будзе правільна, асоба — таксама Але, бадай, слова з'ява трохі акрэсліць маштабы Міхася Стральцова У свой час сярод іншых сяброўскіх эпіграмаў пісаў я свайму сапраўды сябру і такую:

*За Гамера спрачалася*
*сем гарадоў.*
*Тры секцыі —*
*За Міхася Стральцова:*
*Празаік Стральцоў,*
*Лірык Стральцоў,*
*Крытык Стральцоў?*
*За вечнасцю слова!*

Вечнасць скажа сваё слова пра ўсіх. Але на тое яна і вечнасць, што не звыкла спяшацца, бо часу, калі можна так сказаць, у яе нямерана, няважана, нялічана. Міхась Стральцоў ведаў пра характар вечнасці, таму і не мітусіўся, не мітаўся, як адначаснікі ягоныя, каб хоць у імгненні затрымацца, каб палюбавацца на сябе ў люстэрку бяглівых дзён. Ён проста працаваў і думаў, шмат думаў. Не адна змена ў беларускай літаратуры вырасла пад апекаю ягоных слованастаўленняў, пад апекаю ягонай падтрымкі і ўвагі, пад апекаю ягонае творчасці.

Міхась Стральцоў даў інтэлектуальны пачатак сучаснай яму прозе, пачуццёвую глыбіню эсэістыцы, шырыню і гарызонтнасць крытыцы, акварэльнасць і адухоўленасць паэзіі ад класічнага радка да верлібра. Да Стральцоўскіх ацэнак прыслухоўваліся ад самакаранаваных убурэлых класікаў да самых утрапёных нізрынальнікаў усяго ў прозе і ў паэзіі. Дзе б ні працаваў Міхась Стральцоў, да яго хвасцілася чарга, як пасля вайны на млын. Так было ў рэдакцыях «Маладосці», «Літаратуры і мастацтва», «Полымя», «Нёмана». Які б аддзел ні ўзначальваў Міхась, у ім засяроджваліся ўсе аддзелы — і прозы, і паэзіі, і крытыкі, і публіцыстыкі.

Міхася, крытыка і даследчыка, бядзіла загадка Максіма Багдановіча Думаю, што нашых літаратуразнаўцаў мусіць зацікавіць загадка Міхася Стральцова. Адкуль гэтакія веды, гэтакая азарлівасць, гэтакая нястомнасць? Асабліва нястомнасць. Бо фармальна спадчына Міхася Стральцова не дужа ўжо і шматтомная (помніцца, як прыжмурыста ўсміхаўся патрабавальны да сябе майстра з аднагодка, што налічыў сваёй прадукцыі на збор твораў у шасці тамах), яна пераважыць тысячу і адну ноч адначаснікаў-эпапеістаў А варта ўлічыць толькі адну акалічнасць — колькі раманаў, аповесцяў, кніг крытыкі і саветызаваных нарысаў ён перапісаў Якраз перапісаў, пра праўкі, заўвагі, пра перапісаныя падборкі вершаў і не кажу Стральцова расцягвалі, разбіралі, як той Акропаль турысты, сябры, знаёмыя, проста выпадкоўцы, каму хацелася быць сваім чалавекам у літпрацэсе. Праўда, адзіныя, хто, пэўна, даваў знаўцу ўсяго вытанчанага і ўзнёслага сілу і натхненне, былі да́мы як з адвечным, так і з літаратурным клопатам. Цяпер, калі не стала Міхася ці Мішы (як каму пяшчотней было называць), некаторыя калегі, каб хоць як узвысіцца ў сваіх жа вачах, пачынаюць крычаць пра сваё ледзь не меценацтва, падкрэсліваць любоў Стральцова і да чаркі. Гэтак жа плявузгалі і пра Караткевіча. У так званыя застойныя часіны ў застолле ішлі, як у партызаны, уцякалі ад хлусні, ад маны, ад абавязку славіць догмы, уцякалі, душу ратуючы. Было, што Стральцоў браў і лішнюю чарку, але ж ён не дапіўся да пасады рэдактара часопіса, сакратара Саюза пісьменнікаў, да члена ЦК КПБ не выслужыў сабе тытулаў Кіраўнікі Саюза пісьменнікаў, сакратары пісьменніцкай партарганізацыі абавязкова са згоды ЦК складалі спісы на выбраныя шматтомнікі і аднатомнікі, спісы часткова прывязаныя да юбілеяў творцаў Усім было адшчодрана па два і болей тамоў, акрамя Міхася Стральцова да ягонага пяцідзесяцігоддзя. Фармальна ўсё зацвярджалася ў Маскве, вядома, з падачы рэспублік. Не ў заслугу сабе стаўлю, але не забыўся, як давялося ехаць у СП СССР да Юрыя Верчанкі хадайнічаць за сябра. Добры па натуры чалавек, майстра кабінетна-апаратных гульняў Верчанка званіў у Камітэт па друку свайму сябру, прасіў, каб дадаткова ўключылі ў план аднатомнік Міхася Стральцова. Пачынаў з уступу, з успаміну, як ён, Верчанка, разам адпачываў з камітэцкім чыноўнікам на поўдні. Пад дазвол Стральцову ў нашым камітэце па друку старшыня дадаў другі том Гаўрылкіну Па-зямляцку. Толькі карэктуру паспеў вычытаць Міхась свайго першага аднатомніка.

Засяроджаную роздумнасць характару Стральцова ведалі ўсе. Падчас і выкарыстоўвалі немітуслівасць і нетаропкасць задуменца ягоныя ж сябры. Ляжаў у Бараўлянах. У Маскве, здаецца, літаратурныя шанавальніцы стральцоўскага таленту парупіліся падтрымаць — прапанавалі выдаць кнігу прозы і эсэістыкі. Сябры прыходзілі наведваць. Падзяліўся Міхась прыемнай весткай. І кінуліся сябры навыперадкі заняць гэтую пазіцыю ў маскоўскім выдавецкім плане, як на вайне. Перамог спрытнейшы і рухавісцейшы, бо хутка зрабіў расклейку А Стральцоў да апошняга працаваў думкаю, багацеў душою цікавіўся філасофскімі развагамі Розанава, перачытваў новае, паслязабароннае выданне «Столбцов» Мікалая Забалоцкага. Яму дачка прынесла паасобнік, папрасіў, каб і мне купіла, падарыў праз колькі дзён.

Сябры праяўляліся і пры апошнім развітанні. Можа, зашмат кажу пра сяброў Але ж Міхась, думаю, і жыў сябрамі, і жыў для сяброў Хвароба, як і смерць, былі раптоўныя. Жонка Алена Змітраўна з дачушкай Алесяй, пястункай Міхасёвай, засталіся без капейкі. І калі пачаў я збіраць нейкія грошы, адчуў цану сяброў нябожчыка. Пра актыўнага ўспаміншчыка не хачу казаць, а вось крытык і аж празаік, які сядзеў на шыі Стральцова ды прасіў уладзіць ягоныя «нетленки» абавязкова ў маскоўскіх выданнях, артыстычна-нарцысіста сказаў, што пры сабе мае нейкіх паўтара рубля. Прапанову прынесці грошы заўтра не пачуў Адгукнуліся на гора Быкаў, Брыль, Адамовіч і на радасць (хоць на магільніку слова гэтае гучыць не зусім натуральна) шмат сяброў і проста знаёмых. Гэта да ўпамянёнага вышэй

аднатомніка Алесь Адамовіч уночы пісаў прадмову, а раніцай ляцеў у Амерыку са сваім фільмам «Ідзі і глядзі». Пахаваны Міхась Стральцоў на Чыжоўскіх могілках, там жа, дзе ляжыць дужа малады сябра нашых маладых гадоў Сымон Блатун. І ніколі не бачыў я такіх выплаканых, да паветра, вачэй, як у жонкі Міхася Алены. І зноў непрыемна чытаць некаторыя ўспаміны, дзе кідаюцца камяні ў яе. Калі ўжо замінае чалавек, дык і жонка ягоная не такая. Народжаныя ў балоце без бузы не могуць.

Пішу пра сумнае, нават пра недарэчна брыдкае, а пад руку штурхаюць успаміны пра вясёлыя гады, пра сумесныя падарожжы, вандроўкі. Ездзілі ў Маскву на ўсесаюзную нараду маладых, на Гомельшчыну, з рэдакцыяй «Маладосці» ў шмат якія раёны Беларусі. Была і апошняя нашая паездка ў веснавую, яшчэ з плямкамі снегу, Вушачу.

А першае нашае падарожжа было ў 1957 годзе. Пра яго нагадаў мне Міхась у лісце з Палесся ад 15 лютага 1982 года, дзе ў прыватнасці пісаў: «Чулае слова ад цябе было мне асабліва дарагім, бо нібы другі раз пасля мышанскай эпапеі (памятаеш тое лета вайсковых збораў на Мозыршчыне?) злучыла нас — праз добрае слова і шчырае сяброўскае пачуццё — і вось я прыгадваю і патаемны наш начны паход у паляшуцкую вёску, і начоўку ў палатцы, і начную ці перадранішнюю трывогу з выпадку гэтага, і тваё дзяжурства на «Насцінай кухні», і тое, як чыталі мы з табою Фета, абмяркоўваючы прыроду ягонага вобраза, і, і... як падумаеш, чаго толькі не пракацілася на «палянах» нашых вачэй...» Трывога тады была сапраўды вялікая, бо я вырашыў пераначаваць у палатцы, дзе халадней і паветра досыць, а не ў душнай двух'яруснай казарме, таго не ведаючы, што гэта ледзь не ўцёкі.

У Стральцова быў своеасаблівы, чыста беларускі, магілёўскі нават гумар, перапляцены з лірычнасцю, як суровая нітка з ваўнянаю. На дне вачэй ягоных сонечна пераліваліся хітрынкі, прабіваючыся праз смугу смутку і душэўнага клопату У тым жа лісце напрыканцы далікатна годная просьба, сяброўская просьба з лёгкім пакепліваннем з мяне і з сябе: «Да цябе просьба: памажы да ладу маю кніжку ў вас і можа возьмешся, калі захочаш, яе рэдагаваць. Там трэба дадаць друкаваных вершаў (у мяне нічога няма пад рукой): з «ЛіМа», здаецца, можна, можна з апошняй «палымянскай» падборкі. з вершаў, якія я пераслаў на перадрук Але Іванаўне. Дома ў мяне недзе ёсць недрукаваныя вершы, але дзе цяпер яны — эх, лепш не гаварыць. Але зразумей: я хачу, каб быў, аж і на мой ніякі-сякі ўзровень, больш-менш прыстойны зборнічак — тут ужо табе, як рэдактару, поўная воля, бо густу твайму я давяраю цалкам. Кажу гэта таму, што мы з табой часта і яшчэ гаварылі пра вершы і адзін другога разумелі. Выбірай на чатыры аркушы (не, 4,4 — для саліднасці): я не Цютчаў, а ты не празаік, як Тургенеў, хоць і ён забаўляўся ў маладосці вершыкамі — можа я і не акалечуся. Праўда Памажы...» Зборнік Міхася Стральцова «Яшчэ і заўтра» выйшаў у «Бібліятэцы беларускай паэзіі».

Калі Міхась вярнуўся з Палесся, задумаў напісаць новую рэч. У часопісах анансавалася: «Конь гуляў па волі». Радок з вясёлай бяседнай песні. Бо Міхась Стральцоў любіў волю, не цярпеў ні хамута, ні цугляў, якімі яго хацеў ацішыць рэжым. У працу ўваходзіў цяжка. Ненавязліва стараўся я ўцягнуць сябра ў рабочы стан, просячы перакладаць што цікавага было ў «Братэрства». Пішу, што расцягвалі, расхоплівалі час Стральцова, а сам першы з тых злодзеяў. Колькі я натлуміў яму галаву сваімі вершамі, перакладамі, артыкуламі, просьбамі прадмоваў да іншых і да сябе таксама. Наіўна лічыў, што абуджаю смак да пісання, ды цяпер здаецца, што, можа, усё наадварот выходзіла. Дый адчуваў Міхась сваё расстанне. Ездзіў дадому выбіраць бульбу, а хутчэй за ўсё, паспець развітацца з бацькам. Перад самым днём свайго пяцідзесяцігоддзя (нарадзіўся Міхась Стральцоў на Грамніцы — 14 лютага 1937 года) паехалі з тэлебачаннем у роднае гняздо. Па выгаленым лесе ехалі, як па Марсе. І лютаўскі Сычын сустрэў Міхася неяк маўкліва. Каля хаты радні адламаў сталічны госць галоднаму сабаку кавалак хлеба, кавалачак каўбасы, напханай невядома чым, але таўстой. Гэта з сабой прывёз зямляк закусь і колькі пляшак куплёнай. Пры слабым святле сельскай электралучыны вячэралі. Была маці, сястра, дачушка Алеся — прыехала з бацькам.

Нетутэйшы быў позірк у Міхася ў бацькавай хаце, расхрыстанай, расцягнутай, яшчэ з цэлымі шыбамі. Не нахінуўся, не ўзяў ніякой драбязінкі. Ведаў, што ўжо ніколі не адчыніць гэтыя дзверы, у якіх ужо няма замка, не сядзе за стол, што рабрыўся крыгаю ў крыгаходзе агульнага бязладдзя, безгаспадарчасці. І маўклівы выйшаў з бацькоўскай хаты. Рыжая шапка. Да каўняра караткаватай паддзёўкі прышыта таксама рыжая шкура аўчыны, каб зімовай апранаха здавалася. На галаве і на плячах агонь нябыту загараўся, каб спаліць. І прысак снегу засыпаў усё, што было...

Апошняя сустрэча з Міхасём Лявонавічам была самай караткай. У Бараўлянах. Цяжка было гаварыць яму, стамляўся, дагасаў Але, самому сабе хлусячы, казаў, што з'ездзім яшчэ ў Вушачу, у Каралішчавічы, і адразу ж паправіўся — у «Іслач». А мне і дагэтуль у натоўпе ўзнікае сябра Забудуся Узрушуся Прыгледжуся — нечым падобны. Няйначай Творэц Усявышні ўпадабаў такі вобраз, як самы дасканалы.

*І раптам хлопец малады*
*З абліччам Міхася Стральцова*
*Расчырванелы ад хады*
*Узнікне,*
*Быццам выпадкова.*

*І пацяплеюць халады.*
*Замлеюць каташкі марцова.*
*Дамы́ заселяць гарады,*
*Як да́мы Міхася Стральцова.*

*Праступяць праз траву сляды.*
*Ад снегу абтрасецца слова.*
*Пайду да Міхася Стральцова*
*На шклянку думкі*
*Як тады...*

Рыгор БАРАДУЛІН





# Астатняе - у маўчанні

...Ты вось кажаш: Стральцоў... Так, і Стральцоў таксама. Згодзен.

Але якая ж усё-такі жорсткая рэч — час! Як бесцырымонна аддаляе ён тое, што яшчэ ўчора было тваім!..

Так у мяне цяпер і з кнігамі Стральцова.

Як табе растлумачыць? У адной п'есе кажуць: «І гэта таксама пройдзе». Ну вось, прайшло, відаць, і гэта для мяне. І крытыка ягоная, і вершы... І апавяданні. Праўда, за выключэннем «Вепрука», амаль усяго. І некаторых стылістычных ходаў у «Лапці». (Напрыклад, галасы застолля, чутныя малому пасля глытка гарэлкі; або маналог дзеда Міхалкі).

Астатняе ж... Так, сапраўды, *прайшло* — ну што ты зробіш? І сённяшнія кнігі Быкава, Брыля,— здавалася, бясспрэчных антыподаў Ловіш сябе на адчуванні, што... Ну, словам, болей не расцеш на гэтым, разумееш?

Яно, канешне, і дагэтуль свеціць мне. Але ўжо не грэе. Восеньскае сонца.

Могуць спытаць: але чаму, чаму? Трэба ж даводзіць.

Нават не падумаю. Тут жа не інстытут літаратуры.

Проста такі выпадак Асабісты. Ты перарос, ты вырас з нечага ці проста страціў штосьці ў тлуме, у калаўроце сваіх дзён,— гэта ўжо толькі твае праблемы.

Вось яго кніжкі на маіх паліцах. Стаяць, нібы чаго чакаюць. Адна, маленькая, танюткая, але ў дэрмаціне — «Загадка Багдановіча». На вокладцы — пытальнік.

Барыс Забораў мастаком быў той кнігі. Зараз ён далёка, у Парыжы. А Стральцоў — тут, у нас, у Мінску На Чыжоўскіх могілках.

Мы пазнаёміліся ў пяцьдзесят чацвертым, на першым курсе аддзялення журналістыкі тагачаснага філфака.

Гарэзлівыя дзеці горада, мы ўпершыню бачылі побач вясковых адналеткаў і бавілі з імі час.

Ветлівыя, але насцярожаныя дзеці вёскі ўпершыню сядзелі разам на занятках і бралі чарку ў інтэрнаце са сваімі гарадскімі знаёмцамі.

Асаблівага збліжэння не было. Прынамсі першыя гады. Размаўлялі ўсе па-руску. Здаецца, нават і Грыша Барадулін, наш філфакавец.

У Стральцова знешнасць была невясковая. Вясковасці я ў ім не адчуваў.

Што ён прыкмячаў ува мне, не ведаю.

Ведаю толькі, што яго нічога не адштурхоўвала ў тагачаснай нашай, сказаць так, юнацкай гарадской культуры. Ейнымі ж рысамі былі: нефанабэрлівы гонар людзей сталічнага цэнтра, хоць і збольшага, але начытанасць і нейкая асаблівая, прывабная для нас сумесь знешняй інтэлігентнасці і гэткай элегантнай блатнаватасці. Не пакінула ў нас школьнае пасляваеннае жыццё-быццё. Спярша фантасмагорыя распусных і вычварных гульняў, боек у руінах. Пасля — футбол, трафейнае кіно і джаз.

Мы пачалі неяк збліжацца са Стральцовым.

Я прывёў яго аднойчы да сябе. Ён глядзеў толькі на кнігі і маўчаў. Кніг было мала. Ён узяў двухтомнік «Маяковский. Театр. Кино» — і нават не гартаў, толькі трымаў на далонях новенькія тамы ў гладкіх вокладках. Цяпер я думаю, яму было ўсё роўна, хто там аўтар. Яму проста было прыемна браць у рукі кнігі, так...

І ён прывёў мяне аднойчы да сябе таксама. І мы пераначавалі ў пакойчыку яго інтэрната пасля рэстарана «Заря», што быў тады насупраць кінатэатра «Победа».

З ягоным прозвішчам я ніяк не мог звыкнуцца. Бо тады якраз грымнула такое ж прозвішча з Масквы па радыё, у футбольных рэпартажах — Эдуард Стральцоў «Эдзік» — пісалі крэйдай у дварах на сценах. «Стральцоў» — чуў я ў нашай аўдыторыі, але адразу прыгадваўся той, каго ўслаўлялі тады на стадыёнах ад Мінска да Стакгольма...

Чаму ў Міхася такое рускае прозвішча? — думалася мне.

Прайшоў час. Ён ужо быў сапраўдным, вядомым пісьменнікам. Ён добра ведаў і любіў рускую класіку, мы гаварылі з ім пра гэта, і сляды гэтага я бачыў у яго творах. Але аднойчы ледзь утрымаўся, каб не сказаць.

—Ну навошта, навошта ты такі... «рускі»?

Не, справа не ў насычанасці яго тэкстаў, яго стылю рускай мастацкай традыцыяй. Справа

не ў творчасці наогул, а ў жыцці.

Справа ў падуладнасці той раз'юшанай жыццёвай стыхіі, якая ў славянаў, асабіста ў рускіх, цягне нібы ў вір ці да апошняга краю бездані, да самазнішчэння ў рэшце рэшт (Нешта падобнае, здаецца, адбывалася і з Караткевічам.)

Гэта нейкая загадкавая, містычная прага безагляднага захаплення, пасля якога ўсякае намаганне ці стрымліванне сябе ўжо — сум, нудота, шэрая проза пасля паэзіі.

Гэта звыклая для герояў Шукшына прага «свята ў душы», без чаго яны не ведаюць, што з сабою рабіць.

Гэта нясцерпная патрэба «постоять на кр-раю», як спяваў Высоцкі. «Чую гибельную радость — пропадаю, пр-ропадаю!..»

Так, менавіта гібельная радасць — празмернасці пачуццяў, душэўных узлётаў. Безабароннасць перад гэтай спакусай, але і гатоўнасць да яе.

Тыпова славянская, няўцямная для руплівага Захаду, бяздонная шырокасць, дзе святло, пераходзячы апошнюю рысу, спапяляе сябе, абрынаючыся ў цемень, у нішто.

Такая шырокасць у жыцці не пакідае ўжо сіл для творчасці.

Ніхто і ніколі не дакажа мне, што Стральцова знішчыў «час».

Гэтая заўсёдная адмычка ў савецкіх тлумачэннях лёсу творцаў тут не спрацуе.

Не трэба нагадваць ні пра застой, ні пра вязняў сумлення, ні пра парушэнні правоў чалавека.

І пра цэнзуру ці адсутнасць палітычных свабодаў таксама не трэба.

Бо Стральцоў стварыў свой непаўторны мастацкі свет і сябе якраз у час гэтай адсутнасці. Таксама як і згаданыя Караткевіч, Быкаў, Брыль...

Ён пагаджаўся з Пушкіным, якога так добра ведаў і цытаваў, што без палітычных свабодаў жыць яшчэ можна, а вось без свабоды ўнутранай — нельга.

Але небяспека і ў занадта вялікай свабодзе творчай асобы ад звычайных жыццёвых цяжкасцяў. Мастаку тады пагражае адчужэнне ад жыцця, самазамыканне.

Як рэдка спалучаюцца ў славянскім творчым духу гэтыя процілегласці, але аднолькава неабходныя бакі:

глыбіня, багацце паэтычнага пачуцця і строгая дысцыпліна;

вялікае жыццялюбства і самаабмежаванне;

адоранасць міласцю боскай і вялікая патрабавальнасць, самакантроль;

вытанчанасць, артыстызм і суровая мужнасць мэтанакіраванай працы, цярпенне і трываласць.

Стральцоў меў залішне многа свабоды ад жыцця. Жыццё не дазваляе, не даруе гэтага.

У самой такой свабодзе закладзена ўжо і пакаранне за яе. Яна робіцца цяжкай. Невыносны цяжар свабоды кідае нас на пошукі таго, куды можна было б здаць, зваліць гэты груз са сваіх плеч.

Доўга шукаць не даводзіцца. Шмат чаго ў жыцці толькі і чакае гэтага, цікуе за намі і бачыць: вось гэты гатовы аддаць.

Да таго ж, тое жыццё, што абступала Стральцова ў апошні час, ужо не паддавалася ягонай любові — так востра, хваравіта ўспрымаў ён увесь гэты навакольны гул і раз'юшанасць.

Творчы арганізм Стральцова, надзвычай чуйны і трапяткі, у добрым сэнсе ломкі, не змог ахапіць гэтага, зрабіць сваім — і ўвайшоў у безвыходны канфлікт з жыццём.

Мне здаецца, пасля «Смалення вепрука» ён пачаў баяцца няўдачы. (Дарэчы, больш нічога ў прозе ён і не пісаў.)

Аднойчы я сказаў яму:

—Пасля такой рэчы, як «Вяпрук», трэба, каб час прайшоў Каб у душы зноў насачылася і досыць назбіралася...

Ён усхапіўся, нібы толькі гэтага і чакаў·

—Вось бачыш, як ты разумееш!.. На якім узроўні! Канешне, час патрэбен. І яшчэ які!..

Ён змоўк спакойны, задаволены. А я, грэшны, падумаў· «Баіцца рызыкі. Баіцца прайграць. Разумее: усё, што ні напіша, спярша паставяць у параўнанне з «Вепруком».

Я не ведаю, што б ён яшчэ зрабіў, калі б жыў Але ведаю, чаго б ён НЕ зрабіў. І для нашай літаратуры гэта нязробленае ім было б не менш істотным, чым шмат што зробленае іншымі.

Як празаік, ён бы не пісаў такіх аповесцяў ці раманаў, дзе аўтар ні ў адным сказе не можа ўзняцца вышэй за сваіх герояў, з галавою зарываючыся з імі ў снег або ў траву

Ён бы не браў у свае героі людзей ужо за адно тое, што яны людзі «простыя», «бедныя», як гэта рабіла ўся савецкая шматнацыянальная літаратура. упэўненая, што галеча ледзь не ідэал.

У крытыцы ён бы і цяпер не кляўся славутай народнасцю як вышэйшай якасцю мастацтва, бо ніколі не рабіў гэтага і раней.

Ён не пісаў бы літаратуру з абавязковаю мэтай «адлюстроўваць праўду жыцця». Бо разумеў, што мэта літаратуры не ў набліжэнні да жыцця, а ў такім мастацкім пераўтварэнні яго, калі толькі і адкрываецца нябачная дагэтуль праўда.

Гэта што датычыць непасрэдна творчасці. А для пісьменніка існуе яшчэ паняцце творчых паводзін.

Стральцоў сёння ні ў якім разе не жаліўся б на людзях, у газетах на мізэрныя ганарары за свае кнігі, называючы лічбы і для большага ўражання пералічваючы сотні тысяч няшчасных «зайцоў» на дзесяткі долараў

Не. ён бы не трос рыззём і трантамі, стоячы пасярод рынка ў позе жабрака-паэта і дакараючы сваім гібеннем урад ці дэмакратаў

І ён бы не спраўляў прыватны апакаліпсіс і не клікаў бы на жалобу па сваіх чытачах, якія, маўляў, раптам пакінулі яго, спакусіўшыся раманамі з жыцця геніталіяў, — нашто яму такія чытачы?

Ён разумеў: чытача заўсёды няма — і чытач ёсць заўсёды.

Чытача ж масавага мае толькі газета. І яго не мелі на самой справе нават пісьменнікі з афіцыйнай абоймы. Ім толькі здавалася так з-за сваіх тыражоў, якія былі дзяржаўнымі ўзмацняльнікамі іх імёнаў· масы чулі іх імёны — і не чыталі іх кніг

А сёння скончылася гучная дзяржаўная вядомасць. Не чытач адвярнуўся — узмацняльнік адключылі.

І для Стральцова сёння ўсё было б як і раней. Ну сапраўды, што б ён такое ўжо страціў?

Званне, пасаду, прэміі, лаўрэацтва, месца ў прэзідыуме ці замежную вандроўку?

Не меў і не атрымліваў. Не сядзеў і не ездзіў

Ён быў пісьменнікам — не болей. Але ж і не меней.

Ён змог ім стаць — ён змог ім і застацца, ужо назаўсёды. І сказаць тое, што сказаў

Астатняе у маўчанні.

Аляксандар СТАНЮТА

# Наступны, яшчэ не аб`яўлены, змест

Рэаліі ў творах Міхася Стральцова маюць уласцівасць прыкмет З іх можна выводзіць сімвалы, як, напрыклад, з назвы апавядання «Сена на асфальце» і, акцэнтуючы ўвагу на сацыяльным, казаць, што гэта сімвал беларускай інтэлігенцыі, якая выйшла з вёскі, а жыве ў горадзе, альбо, калі карыстацца «эстэтычным» ключом, ікэбана — дзівосны букет, што неспадзявана склаўся сам.

Аднак па сваёй прыродзе і сутнасці — гэта прыкметы. Яны самадастатковыя, поўныя жыцця, аднак яно тоіць у сабе наступны, яшчэ не аб'яўлены, змест

Паглядзіце, якія вывераныя, важкія, дакладныя рэаліі ў тым жа «Смаленні вепрука» Яны прадчуваюць і прадбачаць тое, чаго яшчэ няма, але што мусіць здарыцца і, уцягнутыя ў віртуальную сферу надчасу, становяцца часткамі нейкага невідавочнага механізму

Нават тыя персанажы, якія ведаюць, што будзе далей, у апавяданні паводзяць сябе, як быццам сумняваюцца ў сваім веданні, і шукаюць доказаў, якія пацвердзілі б, што яны не памыляюцца. Яны ўслухоўваюцца ў нешта, што прысутнічае ў наваколлі, і ўведзены ў сістэму прыкмет І насампраўдзе не яны, а рэаліі, чуйныя, пільныя і адстароненыя рэаліі — галоўныя дзейныя асобы апавядання.

Міхась Стральцоў распазнаваў тое, што ўжо распазнала яго, прыкмячаў тое, што ўжо прыкмеціла яго. Яно, тое *тое*, было сваім, але сваім па нейкай іншай, чым у штодзённым жыцці, суадпаведнасці, па нейкай інакшай прыналежнасці; з ім было звязана самае істотнае, але, як у хованках, яно абвяшчала аб сабе і не абвяшчалася само.

У завулках старога горада, у размаітым людскім натоўпе, у жыццяпісах творцаў Міхась Стральцоў заўважаў свае знакі, якія станавіліся знакамі яго творчасці. І ўжо блізка ад яго, як надзвычайная вестка, праслізгваў човен Харона, цень ад вясла якога ён прыкмеціў. Ад яго патрабавалася адно — заставацца мастаком надалей. верыць свайму відушчаму пачатку — інтуіцыі, прымаючы ўмовы гульні, усё глыбей распазнаваць яе ўмовы, бо тое, што ў ёй загадвалася, і разгадку мела ў ёй самой. Па-за ёй — нязздзейсненыя задумы, чужая рэчаіснасць, ЛПП...

Семантычнае поле прыкмет значнейшае і багацейшае за поле фактычных рэалій Сюды ўваходзіць і ненапісанае.

Алесь РАЗАНАЎ

# Вусцішнасць быцця

Увесь Ён — нязбыўны сум з прычыны непазбежнасці вяртання ў нежытво.

Мы ўсе прамінаем гэты шлях, але да пэўнае пары лішне не смуткуем з такога наканавання. А ён ці не ад пачатку ўзяў занадта блізка да сэрца неадпрэчнасць смерці — і тым жыў. І таму так жыў, як жыў і пісаў пераважна з тае нагоды, што трэба будзе памерці (калі не фанабэрыўся, не падрабляўся, не блазнаваў).

Раней я думаў, што ягоная засяроджанасць на татальнай прысутнасці смерці ў жыцці паходзіць ад хранічнай любові да жыцця. Толькі гэта, здаецца, не зусім так. Жыццё ён, натуральна, любіў, але не больш хва-

равіта, чым нехта іншы. А вось *адчуваў* яго — з усімі пахамі, фарбамі, гукамі,— як мала хто яшчэ. З гэтага фатальна абвостранага ўспрыняцця існага і вынікала такое ж вострае пачуццё непазбежнасці страты ўсяго, што ёсць «пад гэтым небам сінім і любімым». Адсюль нязбыўны сум і нават у спякоту падняты каўнер, якім ён атуляўся ад сцюжы за спіной, адсюль жанчыны і віно, як марная вымога саграць заўсёды восеньскае сэрца, адсюль і сцішаны дакор, вымаўлены на паваротцы ў вечную засень. мой свеце ясны...

«Ёсць таленты... што самі нібы ўвасабленне пакутнага духу, адрынутага паводле нейкай незразумелай прычыны ад самога жыцця і асуджаныя трапятацца ў вечнай празе зліцца з ім».

Ён не стамляўся (і ў траве, і на асфальце) выглядаць жыццё, прагнучы адшукаць вечнае вымярэнне сваёй прысутнасці ў ім, але ўсюды з-за нечага паўставала *нішто*. Найдалей ад *нішто* было дзяцінства, і ён не аднойчы ўцякаў з дарослацсі туды — у свае раннія ды маладыя гады. Аднак і там заўжды нешта (ці нехта) канала: само дзяцінства, юнацкае каханне, дзед Міхалка...

Кажуць, у яго было шмат жанчын. Напэўна, гэта насамрэч так, бо ён не любіў жанчын. Ён толькі персаніфікаваў жыццё ў той ці іншай жанчыне і такім чынам «заляцаўся да жыцця» «ў вечнай празе зліцца з ім». Але чым тужэй згортваўся ў каханні, тым тужлівей ападаў на сэрца сум. Бадай, з гэтага амаль адчайнага суму ён мог здагадацца, што той, хто хаваецца ад тэрору небыцця ў каханне — самахоць прыспешвае сваю невараць, бо чалавек найперш памірае ў жанчыне, а ўжо потым — сам у сабе... Ён не здагадаўся, хоць сэрцам адчуваў небяспеку і таму доўга не трываў жанчыну побач, хаваўся ад адной за другую, ці сыходзіў ад усіх да мужчын (сяброў) і віна.

Чуллівы і пяшчотны, ён шукаў у сяброўстве абароны і прытулку, а разам з тым непадманнага духоўнага хаўрусу, агульнай інтэлектуальнай прасторы, урэшце — высакароднага чыну.

*«І вобраз дружбы —*
*даўні і нягоркі*
*Бо мы ж яшчэ, напэўна,*
*не забылі*
*Як некалі яе адну любілі —*
*Ну, дружбу нашу.*
*Помняцца спатканні*
*Дзвюх нашых душ.*
*Любоўныя расстанні*
*Адна з адной. Да заўтра.*
*Ненадоўга.»*

("Прыехаў сябра")

Але як цялесны саюз з жанчынай, так і духоўная мужчынская звязь істотным чынам не мянялі перспектыву небыцця. Хованкі ў каханні набліжалі да смерці, хованкі ў сяброўстве трохі адсланялі яе, аднак ні тое, ні другое не яднала з жыццём. Яднала хіба — віно; праўда, ненадоўга, і таму віна трэба было многа, і ўсялякі раз, калі яно заканчвалася, гульня таясамасці экзістэнцый (ягонай і жыцця) перапынялася яшчэ вялікшай тугой...

Жыццё, смерць, каханне, сяброўства, віно... Засталося — *слова*...

Ці *слова* было наперадзе ўсяго: і сродкам і мэтай жыцця?

А калі адно спосабам не-магчымасці жыць?

Часам мне здаецца, што ён нарадзіўся не жыць, а выглядаць смерць (у восеньскай смузе, у ціўканні сініцы, «у мінулым, сённяшнім, наступным»). Крэмзанне паперы «прозай» ці «вершамі» было ўсяго толькі адным са спосабаў (а, можа, як для яго, то і адзіным) гэтай «не-магчымасці жыць». І ці не таму ён кангеніяльны, тоесны свайму скрушнаму лёсу/генію там, дзе ў яго адрэфлексавана развітанне, расстанне, кананне; там, дзе памірае маладым Максім Багдановіч ("Загадка Багдановіча"); там, дзе памірае дзед Міхалка ("Адзін лапаць, адзін чунь"), там, дзе гіне УСЁ — вяпрук, жыццё, надзея ("Смаленне вепрука").

Дух смерці лунае над гэтым геніяльным апавяданнем, напоўненым пахамі, фарбамі і гукамі нежытва: «Ідуць ужо халады, бяруцца прымаразкі — падаюць інеем сырыя туманы. Чарсцвее зямля, і цёмным, ільсняна халодным зяленівам б'е ў вочы парадзелая пры дарозе трава. Ужо выпетрала зябліва, пасівела ў гародчыках і пазванчэла бадыллё, і панішчымніла паветра. Неба ўдзень ужо ніжэй прыпадае, ціснецца да зямлі. Яшчэ выганяюць на пашу кароў — далей ад вёскі, у лес. Пад вечар жывёла не хоча вяртацца ў хлеў, цаляе адбіцца ў прапахлае бульбоўнікам і сцюдзёным капусным водарам поле».

У «Смаленні вепрука» ён перажыў свой метафізічны сыход. Тут невараць урэшце запанавала ўсюды і найперш у ім самім. Ён сам быў тым, каго забіваюць, ён сам быў тым, хто забівае, ён сам з сябе склаў ахвярнае вогнішча і сам быў тым ахвярным дымам, што завершыў яшчэ адзін кругазварот быцця.

З тым дымам ён і адышоў у нябёсы, «а душа ўзяла і засталася», затрымалася на нейкі час і вярэдзіць маю душу ягоным сумам па немагчымасці інакш пазбегнуць смерці, як толькі памерці.

Валянцін АКУДОВІЧ



# Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК

## МЫ



*Вершы для А.*

***

Не маннай вусны пахнуць — ацэтонам
І пылам закулісным даміно,
І шкляр заместа шыбіны кардонам
Залечвае пабітае акно;

І Свіслач, як Венецыя ў тумане,
І гандаль на Нямізе — паляванне
Нязвыклай ветлівасці на мяне:
«Что вам угодно?» «Бульбы ў чыгуне...»

І Лупанур, абсопліўшы манжэты,
Аўкцыённым грозіць малатком...

Ёсць буржуа, і ёсць яшчэ паэты,
І шчасце ёсць прачнуцца жабраком.

Але, напэўна, нечага я варты,
Калі пусцілі мой рэкламны міф
Бадзяцца па Купалаўскім тэатры
Паўгода на паўставачны тарыф.

Везувіем аглушаны, Раеўскі,
Жадаючы не надта дакучаць,
Адно што віжаваць за Дастаеўскім
Прасіў мяне — чытаць і скарачаць.

І я чытаў — прыходзіла бяссонне,
І скарачаў — стамлялася рука,
А паўз тэатр правозілі «Пагоню»
І ўзносілі на жоўтае ЦэКа.

Не пакідаў ніякага я лішку,
З рамана п'есу выціскаў наўпрост
І князя недарэчнага, як мышку,
Лавіў за спінку, а часцей за хвост.

А Лупанур — то хціва, то гулліва —
З драматургічных высілкаў маіх
Пасмейваўся, але змаўкаў раўніва,
Як бачыў А.— адну ці нас дваіх.

У рэўнасці яго быў мудры вырак,
І я з тэатра збег, бо зразумеў,
Што я ў жыцці не драматург, а лірык,
Мой лёс — мяняць спадзеў на неспадзеў,

А. цалаваць у радасці замглёнай,
Боль запіваць гарачым малаком
І назіраць, як Лупанур натхнёна
Аўкцыённым грозіць малатком.

23 красавіка 1994 г

***

На вуліцы Сухой у змроку радасным
Мы дыхалі забытаю лавандай,
Лагчынаю прыйшлі ў завулак Транспартны
І дом убачылі з бярозай і верандай,—

Драўляны сон. І ты ўздыхнула весела:
«Мы купім гэты сон — увесь ці частку,
Ці хоць веранду, што ў халодным месяцы
На рамантычную падобна пастку.

Пакуль у пастцы салавей з гародчыка
Не стоміцца круціць сваю катрынку,





Я нарадзіць табе хацела б хлопчыка,
Калі не хлопчыка — тады дзяўчынку...»

І змоўкла ты, як лютня адбалелая.
Я ўдзячны быў за гэтае прызнанне,
Як і за тое, што бяроза белая
Шумела, як метафара змяркання.

Не ведаю — маё яно ці ўкрадзена,
Але ж прыйшло такое разуменне:
Жанчына хоча больш, чым Богам дадзена,
Мужчына тое ж хоча, толькі меней.

І я вось гэтым «меней» заахвочаны
І выбар свой апраўдваю высновай,
Што беларусы — нацыя жаночая
Не з бацькавай, а з матчынаю мовай...

Мы йшлі далей, і колер фіялетавы
Усё гусцеў і не рабіўся іншы,
І на Тэатр Музычнае Камедыі
Ляцелі фіялетавыя вішні.

27 студзеня 1994 г

***

Снапок-букецік-матылёк,
Чырвонай ніткаю звязаны,
У тытунёвы трапіў змрок
І задыхнуўся, пакараны
Табой і мною. Ад цябе
Я йшоў па Ракаўскім прадмесці,
І ў хлебным, снежаньскім цяпле
Пах тытуню губляўся дзесьці.
Зіма купляла свежы хлеб,
І я падумаў нечакана:
У гэтым снежаньскім цяпле б
Знайсці пачатак для рамана
Кароткага — ў адзін радок
Аб тым, як трапіў у сутонне
Снапок-букецік-матылёк
З маіх вачэй, з тваёй далоні...
Другім радком была б, відаць,
Зіма і сцежка паўз пякарню,
Якой ісці і шкадаваць,
Што патушыла ноч ліхтарню
Невыпадкова, а знарок,
Каб мы ні зблізку, ні здалёк
Не ўбачылі, што памірае
Снапок-букецік-матылёк —
Твой падарунак, дарагая.

23 снежня 1993 г

***

Я палюбіў дарогу начную
І палюбіў з нядаўняй пары
Рызыкі яснай тканіну льняную
Накідваць на вулічныя ліхтары.

І ў разуменні, што гэты занятак,
Пэўна, вар'яцкай душы акурат —
Я між вар'ятаў усіх і вар'ятак
Самы шчаслівы на свеце вар'ят.

Я растлумачу, што значыць вар'яцтва —
Гэта, кранууўшы мінулае тло,
Шчыра каханай жанчыне прызнацца
Колькі ў цябе некаханых было.

Потым раскайвацца — жартам спытала,
Жартам і свой напаіў бы адказ...
Позна. Сляза налілася металам.
Стаў непрыступны алькоўны атлас.

Позна. Вяртайся асфальтавым долам,
Свечкі трамвайнай губляючы бліск.
Ноч не ўратуе Чырвоным касцёлам,
Домам Урада, гасцініцай «Мінск»...

Цемру любі і дарогу начную,
З рызыкай яснай зайдзі ў казіно
Выйграць настрой, каб тканіну льняную
На дарагое накінуць акно.

5 снежня 1993 г

***

Не веру, што ён лепшы за мяне,
А хоць і лепшы — ўсё адно не веру.
Яму пашанцавала замяніць
Маё каханне на сваю хімеру.

Мяне суцешыць рэстаран «Патсдам»,
І зноў наймуся да цябе ў анёлы,
Не проста словы я табе аддам,
А старажытныя аддам глаголы.

Не толькі пакладу акропаль свой
Да ног тваіх, агнём пацалаваных,
А першаю біблейскаю вадой
Абмыю грэх, такі неспадзяваны;

І выцалую ночы ўсе і дні,
Напоўненыя не маёй уладай...
І, прагнучы да болю чысціні,—
Усё тваё не назаву я здрадай.

20 лістапада 1993 г





***

Ласкавасцю тваёй не наталіцца,
І ў лебядзіным возеры тваім
Мне чуецца і мроіцца і сніцца
Расстання нашага ерусалім.

Што мне пакінеш?! Сум і прахалоду,
Якімі давядзецца з году ў год
Паэзію славянскага зыходу
Аплакваць, павярнуўшыся на ўсход.

Не здолею пазбегнуць гэтай страты
І толькі зразумею, што паэт
Перад каханай вечна вінаваты,
І свет яго — штодзённай страты свет.

Пакуль яшчэ магу цябе крануцца,—
У лебядзіным возеры тваім
Няхай мае жаданні застануцца
Да старасці, да смерці — назусім.

Калі а д т у л ь твая прыбудзе вестка,
Асветленая радаснай тугой,—
Я адкажу цяплом начнога Менска,
Бо толькі ноч дае мне супакой.

Да паэтычнай глухаты гатовы,
Сатру з аблічча эстэтычны грым,
І лепшыя мае патонуць словы
У лебядзіным возеры тваім.

17 кастрычніка 1993 г

***

... і з нечаканняў дарагіх
Я выбраў тое нечаканне,
Якое зрок дае і слых
Майму палессю і таскане.

Быў цэлы свет — і прамінуў.
Пяшчота — любая айчына,
Яна мне дорыць навіну,
Што жыць пакуль яшчэ магчыма.

І гэта шчасце для мяне,
Бо існую ні ў якай іншай,
А толькі ў гэтай навіне,
Сябе па-новаму адкрыўшы.

Быў цэлы свет і ўжо няма.
Адна пяшчота засталася,
І раніца яе пісьма
Ляжыць на пачуццёвай пласе.

Былі жанчыны (дзе яны?!),
Пасля якіх такая роўнядзь,
Што ані суму, ні віны
Душа не ведае, не помніць...

Я ўдзячны вопыту твайму —
Найдарагому нечаканню! —
Што ранішняму даў пісьму
Надзею на выратаванне.

Я на каленях, над табой,
У рыфму трызнячы аб раі,
Вясну магноліі тваёй
Па кроплі вуснамі збіраю.

19 верасня 1993 г

***

Вяртанне адбываецца паволі,
Заціснутае ў філіграны дрот,
І боль, забыты ў цёмнай альвеоле,
Б'е ў паднябенне, раздзірае рот...

Апошнюю я размяняю лепту
На прагу з фізіялагічных нор,
Каб дакрануцца да рукі тваёй і шэпту,
Замкнутыя на сухасць і мінор.

Назад ікону тройчы адцалую,
Якую цалаваў я тры разы,
Калі ляцела ты ў імглу чужую,
Страх пакідаючы на дне слязы.

Вярну наш травень — шосты дзень ягоны,
Напоены правансам да краёў!
Як трубадур дзеля цудоўнай донны,
Я для цябе прыручваў салаўёў;

На дробныя да зніку тэль-авівы
Я разбіваў вялікі тэль-авіў...
Апошні раз у гэты дзень шчаслівы
Перад расстаннем сокала злавіў.

І гэты дзень — адзіная патоля,
Якая прымушае зразумець,
Што ўсё цудоўнае вяртаецца паволі
І што жыццё лягчэйшае за смерць.

30 жніўня 1994 г



Ала СЯМЁНАВА





*Адносіны паміж смяротнымі бессмяротныя.*

**Барыс ПАСТАРНАК**

# БЭЗАВЫ ПОПЕЛ

*Эпісталярна-прывідны ўспамін*

## ULTIMA RATIO[1]

Чалавечы голас Жан Както недарэмна адчуў таямнічую ўладу гэтай слухаўкі Хто абышоўся без яе ў XX стагоддзі? Адстаронена-зблiжанае судачыненне чалавекаў Хуткамоўленне людзей спраў Скоклівая гарэзія балбатні Вохклівыя анкі старых. І — доўгія размовы закаханых. І — нечаканыя званкі. І — чаканне званка.

«Алё. .» Голас добразычліва-свежы, усмешлівы, ранішні нават калі ён гучыць а дзесятай гадзіне ўвечары Голас жанчыны, якая ўмее ўгадваць час слова і радасць аднаго імгнення «Добры вечар. .» Голас нібыта крадзецца і хаваецца ад некага «Прывітанне!» Голас — як стрэл Словы — што пытанні анкеты «Алё!» Голас як быццам робіць ласку Словы пагойдваюцца, калыхаюцца, робяць кругі, голас нібыта ведае нешта такое, пра што ніхто не здагадвацца. «Вечар добры!» Голас вуркатліва-глухаваты «Вечар добры .» — нібы табе а нібыта і сам сабе Ён так і будзе размаўляць нібыта з табою, нібыта з сабою самім «Перадай прывітанне маме. Не, паклон»

Я не пачую больш ні гэтага голасу, ні матчынага У маці быў дзіўны запамінальны голас Арганны — малады, звонкі асноўны тон і гартанныя, кантральтовыя падгалоскі Гэта не маё ўражанне — іншых. «Слухаю вас. .»

А той вуркатліва-глухаваты голас — Міхася Стральцова

Размовы нашыя з ім часцей былі менавіта тэлефонныя. Доўгія на гадзіну, а то на дзве Званіў ён ці ўранку, гадзіне а дзесятай, ці гадзін у дзевяць а не дык і адзінаццаць — увечары. Пра што былі гаворкі? Пра чытанае слуханае пра тое што ён збіраецца пісаць (згадваў неяк кнігу пра Янку Купалу, накшталт «Загадкі Багдановіча» не напісалася на жаль), пра дробязі пра «закон звезды и формулу цветка» Мудрыя і абачлівыя людзі ў такіх выпадках занатоўваюць размовы У мяне ніколі не было тых дабрачыннасцяў· ні мудрасці ні абачлівасці Не, я заўсёды ведала, хто такі і што такое Міхась Стральцоў. Спрабавала пісаць пра яго хоць разумела: «Страшна — усё роўна як узбіўся на дзёрзкую думку вывесці формулу роздуму ці ўзяць на далонь, каб разгледзець, агонь або снег» Была рэдактарам дзвюх яго кніг Крытыкі

Разумеючы, хто ёсць Стральцоў, неяк не магла сябе прымусіць занатоўваць размовы Здавалася — гэта што сачыць за сабой у шчыліну замка Глупства? Недаравальнае легкадумства? Магчыма Затое лёс падараваў мне — ветрагонам шанцуе — скарб. 46 лістоў Міхася Стральцова Ліставанне тое было не ў самы лёгкі год для яго і досыць складаны для мяне Ягоныя і мае мітрэнгі не мелі судачынення У кожнага было сваё Аднак мо і быў у тым нейкі патаемны знак.

Помню, як я атрымала першы ліст Стральцова. Восеньскім вечарам у Дубултах — званок. (Зноў званок.) Тэлефон унутраны Адзіная знаёмая жанчына з ехала Пажар? Паводка? Сусветны патоп? «Вам ліст атрымайце» З дому мне пісалі «да запатрабавання» Ад каго? Почырк незнаёмы Вастранькі Малачытэльны Не почырк — клінапіс Чытаю — ці хутчэй разгадваю, расшыфроўваю

«Дарагая Ала Іванаўна!

Ну, ну, не хмурнеей брывом у выпадку такога сур ёзнага звароту Проста мне ўспомнілася як міла ты мне выгаворвала адноечы за Алу Іван.[аўну] — вось і закарцела падражніцца

Нешта падобнае да невялічкага катаклізму адбылося надоечы ў маім жыцці Для здароўя і самаадчування майго карысным было прызнана двухгадовае знаходжанне ў па[ў]днёвых мясцінанах спагаднага і мілага нашага краю Вось і абзываюся адтуль, з самага дна колішняга мора Герадотавага спакойна і паволька як у зачараваным сне апетага сённяшнімі тэбульцамі [так у Стральцова]. Х. У $Z^2$ і інш.[ымі] шаноўнымі турамі пяра О я на родине этих мужей телом тучных и голосом рыкающих. Хвала им! Бессмяротнае слова іх падтрымлівае і мяне ў сумную хвіліну а пазней думаю натхніць і на сціплы подзвіг пяра — чаму не натхніцца вартым пераймання прыкладам? Так што хутка я запішуся калі прымуць, у секцыю «чающих воды» (Як гэта хораша і глыбакадумна сказана ў рамане У «Усюды — куды ні глянь — была вада!» А было гэта ў часы сусветнага патопу і NN-чу нейкім чынам давялося прысутнічаць пры гэтым у якасці духу боскага ці як?— «И божий дух носился над водою» Глыбака капаюць і высака лятаюць палешукі!)

А слухай усё ж. мясціны гэтыя мне былі і раней трохі знаёмыя — быў некалі непадалёк адсюль на вайсковых зборах. І тое-сёе ў маім тутэйшым бытаванні нагадвае колішняе Але толькі тое-сёе. На жаль.

КПП Там круціцца пласцінка
Хрыплаватым голасам пяе.
«Ты — галінка я — твая расінка»,—
Мне чуваць у голасе яе
Я міну лінейкі і газоны
Гэткія, як некалі раней





Успамінак даўні гарнізонны
Ціхім смуткам сэрца мне кране і г.д.
(КПП — кантрольна-прапускны пункт.)

Але хопіць Ты павінна здагадацца ўжо, што напісаў гэта я толькі затым каб атрымаць ад цябе ліст Не палянуйся га? Пішы — мне ўсё будзе цікава.

Міхась»

Нейкім дзівам у мяне засталося некалькі чарнавікоў маіх лістоў — ці шчыра кажучы проста было вельмі някрэмзана то перапісана а неперабеленыя асобнікі я паклала разам з лістамі Стральцова Увогуле, што сталася з лістам адрасаванымі Міхасю Стральцову не ведаю Камісія па спадчыне не мае ні лістоў Рыгора Барадуліна ні Карласа Шэрмана ні Валянціна Асkоцкага ні Вячаслава Івашчанкі ні многіх іншых.

Але — лісты Міхася Стральцова ў мяне цалюткія — усе (Сямейная традыцыя была — захоўваць лісты, калі яны не кампраметуюць нейкім чынам адрасата Лічу, што лісты Стральцова мецяць вышыню і высакароднасць яго натуры.)

А першы мой ліст (чарнавік якраз ёсць) пачынаўся так:

«Дарагі Міхась!

Не буду паважна дражніцца — Лявонавіч!

Дык вось. Сяджу гэта я надвячоркам гляджу як гойдаюцца сосны ў балтыйскім небе і дыбаюць на вечаровы шпацыр хмаркі — што масквічоўкі з Дома творчасці — тут табе і ружовыя, свежанькія і вяршкова-пульхныя чырванавата-шэрыя сівенькія .» І пісала я там пра нейкую драбязу· пра тое што «пан Езус наладзіў тут навальніцы і +25 па Цэльсію ў канцы верасня», што ў Мастацкім музеі ў Рызе адбылася выстава Барыса Берзіня і мне страшэнна спадабаўся ягоны аўтапартрэт· «немалады немаўля ў раскудлачаным вянку-веніку на галаве» пра дзівосы-аб'явы «Ригас балс»· «Одинокий мужчина или вдовец. может написать письмо женщине-вдове, кареокой и чернобровой брюнетке». Была восень 1982-я ад нараджэння Хрыстова. усе хат- і бодзі-шопінгі (усё на продаж цела і душы) былі наперадзе, і я здзекавалася як магла з той, што займалася наіўна-таннай самарэкламай: «кареокая и чернобровая».

Міхась адпісаў І было ліставанне Даўжынёю ў год — з восені 1981 да восен 1982 года (больш дакладна — да снежня). Пакуль ён быў у Мазыры

Ліставанне Тэлефонныя званкі Сустрэчы — часцей выпадковыя «Есть в близости людей заветная черта .» У нашых адносінах гэта заўсёды была дыстанцыя Тая дыстанцыя што змяшчала і нязмушанасць сяброўскіх адносін і літаратурна-мройнае дадумванне адно аднаго І аберацыю часоў Студэнцкіх. Нядаўніх. Сённяшніх. Было магчыма і тое, пра што ён напісаў у адным са сваіх вершаў якія былі ў лістах. «Так размінаецца душа З другой душой — і плача вецер .»

Дыстанцыйны стыль адносін· ён заўсёды накладвае свой адбітак. І — як сведчыў Пастарнак, «вобраз чалавека . большы за чалавека» Але пра гэта крыху пазней — з нагоды Стральцоўскіх развагі пра «адрасатаў» і «герояў» вершаў (Згадваю ўсё гэта не дзеля таго каб давесці свету гісторыю нашых узаемаадносін а каб пазначыць вельмі важныя стасункі для разумення такой творчай асобы як Міхась Стральцоў )

Дарэчы, па універсітэце я Стральцова не памятаю А ён недзе здалёк заўважыў але не падышоў «Можа і добра — гаварыў ён год праз дваццаць — напакутавалася б ты са мной» Ну, але ж — дваццаць год накладваюць такі своеасаблівы адбітак на любое вызнанне хочаш — жартуй не хочаш — таксама жартуй Была ў ягонай рэпліцы добрая доза іроніі і не адну мяне, безумоўна заўважала яго вострае юнацкае вока Але — жанчыны любяць салодкі падман «Ах, обмануть меня нетрудно, я сам обманываться рад» А я тады, у студэнцтве і ад блізарукасці, і ад галавы, «поўнай сонцам» і ад таго, што неба было для мяне колеру мары а край свету недзе побач на рагу знаёмых вуліц, ад звоннага тлуму сталіцы пасля наваградскай цішы — не пабачыла не згледзела Шмат чаго не пабачыла не згледзела А блакітны вецер Стральцоўскай мары заспеў мяне, канечне ж, насуперак логіцы (наскрозь алагічны чалавек) у маёй любімай бібліятэцы

«У радасці свая вясна і калі стане вясновай душа — народзіцца радасць

І неабавязкова ёй прыходзіць да чалавека вясной ёсць яшчэ лета і зіма, ёсць восень і ёсць яшчэ дзень і ноч, усход і заход сонца Зімою трашчыць уночы на рэках лёд, і гул ідзе высока, аж да неба а раніцай ляжаць снягі ружовыя і чыстыя як радасць А ў жытнёвае лета вісіць над зямлёю яблык, пераспелы светлы як даўняя журба· ён упадзе — надыдзе восень, а восенню хлапчукі пякуць на полі бульбу і ўвосень прыходзяць да чалавека ўспаміны пра маленства Але толькі высока ў небе клічуць радасць журавы і кал яна запозніцца да цябе зімой ці летам, удзень ці ўночы дык абавязкова прыйдзе з гэтаю песняю і ты можа спазнаеш тады і трывогу, і шкадаванне, і журбу але ўсё адно гэта будзе радасцю»

Свет існаваў Свет руйнаваўся На вачах. Камінка ў мяне не было. Грубка роднага дома

падобны да самога сябе
цвярозы празаік Адам,
з якім мы ў 1863 годзе
асуджаем у налібоцкай леснічоўцы на смерць
зарослага рудым шчаціннем маскоўскага лазутчыка,
што, апелюючы да міжнароднае практыкі,
патрабуе задавальнення апошняе просьбы —
з‘есці бляшанку кілек у тамаце,
якую я хачу з‘есці сам, і ў выніку
леснічоўку атачае рымская цэнтурыя,
што ваюе з інсургентамі на баку Аляксандра II;
ты на сонечным плыткаводдзі
са схіленым над табою маім тварам,
адбітым у пералівістай плыні,—
ласкавыя ўгаворы не баяцца зялёных шчупакоў,
што ленавата казычуць
твае цалаваныя ступачкі,
пакуль мы любім адно аднаго ў цёплай вадзе,
узгадваючы формулу Геракліта,
якую я ўдасканальваю тваім імем;
драўляныя статуі святых апосталаў Пятра і Паўла,
якія гавораць на дзесяці мовах
(у тым ліку і па-кітайску)
у багатай віле з кандыцыянерамі
і тэрасаю над самым морам,
з якой можна назіраць, як
чапляючыся за выступы скалаў
і
раз-пораз абрываючыся ў ваду,
узахапы караскаюцца ўгору
дзесяткі два айчынных паэтаў;
ты ў чырвоным арктычным пухавіку,
пад якім па чарзе адтайваюць
паміж тваіх дваццацігадовых грудак
пакрытыя шэранню лебедзі,
знойдзеныя намі сярод ільдзін і сумётаў
горнай цясніны
(ты сцвярджаеш, што гэта балівійскія Анды);
канцлер Вялікага Княства Літоўскага Леў Сапега,
што заклапочана зашпільвае на гаплікі сіні жупан,
выходзячы з XVI стагоддзя праз маю прыбіральню;
ты за рэстаранным столікам
з ільснянаскурым афрыканцам,
ахутаная ментолавай смугою цыгарэтаў «Salem»;
Венера Ільская
з маёй падлеткавай галюцынацыі
ў пустой кватэры а палове пятай раніцы
з пагрозлівым надпісам «Cave amantem»*
на масянжовым цокалі;
жоўтатвары Акутагава,
падобны да в‘етнамскага студэнта
з інтэрната нашае маладосці
з рукапісам «Жыцця ідыёта» пад пахаю і
чапурысты, як травеньскі грак, Карл Густаў Юнг

* Сцеражыся той, што цябе пакахае (лац.)





з трактатам «Wandlungen und Symbole des Libido»*
з кухлямі ў меру разбаўленага піва
каля жоўтае бочкі
на вуліцы Стралецкай у Полацку,
дзе мы паспелі з імі шчасліва размінуцца;
мы з табою на пляцы Гішпаніі ў Рыме —
ты ў серабрыстай сукенцы-трыко з «маланкаю»
ад палевай ямінкі на шыі
да схаванага пад срэбрам
пушыстага трохкутнічка;
ты ў мяне на каленях
на каменнай лавачцы пад ніцай вярбою
каля выпаленага сонцам калумбарыя;
прахожыя,
народжаныя да і пасля Хрыстовага нараджэння;
жанчына з тэракотавай амфарай на плячы,
якую мы аклікнулі, каб
выпіць па шклянцы ламбруска
перад тым, як твая «маланка»
апячэ мне пальцы абяцаннем новых тайніц,
нязведаных за тысячы нашых блізкасцяў
на беразе стагоддзя,
чые астатнія гады
адплываюць у невараць
крохкімі крыгамі,
па якіх
мы
з табою
спрабуем,
трымаючыся за рукі,
перабрацца на той бок.
(Першы дотык змяшае вымярэнні й эпохі,
дзе мы існуем
ва ўсіх ранейшых і будучых увасабленнях;
слодыч абуджэння пацвердзіць:
мы з той самай матэрыі, што і нашыя сны).

Калі сёння ты не прыснішся мне,
я сам папоўню фаўну тваіх сноў
сваёй сарамяжлівай сумотаю
з пахам канваліяў,
сваёй негаваркой пяшчотнасцю
з пахам язміну,
сваімі бессаромнымі вуснамі
з гаркавым пахам рамонкаў.
Я згодны нават на тое, каб
мы з табою прысніліся некаму трэцяму —
хай паўторыцца
той бязгрэшны сон,
дзе мы сядзім на даху нью-ёркскага хмарачоса
і,
боўтаючы над безданню босымі нагамі,
успамінаем:
калі ты снілася мне,
калі сном быў я сам.

* Метамарфозы і сімвалы лібіда (ням.)

## ДАРОГА Ў ПОЛАЦК

Дарога ў Полацк
пасля спаткання з табою
падобная на дарогу з Эдэму
ў яго ліпеньскія ваколіцы.
Разгорнутая на каленях кніга:
«Дзень быў блакітны,
як адварот птушынага крыла...»
Хіба гэта не пра нас?
Мімалётны сон,
шчаслівы, як кацяня на срэбным бервяне
пад дзедавай арабінай.
Твае чарэшневыя вусны
яшчэ блукаюць па бульварах і завулках
горада, які завецца маім целам.
Чырвоны акварыум «Ікаруса»
ўвачавідкі поўніцца бурбаткамі кіслароду.
Суседка ў кароткай спадніцы
з тваімі цыбатымі нагамі,
з тваімі асіметрычнымі ямачкамі
на падбародку,
калі ты смяешся
з майго шапялявага блазнавання.
Азёры сярод спадзістых пагоркаў сведчаць:
аўтобус не збіўся з курсу.
Знаёмы скульптар сцвярджае, што тут
(прашу трымацца паважна)
зноў завяліся ундзіны,
вядомыя з гістарычных крыніц мінулага стагоддзя
(пра гэта ўжо напісала сталічная газета).
Не выключана, што ў іх
ногі маёй суседкі
з каленямі, як яблыкі-папяроўкі,
якія я хачу накрыць
сваёй расхваляванай далонню,
каб адчуць сорам перад табою,
каб востра адчуць тваю ўладу,
што здаецца мне сёння
найвышэйшаю формай свабоды.
Табе лепей не ведаць:
без цябе я рызыкаваў бы застацца
толькі магчымасцю самога сябе,
не ўведаўшы,
як цалуюцца ундзіны
ў чырвоным «Ікарусе»
па дарозе з Эдэму ў Полацк,
па дарозе ад нас да цябе,
па дарозе з прадоння бясконцасці
ў бездань нябыту,
сагрэтую чарэшневымі вуснамі,
якія асцярожна робяць
салёны глыток.



# Эрнэст ХЭМІНГУЭЙ | ЯНЫ

# ІНДЗЕЙСКІ ПАСЁЛАК

*Навела*

На возеры ля берага была прычалена чужая лодка. Побач стаялі і чакалі два індзейцы

Нік з бацькам перайшлі на карму індзейцы адштурхнулі лодку і адзін з іх сеў на вёслы Дзядзька Джордж сеў на карму другой лодкі Малады індзеец сапхнуў яе ў ваду і таксама сеў на вёслы

Абедзьве лодкі адплылі ў цемнаце Нік чуў рыпенне уключынаў другой лодкі далёка ўперадзе у тумане. Індзейцы грэблі кароткімі рэзкімі рыўкам Нік прытуліўся да бацькі той абняў яго за плечы На вадзе было холадна Старэйшы індзеец веславаў з усяе сілы але другая лодка ўвесь час ішла ўперадзе ў тумане.

—Куды мы плывём, тата? — спытаўся Нік.

—На той бок, у індзейскі пасёлак. Там адна ндзіянка цяжка хворая

—А. — сказаў Нік.

Калі яны даплылі, другая лодка была ўжо на беразе Дзядзька Джордж курыў у цемры цыгару Малады індзеец выцягнуў іх лодку на пясок. Дзядзька Джордж даў абодвум індзейцам па цыгары

Ад берага яны пайшлі лугам па траве, мокрай ад расы, паперадзе ішоў і нёс ліхтар малады індзеец. Потым увайшлі ў лес і выбраліся па сцяжыне на дарогу Яна вяла ў далячынь да пагоркаў На дарозе было нашмат святлей дрэвы абапал яе былі высечаныя Малады індзеец спыніўся і патушыў ліхтар, і яны пайшлі далей па дарозе

За павароткаю на іх выскачыў і загаўкаў сабака Уперадзе свяціліся агні халуп дзе жылі індзейцы Выскачыла яшчэ некалькі сабак. Індзейцы прагналі іх назад, да халупаў. У вакне бліжэйшай халупы свяціўся агонь. Ля дзвярэй стаяла і трымала лямпу старая

Усярэдзіне на драўляных нарах ляжала маладая індзіянка Яна раджала ўжо два дн Каля яе сабраліся ўсе старыя жанчыны пасёлка Мужчыны згуртаваліся і курылі ў цемры на дарозе, дзе не было чуваць крыкаў жанчыны Якраз тады калі абодва індзейцы і Нік услед за бацькам і дзядзькам Джорджам увайшлі ў халупу яна зноў пачала крычаць Жанчына ляжала на ніжніх нарах, пад коўдраю гарою ўздымаўся яе жывот Галава была павернутая набок. На верхніх нарах ляжаў яе чалавек. Тры дні назад ён параніў нагу сякераю Ён курыў люльку У халупе моцна смярдзела

Бацька Ніка загадаў паставіць на агонь ваду і пакуль яна награвалася гаварыў з Нікам

—У гэтай жанчыны, Нік,— сказаў ён,— павінна нарадзіцца дзіця

—Я ведаю,— адказаў Нік.

—Нічога ты не ведаеш,— сказаў бацька.— Слухай Тое што ты бачыш цяпер называецца родавыя спохваткі Дзіця хоча нарадзіцца і яна хоча каб яно нарадзілася Усе яе мышцы напружваюцца дзеля таго, каб дапамагчы яму нарадзіцца Вось што адбываецца калі яна крычыць.

—Разумею,— сказаў Нік.

Тут жанчына зноў закрычала.

—Ох, тата, хіба ты не можаш даць ёй чаго каб яна не крычала? — спытаўся Н к.

—Не, не магу Са мной няма нічога такога — адказаў бацька — Але яе крыкі не маюць значэння. Я не чую яе крыкаў бо яны не маюць значэння

Чалавек на верхніх нарах павярнуўся тварам да сцяны

Жанчына на кухні знакам паказала доктару што вада ўскіпела Нікаў бацька прайшоў на кухню і адліў палову вады з вялікага катла ў тазік. У кацёл ён паклаў інструменты якія прынёс з сабою загорнутымі ў насоўку

—Трэба, каб інструменты пракіпяціліся — сказаў ён і, апусціўшы рукі ў тазік, пачаў церці іх мылам, прынесеным з сабою з лагера Нік глядзеў як бацька трэ мылам то адну, то другую руку. Робячы гэта вельмі рупліва, бацька адначасна гаварыў з Нікам

—Бачыш, Нік, дзіцяці трэба ісці галавою ўперад, але так бывае не заўсёды І калі гэта не так, дык усім тады багата клопату Можа, трэба будзе рабіць аперацыю. Зараз пабачым

Калі бацька пераканаўся што вымыў рукі як след, ён вярнуўся ў пакой і прыступіў да справы

—Адгарні коўдру Джордж,— сказаў ён — я не хачу да яе дакранацца.

Пазней калі пачалася аперацыя, дзядзька Джордж і трое індзейцаў трымалі жанчыну Яна ўкусіла дзядзьку Джорджа за руку, і ён сказаў· «Ах, сучка!» — і малады індзеец, які вёз яго цераз возера, засмяяўся Нік трымаў тазік. Усё гэта забрала немалы час.

Нікаў бацька падхапіў дзіця, шлёпнуў яго, каб той лепш дыхаў, і перадаў старой

—Бачыш, гэта хлопчык, Нік,— сказаў ён — Ну, як табе падабаецца быць маім асістэнтам?

—Нічога,— сказаў Нік. Ён глядзеў убок, каб не бачыць, што робіць бацька

—Так. Ну цяпер усё — сказаў бацька і кінуў нешта ў тазік.

Нік не глядзеў туды

—Ну,— сказаў бацька,— зараз трэба накласці швы Можаш глядзець, Нік, ці не, як хочаш Я буду зашываць разрэз.

Нік не стаў глядзець. У яго даўно прапала ўсякая цікаўнасць.

Бацька кончыў і выпрастаўся Дзядзька Джордж і індзейцы таксама падняліся Нік аднёс тазік на кухню

Дзядзька Джордж паглядзеў на сваю руку Малады індзеец усміхнуўся

—Зараз я прамыю перакісcю, Джордж,— сказаў доктар.

Ён нахіліўся над індзіянкаю. Цяпер яна ляжала зусім спакойна, з закрытымі вачыма Яна была вельмі бледная Яна не ўсведамляла, ні што з яе дзіцём, ні што робіцца вакол яе.

—Я прыеду заўтра — сказаў доктар, разгінаючыся —Сядзелка з Сэнт-Ігнэса, мусіць, будзе тут апоўдні і прывязе ўсё, што трэба.

Ён быў узбуджаны і гаваркі, як футбаліст пасля ўдалае гульні

—Вось выпадак, Джордж, пра які варта напісаць у медыцынскі часопіс,— сказаў ён — Кесарава сячэнне з дапамогаю нажа і швы з дзевяціфутавай вяленай жылы

Дзядзька Джордж стаяў, прытуліўшыся да сцяны, і разглядваў руку

—Ну, вядома ты ў нас вялікі хірург,— сказаў ён

—Трэба зірнуць на шчаслівага бацьку Яны бадай, найбольшыя пакутнікі ў гэтых маленькіх сямейных справах,—сказаў Нікаў бацька.— Хаця, мушу сказаць, чалавек пеpажыў усё надзіва спакойна

Ён адкінуў коўдру з галавы індзейца Рука яго трапіла ў нешта мокрае. Ён стаў на край ніжніх нараў, трымаючы ў руцэ лямпу і зазірнуў наверх. Індзеец ляжаў тварам да сцяны Горла ў яго было перарэзана ад вуха да вуха. Кроў лужаю сабралася ў тым месцы, дзе дошкі прагнуліся пад цяжарам яго цела Галава ляжала на левай руцэ Адкрытая брытва, лязом уверх,— на коўдры

—Выведзі Ніка, Джордж,— сказаў доктар.

Аднак ён позна спахапіўся. Нік, стоячы ля дзвярэй кухні, добра бачыў верхнія нары і жэст бацькі, калі той, з лямпаю ў руцэ, павярнуў галаву індзейца

Ужо днела, калі яны ішлі назад па дарозе да возера

—Ніколі не дарую сабе, што ўзяў цябе з сабою, Нік,—сказаў бацька Уся яго нядаўняя ўзбуджанасць прайшла — Трэба ж было такому здарыцца!

—Што, жанчынам заўсёды так цяжка кал ў іх нараджаюцца дзеці? — спытаўся Нік.

—Не, гэта быў вельмі вынятны выпадак.

—Чаму ён забіў сябе, тата?

—Не ведаю, Нік. Не мог пеpажыць, напэўна

—А часта мужчыны забіваюць сябе, тата?

—Не надта Нік.

—А жанчыны?

—Яшчэ радзей

—Ніколі?

—Ну, бывае часам

—Тата!

—Што?

—А куды пайшоў дзядзька Джордж?

—Ён зараз прыйдзе

—Цяжка паміраць, тата?

—Не. Думаю, гэта зусім няцяжка, Нік. Усё залежыць ад абставін

Яны сядзелі ў лодцы Нік — на карме, бацька — на вёслах. Над пагоркамі ўздымалася сонца Плёснуў акунь і па вадзе пайшлі кругі Нік апусціў руку ў ваду У рэзкім холадзе ранку вада здавалася цёплая

Гэтым раннім часам на возеры у лодцы, каля бацькі што сядзеў на вёслах, Нік быў зусім упэўнены што ніколі не памрэ.

**Пераклаў з англійскай Алесь АСТАШОНАК.**



# Філіп ФРЭНО | ЯНЫ

# МЕЛАНХАЛІЧНЫ ІНДЗЕЕЦ

*Навела*

Наколькі я памятаю, была сярэдзіна жніўня, мы сядзелі на зялёным пагорку каля ручая, дзікі вінаград яшчэ не паспеў, але мы ўжо прадчувалі задавальненне, якое будзем мець неўзабаве ад ягоных дзіўнага смаку ягадаў з гронак, што віселі цяпер у нас над галовамі ў густым ценю прыгажуна-бука, раптам у наш бок з лямантам памкнуліся нейкія маладыя людзі, і мой мудры сябар Сахэм[1] Тома-Чыкі, тагачасны мой спадарожнік, узяў мяне за руку і настойліва прапанаваў выправіцца разам з ім у яго вігвам, што знаходзіўся за некалькі міляў адсюль, у далечыні ад усялякае цывілізацыі

Ягоная просьба, такая незвычайная і такая несвоечасовая ў тую жудасную спякоту, а галоўнае, з-за чаго выказаная — з-за крыку колькіх п яніц, здзівіла мяне. Аднак я згадзіўся, і мы рушылі на захад, не абмяняўшыся больш аніводным словам, праўда, у першым сустрэтым доме зноў распалілі люлькі

Ледзь толькі мы ступілі ў лес, як я пачаў пераконвацца што ўсё тут нам бачнае захавалася ў дадзеным Прыродаю выглядзе. Дрэвы статнасцю і высокасцю сваёй быццам сведчылі аб тым, што ўласнай дасканаласцю яны анізвання не абавязаныя Умельству Ручаі пятлялі, як хацелі, не спростаныя нудна рыдлёўкаю селяніна Зямля тут ніколі не зведвала плуга, а паветра ў гэтым Царстве Прыроды поўнілася цудадзейным водарам, які ўцягвалі ў сябе лёгкія яшчэ тых старажытных людзей, што жылі ў пракаветныя вякі свету

Насустрач нам, гаўкаючы, выбег руды сабака, і я зразумеў, што нарэшце мы дабраліся да вігвама Жытло, сама болей восем футаў у вышыню было збудавана з абы-як абчасанага дрэва уверсе — дзірка-дымаход. Мала не аблеплены высачэзнымі дрэвамі, вігвам стаяў на беразе празрыстага ручая На глыбокім месцы маладая індзіянка вудзіла рыбу і спрытна выхоплівала адна за адною стронгу ды іншых насельнікаў ручая Старая непадалёк трыбушыла рыбу і вешала яе вяліцца на зіму.

Мы ўвайшлі з індзейцам у вігвам і селі па-простаму на драўлякі, накрытыя лісінымі шкурамі Другога абсталюнку ў жытле не мелася Падлога пад нагамі была тою, якую спрадвеку мы топчам нароўні з звярыма Я парадаваўся з таго, што быў выпушчаны ў гэты свет у такі час, калі яшчэ можна заспець першабытных людзей і ўбачыць прыкметы іхняга побыту Колькі наступных стагоддзяў сатруць усё гэта дарэшты. Я вырашыў, калі выйдзе, крыху падражніць індзейца.

—Не магу зразумець, Сахэм Тома-Чыкі,— сказаў я,—навошта вам, чалавеку з вашай адукацыяй, хаваць сябе ў такім дзікім кутку. Вы ж прайшлі сама мала сто семнаццаць ліг[2] да дзвярэй Дартмуцкага каледжа[3] — дзеля таго, каб дапасці навукі моваў, мастацтваў ды містэрыяў, — а цяпер адмаўляецеся ад усяго набытага, такіх паводзінаў я няздатны зразумець Хіба ж прасторны дом таўстуна-святара не быў бы лепшы ад гэтага будана сярод змрочнага лесу, ля гэтага дзікага ручая? Хіба ежа і напоі белых законнікаў не былі б лепшыя ад гэтае прэснае рыбы, гэтых засохлых карэньчыкаў і ручаёвай вады? Хіба доктарскі каўпак, элегантны ранішні халат і строгі цёмны касцюм пашыты еўрапейскім краўцом, не засцілі б у вашых вачох гэтай убогай коўдры, што вечна спаўзае з плячэй і якую нельга надзець без шпілек, ад якіх клопату больш, ніж карысці?

—Даруй мне — адказаў індзеец,— калі ўсе памянёныя табою даброты ды перавагі ўявіліся мне нікчэмнымі ў параўнанні з маім боскім адзіночаннем Толькі нашае ўласнае стаўленне да жыцця дае нам шчасце. Вялікі Чалавек, вышэйзорны насельнік, абыдзецца з намі па мудрай сваёй волі На мне ляжыць абавязак шчасна пражыць тыя гады, якія ён мне даў, бо тады я ягоны слуга і вернік. Пазбаўлены гэтае радасці, я быў бы адно ў роспачы. Не закранай гэтага, белы чалавек, іншыя будуць складаць законы і не мець сну дзеля марных радасцяў; Тома-Чыкі ва ўсім бачыць таемны сэнс, і калі ён задаволены сваім вігвамам — мэта ягонага існавання дасягнута А якая ж цана той адукацыі, што не мае сваёй першай галоўнейшай мэтаю асабістую і грамадскую сумленнасць? Не асвечанае справядлівасцю ды міласэрнасцю, веданне таго і таго мала чаго каштуе Хадзем на руіны старажытнага індзейскага горада — там паблізу адпачываюць мае продкі

Ледзь кончыўшы, ён схапіў сваю кульбу і выскачыў з вігвама апантаны нібыта яго падганялі думкі аб супляменніках —нябожчыках, жывых і нашчадках. Я кінуўся следам за ім

—Які сэнс сумаваць? — сказаў ён — Праз тры вякі на зямлі не застанецца аніводнага майго брата і брата майго брата Нашая раса ўся знікне. Нядаўна я вяртаўся дамоў з таго боку ручая Калі я дабраўся да яго, у ім паднялася ўжо з-за дажджоў вада, і, толькі рызыкуючы жыццём я змог пераправіцца цераз ручай. Усхадзіўся вецер, сек лівень. Я запоўз у гарэшнік і заснуў І тут перада мною адразу паўсталі душы маіх продкаў Іх ахінала роспач Яны

ўтаропіліся ў мяне і крычалі адзін за адным: *«Брат! Прыйшоў час і табе збірацца да нас: твой народ вынішчаны, землі адабраныя, лепшыя ваяры перабітыя, нават вігвам, у якім ты жывеш, і той закладзены за тры барылкі сідру! Будзь мужчынам і, калі Прырода спазняецца да цябе з сваёю ласкай, знайдзі сілу сам увайсці ў яе нябачную спачывальню».*

Тым часам мы прыйшлі да руінаў старажытнага індзейскага горада Месца было надзвычай рамантычнае, у тым сэнсе, што такі куток заўсёды хіліць да роспачы Тае ж хвіліны сонца схавалася за вялікаю цёмнаю хмарай, і гэта адно дадала пахмурнаму відовішчу чароўнасці Яшчэ захаваліся прыкметы ранейшых вуліц і плошчаў; яшчэ ацалела колькі дрэваў — гэтыя ўлюбёнцы часу перажылі ўсіх былых насельнікаў места. Як і некалі, струменіў ручай і білі крыніцы, з якіх наталялі прагу пакаленні і пакаленні людзей, якія даўно перайшлі ў той свет, адкуль не вяртаюцца. Увесь гэты час твар індзейца быў роспачны, а калі мы падышлі да месца, дзе знайшлі сабе спачын ягоныя продкі, Тома-Чыкі не змог стрымаць слёз.

—Гэты лапік зямлі,— сказаў ён, падабраўшыся — раней належаў мёртвым, але цяпер ужо не! Увесь гэты горад з наваколлем, не пашкадаваўшы нават касцей нашых прапродкаў, купіў чужаніца. Нас абрабавалі, і гэтым рабаўнікам быў чалавек, які ведаў старажытнагрэцкую і старажытнагабрайскую мовы. Пяць барылак віскі вырашылі ўсё. Ён выбраў час, калі мы былі п'яныя і ўвесь свет здаваўся нам драбнічкаю, што ж тады казаць пра гэты куточак зямлі, які, аднак, карміў нас мясам ды рыбаю. Вось тут,— уздыхнуў ён,— жыў Таўтонга, адзін з самых слынных нашых ваяроў Быў час, калі ён мог пахваліцца ста дваццаццю сямю перамогамі, а самога яго загубіў бяззбройны ангелец. Вунь там, цераз дарогу, жыла прыгажуня-Пілаўаў; трыццаці тром жаніхам з свайго племені адмовіла яна, а гандляр ірландзец завабіў яе за тры ярды срэбранай стужкі і новую коўдру А там стаяў дом Скатавабы, майго дзеда ён загінуў з-за барылкі рому, якую проста згубіў па дарозе нейкі гандляр з Захаду Няхай паболеюць ягоныя радасці за ягонымі заходнімі гарамі! Успаміны агортваюць мяне роспаччу Вернемся ў вігвам!

Калі мы дабраліся да яго прытулку, індзеец адразу сеў і самотна ўтупіўся ў нейкую аднаму яму вядомую далячынь ці блізкасць. Старая індзіянка спыталася ў яго, чаму ён такі сумны

—Пазбавіцца смутку ты сам здатны,— сказала яна.

Тома-Чыкі ўскочыў на ногі, нібыта нешта згадаўшы, і ўсклікнуў·

—Жыццё — гэта сон, і цудоўны сон, калі ставіцца да яго як да сну, а не інакш Прынясі мне жбан добрага сідру; ён будзе мне сябрам, калі ўсе астатнія падмануць мяне і здрадзяць мне, найкаштоўнейшы Боскі дар — толькі белыя людзі валодаюць тайнаю яго гатавання!

Ён пачціва прапанаваў і мне пакаштаваць прынесенага напою, але сідр з аднаго ўжо паху быў такі кіслы, што я пакляўся ўсімі індзейскімі багамі не браць яго ў рот Тады індзеец паказаў на ручай, дзе маладзіца вудзіла рыбу, і, пасвятлеўшы з твару, сказаў·

—Ідзі, цвярозы чалавек, табе да смаку будзе і вада, а я з задавальненнем паспытаю гэтага яблычнага соку

Дзве гадзіны мінулі ў маўчанні Нарэшце індзеец выпіў прынесеныя два галоны[4] сідру, згадаў раптам, што колькі дзён назад ён прадаў за нішто зямлю сваю і вігвам, і адразу раз'юшыўся, распалены выпітым.

—Досыць,— сказаў ён,— з мяне хапіла, у мяне няма больш ані дому, ані зямлі, я хачу сказаць слова аб мудрасці самазабойцы

Усё пагоня за ветрам! — пачаў ён — Гэтыя кветкі, ручаі ды ціхія прыцемкі — нішто мне. Я не зраблю вялікага граху, калі скажу, што мне гідка іх бачыць. Шэсцьдзесят разоў рабіла сонца гадавы круг з таго дня, як я ўпершыню быў уражаны пекнасцю ягоных зіхоткіх промняў Пражыву я яшчэ шэсцьдзесят і што, хіба я ўбачу хоць што новае, не бачанае раней? Калі ўсё надакучвае і страчвае свежасць, самы раз спяшаць збірацца ў апошнюю дарогу Сёння ж ноччу падпалю свой вігвам і знікну разам з дымам Няма,— прадоўжыў ён, дапіваючы рэшткі сідру,— няма нічога новага усё надакучвае і страчвае смак.

У гэты момант на парозе з'явіўся вандроўны гандляр з таварамі Ён прыйшоў, як высветлілася, здалёк і цяпер прапаноўваў абмяняць барылку французскага брэндзі на бабровыя шкуркі, што сушыліся на слупку ля вігвама

—Французскі брэндзі? — усклікнуў Тома-Чыкі — Гэта штосьці новае.

—Вядома,— адказаў гандляр,— ва ўсякім разе ў нашых дзікіх краёх.

—Прысягаю небам, я яго пакаштую,— сказаў індзеец.

—А ці ж не супярэчыць гэта вашаму перакананню,— заўважыў я,— што няма нічога новага пад сонцам? *Толькі для вечнаіснага няма невядомага і новага, з простымі смяротнымі ўсё зусім інакш. На карысць і на радасць ім у акіяне жыцця Умельства і Прырода ў вечным сваім суплёце ствараюць новыя формы і сутнасці.*

—Сам Бог насяляе сваёю часцінкай гэты дзіўны напой,—усклікнуў індзеец, паспытаўшы брэндзі другім разам — Забірай, незнаёмец, усе мае шкуры і футры, а калі развіднее, выпраўляйся дамоў па новы запас гэтага нектара Жыццё рабілася мне невыносным і я пачынаў ужо думаць, як хутчэй пайсці з яго. Цяпер я спазнаў мудрасць і застаюся з перакананнем. *толькі* РАЗНАСТАЙНАСЦЬ *робіць жыццё жаданым.*

1788

**Пераклаў з англійскай Алесь АСТАШОНАК.**

[1] Сахэм — правадыр (мова індзейскага племені крык).

[2] Ліга — адзінка даўжыні ў Вялікабрытаніі і ЗША — 4,828 км.

[3] Дартмуцкі каледж — адзін з старэйшых каледжаў ЗША, знаходзіцца ў штаце Нью-Гэмпшыр, на паўночным усходзе краіны.

[4] Галон — адзінка аб'ёму і ёмістасці ў Вялікабрытаніі і ЗША — 3,785 л.



# ТВАРАСЛОВЫ

**Дбожыць** — не спаць, калі хочацца спаць, не паддавацца сну, калі сон змагае і апаноўвае, гэтым сваім дбаннем як бы тварыць набажэнства, здабываць божую падтрымку асягаць новыя можнасці жыцця; *бодрствовать.*

**Дбожанне** — *бодрствование.*

**Дбожны, дбожлівы** — *бодрый, бодрствующий.*

**Дбожыцца** — знаходзіцца ў стане, калі **дбожанне** становіцца ўласцівасцю натуры і адбываецца само па сабе.

Калі б ведаў гаспадар дома, у якую варту прыйдзе злодзей, то дбожыў бы і не даў бы падкапаць дома свайго (Мацв., 24:43).

Дбожце маліцеся, каб не ўпасці ў спакусу: дух дбожны, самсць жа нямоглая (Мацв., 26:41).

Дык жа не будзем спаць, як іншыя, але будзем дбожыць і цвярозіцца (1 Сал., 5:6).

**Звіждаваць** — бачыць далёка наперад праз далечыню часу, выклікаць вобраз таго, што мае адбыцца; *провидеть.*

**Звіждоўны** — *провидческий.*

**Звіждаванне** — *провидение.*

**Звіждар, звіждун** — *провидец.*

Хто гэта, што азмрочвае Звіждаванне словамі без кнозы? (Іоў, 38:2).

Бо гэта народ бунтоўны, дзеці хлуслівыя, якія не хочуць слухаць закона Гасподняга, якія звіждарам кажуць. «перастаньце звіждаваць», пракорам «не прарочце нам праўды...» (Іс., 30:9—10).

І Пісанне, звіждуючы, што Бог вераю апраўдае паганцаў, прадузвясціла Аўраму (Гал., 3:8).

**Навузга** звязвае ў вузлы слоў тое, што праяўляецца ў падазроных здагадках і што плявузгаецца па завуголлі; *навет.*

**Навузгнічаць** — *наветничаць.*

**Навузгнік** — *наветник.*

**Навузглы** — *«наветный».*

І сказаў Давыд: што мне вам, сыны Саруевы, што вы робіцеся цяпер навузгнікамі? (2 Цар., 19:22).

Не прыхіляй вуха да крывадушных падшэптаў і не ўпускай у сэрца свае варожых навузгаў (Апокр.).

На каго навузгнічаюць, той апраўдаецца сваёй адданасцю праўдзе, але хто навузгнічае, прычыняецца да віны (Апокр.).

**Кноза** — змест, суадпаведны наканаванаму парадку рэчаў, які якраз і распазнаецца ў ёй і дзякуючы ёй; змысловая цнота; *смысл.*

**Кнозны** — *имеющий смысл.*

**Кнозіць** — *смыслить.*

**Скнозлівы** — *смышленый.*

**Скнозлівасць** — *смышленость.*

Хай дасць табе Госпад кнозу розум (1 Пар., 22:12).

Адымае мову ў красамоўцаў, старцаў пазбаўляе кнозы (Іоў, 12:20).

Простым даць скнозлівасць, юнаку — веды разважлівасць (Пр., 1:4).

Узбуджаю вашу чыстую кнозу, каб вы разумелі словы, раней моўленыя святымі прарокамі (2 Пётр., 3:1—2).

**Спрытыкацца** — сутыкацца ўпрытык з перашкодай, якая, можа, і не варта тваёй увагі, але якая чакае, каб гэта быў менавіта ты, спатыкацца аб яе, падпадаць пад яе прыкры дыктат; *претыкаться.*

**Спрытыкнуцца** — *преткнуться.*

**Спрытыкненне** — *преткновение.*

**Спрытыкі** — *претыкания, козни.*

На руках панясуць цябе, не спрытыкнешся аб камень нагою тваёю (Пс., 90:12).

Калі будуць наступаць на мяне ліхадзеі, супротнікі ворагі мае, каб зжэрці цела маё, то яны самі спрытыкнуцца ўпадуць (Пс., 26:12).

Бо спрытыкнуліся аб камень спрытыкнення (Рым., 9:32).

Адзеньцеся ў паўнату зброі Божай, каб вам можна было стаць супраць спрытыкаў д'ябальскіх (Еф., 6:11).

**Бытнаваць** — знаходзячыся ў пэўным часа-прасторавым кантынууме, быць тоесным быццю, і такім чынам дазваляць яму рабіцца постасным, асабовым; *пребывать.*

**Бытнаванне** — *пребывание.*

**Бытны** — *пребывающий.*

**Бытнавацьме** — *пребудет*

Тады, якое месца абярэ Госпад, Бог ваш, каб бытнаваць імені Яго там, туды прыносьце ўсё, што я наказваю вам (Другазак., 12:11).

Хто не бытнавацьме ўва мне, адрынецца прэч, як галіна, і ссохне (Іаан, 15:6).

Бог ёсць любоў, і той, хто бытнуе ў любові, бытнуе ў Бозе, Бог у ім (1 Іаан, 4:16).

**Хітлівы** — той, хто хістаецца ў сваіх паводзінах, але так, што гэтае хістанне ўнутрана абгрунтавана мэтанакіравана; хітры; *лукавый.*

**Хітляваць** — *лукавить.*

**Хітляванне, хітліўства** — *лукавство.*

**Хітлівец** — *лукавец.*

Слова вуснаў яго — няпраўда хітляванне (Пс., 35:4).

Госпадзе! Збаў душу маю ад вуснаў хлуслівых, ад языка хітлівага (Пс., 119:2).

Словы хітлявяць, але ведаеце вы, аднак, большую праўду (Апокр.).

**Пойтаць** — насычаць моцай, сілкаваць энергіяй, паіць жыццём; *питать.*

**Пойтанне** — *питание.*

**Пойтанец** — *питомец.*

**Пойтальнік, пайтавальнік** — *питатель.*

**Пайтаваць** *подпитывать.*

**Пойтань** — *питомник.*

Я буду пойтаць і вас, і дзяцей вашых (Быц., 50:21).

А ў сёмы пакідай яе (зямлю) ў спакоі, каб пойталіся нябогі з твайго народа, а рэшткамі пасля іх пойталіся звяры палявыя (Зых., 23:11).

Ён будзе табе ўцехаю пайтавальнікам у старасці тваёй (Руф, 4:15).

Гэта будзе здароўем для цела твайго пойтаннем для касцей тваіх (Пр., 3:8).

Воды жывілі яго (дрэва), бездань уздымала яго, рэкі яе акалялі пойтань яго (Езяк., 31.4).

Усякі, пойтаны малаком, недасведчаны ў слове праўды, бо ён яшчэ немаўля (Яўр., 5:13).

**Вельмаваць** узвялічваць над усімі, аддаючы таму, хто вяльмуецца, у слугаванне сваю душу; *превозносить.*

**Вельмаванне** — *превозношение.*

**Вяльмоўны** — *превознесенный.*

**Вельмічаць** — *превозноситься.*

Спыніцеся і спазнайце, што Я Бог буду ўвельмаваны ў народах, увельмаваны на зямлі (Пс., 45:11).

Убачылі яе дзяўчаты, — увельмавалі яе, царыцы і наложніцы, — увасхвалілі яе (Песня Песн., 6:9).

Маладзён будзе нахабна вельмічаць над старым і мужык над вяльможам (Іс., 3:5).

Слаўлю, вяльмую ўзвялічваю Цара Нябеснага (Дан., 4:34).

І ўсялякае вельмаванне, што паўстае супраць спазнання Божага (2 Кар., 10:5).

**Вомшанне** ўбірае ў сябе рэчаіснасць, судакранаючыся з ёю; змяшчае яе ў сабе, распазнаючы навобмацак, што яна азначае; яно ў руху, яно на шляху, рэчаіснасць для яго заўсёды і перашкода, павадыр; *осязание.*

**Вомшаць** — *осязать.*

**Вомшавы, вомшаны** — *осязаемый.*

**Вомсны** *осязательный.*

Вомшаем, як сляпыя, і, як без вачэй, ходзім вобмацкам (Іс., 59:10).

Вы падступіліся не да гары, вомшанай ахопленай полымем (Яўр., 12:8).

Пра тое, што было адпачатку, што мы чулі, што бачылі сваімі вачамі, што разглядалі, што вомшалі рукі нашы ( 1 Іаан, 1:1).

**Вотханне** ўдыхае дух рэчаіснасці і распазнае яе па тым, як яна пахне, чым патыхае; *обоняние.*

**Вотхаць** — *обонять.*

**Вотхны, вотхавы** — *обоняемый.*

**Вотхасны** — *обонятельный.*

будзеце там слугаваць багам, зробленым рукамі чалавечымі з дрэва каменя, якія не бачаць не чуюць, і не ядуць і не вотхаюць (Другазак., 4:28).

Калі ўсё цела вока, то дзе слых? Калі ўсё слых, то дзе вотханне? (1 Кар., 12:17).

**Цяперац** той, на каго цяпер скіраваны позіркі, каму падпарадкоўваюцца, каго слухаюць, *властитель.*

**Цяпернічаць** — *властвовать.*

Чутка прыйдзе ў адзін год, і потым у другі год, і на зямлі будзе змушчаванне, цяперац паўстане на цяперца (Іяр., 51.46).

Бывае час, калі чалавек цяпернічае над чалавекам на шкоду яму (Екл., 8:9).

Ісус жа, паклікаўшы іх, сказаў: вы ведаеце, што князі народаў уладараць над імі цяпернічаюць вяльможы (Мацв., 20:25).

**Глеймаваць** — «клеймаваць» гліну камень, выяўляючы з іхніх глыбіняў адчутыя вобразы; *ваять.*

**Глеймаванне** — *ваяние.*

**Глеймавальнік** — *ваятель.*

**Глейм, гляймак** — *изваяние.*

**Гляймоўны** — *ваятельный.*

**Гляймоўня** — *ваятельная мастерская.*

Не рабіце сабе стодаў глеймаў, слупоў не стаўце ў сябе, і камянёў з выявамі не кладзіце ў зямлі вашай (Ляв., 26:1).

Каб вы не ўпалі ў распусту і не зрабілі сабе глеймакоў, выяў якога-небудзь стода ў выглядзе мужчыны альбо жанчыны (Другазак., 4:16).

Хай будуць сыны нашы як расада, няўрымслівыя ў маладосці сваёй; дочкі нашы — як адмыслова зглеймаваныя слупы ў харомах (Пс., 143:12).

**Дворма** — вонкавы бок рэчаў, змест якіх выявіўся займеў форму; *наружа.*

**Двормны, двормавы** — *наружный.*

**Дворміць, двармаваць** — *обнаруживать.*

**Надворма** — *наружу*

**Двормнасць, двормавасць** — *наружность.*

Няма нічога патайнага, што не зрабілася б яўным; нічога не бывае ўтоенага, што не выйшла б надворма (Марк, 4:22).

Не судзіце па двормавасці, а судзіце судом справядлівым (Іаан, 7:24).

Таму не судзіце ніяк раней часу, пакуль не прыйдзе Гоcпад, Які асветліць схаванае ў змроку і ўдворміць сардэчныя намеры (1 Кар., 4 5)

Але яны не шмат што паспеюць, бо іхняя неразумнасць удворміцца перад усімі (2 Цім., 3:9).

**Знічыць** — звесці на ніштo, давесці да нічога; калі з'яву, то — *«упразднить»*, калі чалавека, то — *«уничижить».*

**Знічэнне, знічаванне** — *упразднение, уничижение.*

**Знічаны** — *упраздненный, уничиженный.*

**Знічаваны** — *уничижаемый.*

**Знічлівы** — *уничижительный.*

Досыць насычана душа наша ганьбаваннем ад фанабэрлівых знічаваннем ад ганарлівых (Пс., 122:4).

Многа разоў Ён выбаўляў іх; яны ж раздражнялі Яго ўпартасцю сваёй, былі знічаваны за беззаконне сваё (Пс., 105:43).

З гэтага царства паўстануць дзесяць цароў, і пасля іх паўстане іншы, адметны ад ранейшых, знічуе трох цароў (Дан., 7:24).

І незнакамітае свету знічаванае нічога не вартаснае абраў Бог, каб знічыць вартаснае (1 Кар., 1:28).

А потым канец, калі Ён аддасць царства Богу Айцу, калі знічыць усякае начальства ўсякую ўладу, сілу (1 Кар., 15:24).

**Нячымец, нечымлівец** — той, хто сваімі ўчынкамі ганьбуе чалавечы чын; *нечестивец.*

**Нячымнічаць** — *нечествовать.*

**Нячыміць** — *бесчестить.*

**Нечымлівы** — *нечестивый.*

**Нячымнасць, нечымлівасць** — *нечестие.*

**Знячымнічаць** — *бесчинствовать.*

**Знячыміць** — *обесчестить.*

**Знячымства** — *бесчинство.*





Я яб'явіў яму, што Я пакараю дом яго на вякі за тую віну, што ён ведаў, як сыны яго нячымнічаюць, і не ўтаймоўваў іх (1 Цар., 3:13).

І я, куды пайду я з маім знячымствам? (2 Цар., 13:13).

Ці можна сказаць цару: «ты — нечымлівец», і князям: «вы беззаконнікі»? (Іоў, 34:18).

Праведнік ненавідзіць хлуслівае слова, а нечымлівы ганьбуе нячыміць сябе (Пр., 13:5).

Праўда захоўвае беззаганнага ў дарозе, а нечымлівасць губіць грэшніка (Пр., 13:6).

І немаўляты іхнія будуць пабіты перад вачамі іхнімі; дамы іхнія будуць разрабаваны жонкі іхнія знячымнічаны (Іс., 13:16).

(Любоў) не знячымнічае, не шукае свайго, не раздражнеецца, не думае злога (1 Кар., 13:5).

**Здарсць** афарбоўвае чалавечыя паводзіны ў колер здарэння і, як здарэнне, прыцягвае да сябе ўсеагульную ўвагу; *дерзость.*

**Здарснасць, здарсненне, здарснаванне** — *дерзновение.*

**Здарсны, здарслівы** *дерзкий, дерзостный, дерзновенный.*

**Здарсаць** — *дерзать.*

**Здарсайце!**— *дерзайте!*

Калі ж хто з тубыльцаў альбо з прыхадняў зробіць што здарсліваю рукою, то ён зневажае Госпада (Ліч., 15:30).

Калі прарок скажа імем Госпада, але слова тое не збудзецца не спраўдзіцца, то не Госпад гаварыў гэтае слова, але гаварыў гэтае прарок па здарсці сваёй (Другазак., 18:22).

У наступную ноч Госпад, з'явіўшыся яму, сказаў: здарсай, Павел; бо як ты сведчыў пра Мяне ў Ерусаліме, гэтак належыць сведчыць і ў Рыме (Дзеі, 23:11).

**Воржы** — варожыя чалавеку сутнасці, якія вядуць з ім нябачнае змаганне; *бесы.*

**Воржыць** — *бесить.*

**Воржаўскі, воржны** — *бесовский.*

**Воржышча** *бесовище.*

**Варжаваты** — *бесноватый.*

**Варжавацца** — *бесноваться.*

**Воржанне, варжаванне** — *беснование.*

Мінуў поўдзень, а яны ўсё яшчэ варжаваліся да самай пары вечаровага ахвяравання (3 Цар., 18:29).

Сказаў: Госпадзе! памілуй сына майго; ён у маладзік варжуецца і цяжка пакутуе (Мацв., 17:15).

Тыя, што бачылі, расказалі ім пра тое, як гэта адбылося з варжаватым, аб свіннях (Марк, 5:16).

Выходзілі гэтаксама і воржы з многіх з крыкам гаварылі: Ты Хрыстос, Сын Божы (Лука, 4:41).

А тыя, што бачылі, расказалі ім, як ацаліўся варжаваны (Лука, 8:36).

Дух жа выразліва кажа, што ў апошнія часы адступяцца некаторыя ад веры, уваждаючы духам звабным вучэнням воржным (1 Цім., 4:1).

**Здзейсце** — дзеянне, якое вымагае самаахвярных высілкаў дзякуючы якому здзяйсняецца вышэйшая мэта існавання; *подвиг*

**Здзейснік** — *подвижник, герой.*

**Здзейсны, здзейсніцкі** — *подвижнический, героический.*

**Здзейсавацца** *подвизаться.*

**Здзейсаванец** — *подвизающийся.*

На здзейсце душы Сваёй Ён будзе глядзець з задавальненнем (Іс., 53:11).

Спяшайцеся і сыходзьцеся, усе народы наўкольныя, збярыцеся; туды, Госпадзе, вядзі тваіх здзейснікаў (Іаіль, 3:11).

Усе здзейснікі ўстрымліваюцца ад усяго: тыя для атрымання вянка тленнага, а мы — нятленнага (1 Кар., 9:25).

Для чаго я руплюся і здзяйсуюся моцай Ягонай, што дзейнічае ўва мне магутліва (Калас., 1:29).

Вы яшчэ не да крыві змагаліся, здзяйсуючыся супраць грэху (Яўр., 12:4).

**Мысах** — «наўмысная», самасная развага, не ўзгодненая з голасам сэрца; *рассудок.*

**Мысахны** — *рассудочный.*

**Мысханне** — працэс выяўлення мысахных высноў; *«рассудочествование».*

**Мысхаць** — *«рассудочествовать».*

**Мысны, змысны** — *рассудительный.*

**Мысніць, мыснаваць** — *рассуждать.*

**Змысніць** — *рассудить.*

**Мыснаванне, змыснаванне** — *рассуждение.*

**Змыснасць** — *рассудительность.*

Бо яны народ, што страціў мысах, няма ў іх кнозы (Другазак., 32:28).

Выслухайце, мудрыя, мову маю, і прыхіліце да мяне вуха, змысныя! (Іоў, 34:2).

Усталюем паміж сабой мыснаванне, і распазнаем, што добра (Іоў, 34:4).

Тады змыснасць будзе сцерагчы цябе, розум будзе захоўваць цябе (Пр., 2:11).

«Я, прамудрасць, сяльбую з розумам, шукаю змыснае веды» (Пр., 8:12).

І сэрца лёгкадумных будзе ўмець мыснаваць; і коснаязыкія будуць гаварыць ясна (Іс., 32:4).

Бо мне здаецца, нязмысна пасцаль вязня не паказаць абвінавачванняў на яго (Дзеі, 25:27).

**Сельбаваць, сельбавацца** — жыць, пасяліўшыся ў пэўнай мясціне стаўшы прыкметай гэтай мясціны; *обитать.*

**Сельбаванне** — *обитание.*

**Сельбаваны** — *обитаемый.*

**Сяльбоўнік, сельбіт** — *обитатель.*

**Сяльбоўня, сяліба** — *обитель.*

**Сельбішча** — *обиталище.*

Сыны Ізраілевы елі манну сорак гадоў, пакуль не прыйшлі ў зямлю сельбаваную (Зых., 16:35).

Цябе адлучаць ад людзей, сельбаванне тваё будзе з палявымі звярамі (Дан., 4:22).

Папраўдзе, блізка да тых, што баяцца Яго, выратаванне Яго, каб сельбавала слава ў зямлі нашай! (Пс., 84:10)

Тады народ мой будзе жыць у сялібе міру, і ў селішчах бяспечных, ў жытлішчах лабожных (Іс., 32:18).

сказаў мне Госпад: з поўначы адчыніцца бедства на ўсіх сяльбоўнікаў гэтай зямлі (Іяр., 1:4).

**Тнеча** — марныя спробы, дарэмныя намаганні нешта здзейсніць, нечага дамагчыся, з імі штурхаецца чалавек па крузе жыцця і сам тнецца імі; *тщета.*

**Тнечны, тнечлівы** — *тщетный.*

**Тнечнасць** — *тщетность.*

**Тнечыцца** — марна старацца, *«тщиться».*

Надзея тнечлівая: ці не ўпадзеш ад аднаго позірку яго? (Іоў, 41:1).

Нашто бунтуюць народы, плямёны задумваюць тнечнае? (Пс., 2:1).

Але што для мяне было перавагаю, тое дзеля Хрыста я палічыў тнечай (Філ., 3:7).

Датуль будзе тнечыцца чалавек,

пакуль не расплюшчацца вочы розуму і ён не ўбачыць, дзе — скарб (Апокр.).

**Змождзі** — мукі, якія змагаюць чалавека і якія, аднак, ён можа прынясць і пераважыць, *страсти*.

**Змаждоўны** — *страстный*.

**Змаждавацца** — апанавацца **змождзямі**.

**Змаждаваны, змаждзелы** — апанаваны **змождзямі**.

**Змождзень** — *страстотерпец*.

**Змаждаванне** — стан пераважывання **змождзяў**; *«страствование»*.

Таму аддаў іх Бог ганебным змождзям (Рым., 1:26).

Бо калі мы жылі па самсці, тады змождзі грахоўныя, выяўляемыя законам, дзейнічалі ў ласцімцах нашых, каб прыносіць плод смерці (Рым., 7:5).

Ці чалавек змаждуецца, ці сяльбуе ў спакоі  няхай спадзяецца на Бога (Апокр.).

Змаждаванне — духоўная барацьба,  той, хто выходзіць з яе пераможцам, мае за ўзнагароду жыццё (Апокр.).

**Звомны** — той, чыё меркаванне і чыё прызванне не супадаюць са звыклымі,  хто, не маючы свайго дому, шукае яго ў свеце; *странный*.

**Звомнік** — *странник*.

**Звомнасць** — *странность*.

**Звомніцтва, звомнічанне** — *странничество, паломничество*.

**Звомнічаць** — быць **звомным**, знаходзіцца ў **звомніцтве**.

**Звома** — *странствие*, мэта якога — далучэнне да святыні.

Бо маёмасць іхняя была такая вялікая, што яны не маглі жыць разам, і зямля звомніцтва іхняга не ўмяшчала іх (Быц., 36:7).

 Я ўсталяваў запавет Мой з імі, каб даць ім зямлю Ханаанскую, зямлю звомніцтва іхняга, у якой яны звомнічалі (Зых., 6:4).

 прыйшоў да багатага чалавека звомнік,  той пашкадаваў узяць са сваіх авечак альбо валоў, каб згатаваць абед для звомніка (2 Цар., 12:4).

Звомнік я на зямлі; не хавай ад мяне запаведзяў Тваіх (Пс., 118:19).

Не ўбачыш больш народа лютага, народа з глухой, няўцямнай гаворкай, з моваю звомнай, незразумелай (Іс., 33:19).

Многія з вучняў Яго, чуючы тое, казалі: якія дзіўныя словы! хто можа гэта слухаць? (Іаан, 6:60).

**Ласцімец** — частка, якая мае ўласцівасць прыналежаць да цэласнасці, быць суадпаведнай ёй; *член*.

**Ласцімства** — *членство*.

**Ласцімны**  *членский*.

**Ласцімшчына**  тое, што прыналежыць **ласцімцу**; яго ўласнасць, вотчыма.

**Ласціміць, ласцімнічаць** — праяўляцца і дзейнічаць у якасці **ласцімца**.

**Ласцімы** — праявы паводзіны **ласцімца**.

Змуцілася ад гора вока маё, і ўсе ласцімцы мае, як цень (Іоў, 17:7).

Калі ж правае вока тваё спакушае цябе, вырві яго і кінь ад сябе; бо лепш для цябе, каб загінуў адзін з ласцімцаў тваіх, а не ўсё цела было ўрынута ў апраметную (Мацв., 5:29).

Хіба не ведаеце, што целы вашы ёсць ласцімцы Хрыстовы? Хіба адыму ласцімцы ў Хрыста, каб зрабіць іх ласцімцамі распусніцы? (1 Кар., 6:15).

Аб іхніх намерах гавораць іхнія словы,  сведчаць ласцімы іхнія аб тым, хто яны (Апокр.).

**Змуштаванне** — уздзейнічанне на чалавека, каб змусіць яго жыць так, як ён не хоча жыць, думаць так, як ён не хоча думаць, запрыгоньванне яго жыццёвай волі; *насилие*.

**Змуштоўна** — *насильственно*.

**Змуштоўнік** — *насильственник*.

**Змуштаваць** — *насильствовать*.

**Змушта** — акт **змуштавання**.

І ўбачыў яе Сіхем, сын Гамора Гівейца, князя зямлі той,  узяў яе, спаў з ёю,  прычыніў ёй змушту (Быц., 34:2).

Разладзь, Госпадзе, і падзялі мовы іхнія; бо я бачу змуштаванне звады ў горадзе (Пс., 54:10).

Не спаборнічай са змуштоўнікам не абірай ніводнага са шляхоў яго (Пр., 3:31).

Але твае вочы  тваё сэрца звернуты толькі да тваёй карысці  да праліцця нявіннай крыві, да таго, каб рабіць уціск  змуштаванне (Іяр., 22:17).

Яны не ўмеюць абыходзіцца справядліва, кажа Госпад: змуштаваннем  рабаўніцтвам збіраюць скарбы ў харомы свае (Ам., 3:10).

**Знеча** — акцыя, якая, каб пакараць чалавека за яго ўчынкі, нявечыць яго цела; *казнь*.

**Знечыць** — *казнить*.

**Знечыцца** — *казниться*.

**Знечнік** — падлеглы **знечы**; *казнимый*.

**Знечаны** — той, над кім здзейснілася **знеча**.

**Знеч** — той, хто застаўся жыць, але — знявечаны **знечай**.

І сказаў Госпад Майсею: яшчэ адну знечу Я навяду на фараона і на Егіпцян (Зых., 11:1).

І яна зрабілася ганьбай сярод жанчын, калі здзейснілі над ёю знечу (Езяк., 23:10).

А Ірад, пашукаўшы яго і не знайшоўшы, судзіў вартаўнікоў і загадаў іх знечыць (Дзеі, 12:19).

За гэта ў адзін дзень прыйдуць на яе знечы, смерць і плач і голад, і будзе спалена агнём (Утаяв., 18:8).

**Утаяванне** — адкрыццё схаванага, выяўленне патайнага, якое, аднак, не «рассакрэчваецца», а, застаючыся тоесным таямніцы, становіцца тоесным  штодзённай рэчаіснасці, становіцца прысутным; *откровение*.

**Таяўнасць** — *откровенность*.

**Таяванне** — *откровенниčанье*: сама з'ява **ўтаявання**.

**Таяўны** — *откровенный*.

**Таяўнічаць** — *откровенничать*.

**Таяваць** — рабіць тайнае яўным; *открывать*.

**Утаявацца** — зрабіцца з тайнага яўным; *открыться*.

**Таява** — змест **утаявання**, тоее, што праз яго адкрываецца.

**Утаяваны** — адкрыты праз **утаяванне**.

 пакладзі ў каўчэг утаяванне, якое Я дам табе (Зых., 25:16).

Праўда таяванняў Тваіх вечна: настаў мяне на розум,  буду жыць (Пс., 118:144).

Абрэжце сябе для Госпада, здыміце крайнюю самсць з сэрца вашага, мужы Іуды і жыхары Ерусаліма, каб гнеў мой не ўтаяваўся, як агонь (Іяр., 4:4).

Дык не бойцеся іх: бо няма нічога схаванага, што не ўтаявалася б, патайнага, што не было б уведана (Мацв., 10:26).

Калі ж яны слухалі гэта, распавёў прыпавесць. бо ён быў блізка ад Ерусаліма,  яны думалі, што хутка павінна ўтаявацца Царства Божае (Лука, 19:11).

Але, з-за ўпартасці тваёй  нераскаяннага сэрца, ты сам сабе збіраеш гнеў на дзень гневу  ўтаявання праведнага суда ад Бога (Рым., 2:5).



# Гай ПІКАРДА

НАШ




*Гай Пікарда на Скарынінаўскіх урачыстасцях у Полацку. 1990 г.*

# ЯН З ЛІТВЫ

(Першы беларускі друкар у Лёндане)

## *Пра Гая ПІКАРДУ (Г. ПІХУРУ)*

## Аляксандар РЫПІНСКІ ў Лёндане

(1849 - 1859)

# ЯН З ЛІТВЫ

## (Першы беларускі друкар у Лёндане)

Францішку Скарыне належыцца без сумніву гонар быць першым беларускім друкаром І зусім слушна, бо слаўны доктар з Полацку ня толькі надрукаваў у 1517 г у Празе чэскай першую кнігу пабеларуску (Псалтыр), але таксама залажыў першую друкарню на беларускай зямлі ў Вільні ў 1525 г Ягоныя кнігі ня былі, аднак, першымі друкаванымі кнігамі ведамымі на Беларусі Ужо ад 1492 г існавала ў Кракаве друкарня пад кіраўніцтвам майстра Сьвятаполка Фіёла З гэтай друкарні вышла некалькі славянскіх літургічных кнігаў якія былі ведамымі на Беларусі перад паяўленьнем твораў Скарыны[1]

Цераз імглу гісторыі да нас дайшло імя яшчэ аднаго чалавека, які можа мець права да тытулу першага беларускага друкара, хоць уся ягоная ведамая друкарская дзейнасьць прайшла заграніцаю. Ангельскія гісторыкі і бібліёграфы кажуць, што ў канцы XV-га стаг жыў у Лёндане нейкі друкар, які называўся Jon Lettou г зн Ян з Літвы або Ян Ліцьвін Ягонае паходжаньне было прадметам дагадак. Усе згаджаюцца, што ён быў чужынцам і некаторыя старэйшыя гісторыкі ўважалі яго за немца[2] Аднак большасьць аўтарытэтаў згаджаецца што Ян быў «літоўскага» (г зн беларускага) паходжаньня[3] Назовы Lettou або Lettow у сярэднявяковай ангельскай мове ўжываліся дзеля азначэньня Вялікага Княства Літоўскага[4] У тым часе было таксама звычайным зьявішчам сярод чужынцаў дадаваць да свайго імяні назоў гораду ці краіны, адкуль яны паходзілі Так, напрыклад, другі лёнданскі друкар, які праз некі час быў супольнікам Яна з Літвы, называўся William Machlinia (Вільям Мэхлінскі) і паходзіў з фламандзкага гораду Мэхелен Іншы друкар, з якім Ян мог мець лучнасьць у Італіі, называўся Matheus Moravus (Мацей Мараўскі) і паходзіў з Аломуца ў Маравіі[5] У кнігах, якія вышлі з друкарні Яна з Літвы, слова lettou пісалася з малой літары Гэта магло-б сьведчыць што гэтае слова ўжывалася не як прозьвішча, але дзеля азначэньня паходжаньня друкара[6]

Нам няведама, дзе і калі нарадзіўся Ян з Літвы ані калі ён пакінуў Вялікае Княства Літоўскае. Некаторыя гісторыкі думаюць, што ён быў вучнем Мацея Мараўскага бо літары ягоных выданьняў маюць пэўнае падабенства да літараў гэтага апошняга[7] Мацей Мараўскі паявіўся ў Генуі ў 1474 г., але ўжо ў наступным годзе пераехаў у Нэапаль, дзе ён дзейнічаў аж да 1492 г.[8] Калі Мацей быў сапраўды настаўнікам Яна, дык магчыма, што ягоны вучань — які меў добрую асьвету і ведаў лацінскую і францускую мовы,— быў студэнтам на Праскім унівэрсытэце ў літоўскай калегіі заложанай каралевай Ядвігай, жонкай Ягайлы. Адтуль ён мог паехаць разам з Мацеям у Італію, або далучыцца да яго там пазьней. Навучыўшыся ад яго пачаткаў друкарства, ён мог выехаць у Англію, дзе былі лепшыя магчымасьці працы для маладога і параўнаўча недасьведчанага друкара Гэтая тэорыя ёсьць вельмі праўдападобная

але мае сваю слабую старану ў тым што раньні шрыфт Яна з Літвы ёсьць вельмі падобны — каб не сказаць аднолькавы — да шрыфту пэўнага John Bulle, які займаўся друкарствам у Рыме у 1475-79 г [9] Ня гледзячы на сваё прозьвішча гэты друкар паходзіў ня з Англіі а з Брэману ў паўночнай Нямеччыне. Магчыма, што Ян, прыехаўшы ў Італію, працаваў некі час у друкарні Буля ў Рыме Другая магчымасьць ёсьць тая што Ян спаткаўся і працаваў з Булям яшчэ ў Нямеччыне. Брэман быў адным з гарадоў Ганзы і меў гандлёвыя зносіны з Данцыгам, Кэнігсбэргам і з гарадамі гоцкага ўзьбярэжжа Ганза мела таксама свае прадстаўніцтва у Лёндане, якое было звычайным месцам затрымкі для падарожнікаў з усходняй Прыбалтыкі Гэта ў пэўным сэнсе робіць нам зразумелым чаму некаторыя гісторыкі ўважалі Яна за немца.

Першы раз мы спатыкаем Яна з Літвы ў Лёндане ў 1480 г дзе яму належыцца гонар быць першым друкаром які пасяліўся ў лёнданскім City Ангельскі першадрукар Какстон які адчыніў друкарню тры гады раней, жыў у Уэстмінстэры Ёсьць даныя думаць што Какстон сам заахвочваў Яна і іншых замежных друкароў пасял цца ў Лёндане Няведама ці Ян адчыніў адразу сваё прадпрыемства, ці праз некаторы час працаваў у якой існуючай ужо друкарні Скромная якасьць ягоных першых выданьняў і факт што мы ня ведаем аб ніякіх кнігах, выданых ім перад прыездам у Лёндан прымушаюць думаць, што ў Лёндане Ян стаўляў свае першыя крокі ў друкарскім мастацтве

У першым часе сваёй дзейнасьці ў Лёндане Ян надрукаваў некалькі выданьняў Індульгенцыі Папы Сыкста IV-га супроць Туркаў, выданых Дж. Кэндалям Крыху пазьней ён надрукаваў на кошт Вільяма Вількока выданьне Тамаша Пэнкета кнігі Антонія Андрэя «Questiones super XII I bros metaphysicae» У 1481 г зноў на кошт тога самага Вількока ён надрукаваў кнігу Тамаша Валензіса «Камэнтар да Псальмаў»

Паводле Тэмпэрлі гатыцкі шрыфт, ужываны ў гэтых выданьнях, быў «грубы і паломаны»[10] Іншыя аўтары кажуць, што ягоны шрыфт быў акуратны[11] хоць ён безумоўна не заслугоўваў на цераэмерныя пахвалы якімі абсыпалі яго некаторыя аўтары[12]

Дакладнае месцазнаходжаньне друкарні Яна з Літвы ў гэтым першым пярыядзе ягонай дзейнасьці нажаль, ня ёсьць ведамым.

У 1481 г Ян увайшоў у суполку з другім замежным друкаром, Вільямам Мэхлінскім Тэмпэрлі думае што Ян найперш быў працаўніком у друкарн Вільяма а пасьля маладшым супольнікам[13] Гэта было-б звычайным зьявішчам у выпадку маладога і недасьведчанага друкара Факты аднак змушаюць думаць, што наадварот ня Ян, але Вільям быў малодшым супольнікам Перадусім мы ня ведаем ніводнай кнігі, надрукаванай Вільямам Мэхлінскім перад тым, як ён уступіў у суполку з Янам з Літвы Па-другое, калі-б было так, як думае Тэмпэрлі, дык выдаецца няверагодным, каб быўшы працадаўца дазволіў, каб імя ягонага малодшага супольніка было надрукаванае першым на кнігах, выданых супольна

Ян з Літвы і Вільям Мэхлінскі купілі лепшы шрыфт[14] і адчынілі сваю друкарню ў City, «недалёка ад царквы ўсіх сьвятых» (All Hallows). Цэркваў з такім назовам было ў Лёндане аж восем Паколькі, аднак, нашыя друкары спэцыялізаваліся ў выдаваньні праўных кнігаў[15] дык іхняя друкарня павінна была быць недалёка ад Inns of Court, г зн дзяльніцы гораду дзе жылі і працавалі праўнікі Таму яна найбольш праўдападобна. знаходзілася недалёка г зв Вялікай Царквы Усіх Сьвятых (All Hallows the Great) каля Тамізы Характэрна што гэтую царкву наведвалі купцы Ганзы чыё прадстаўніцтва ў Лёндане — г зн Steel yard або Stahlhof — знаходзілася побач

# Пра Гая ПІКАРДУ (Г. ПІХУРУ)

**Калі пагадзіцца з тым, што ў лёсе не бывае выпадковасцяў, дык юны лейтэнант кавалерыі Франсуа Абрагам Разье, што служыў у маршала Даву, зусім не выпадкова начаваў адной ночы ўвосень 1812 года каля вогнішча, раскладзенага недзе на беларускіх абшарах Смаленшчыны. Трэба прызнаць невыпадковым і тое, што ўначы прыцісну мароз і месье Разье адмарозіў сабе вуха, з якім давялося неадкладна развітацца, але не назусім, бо ашчадны лейтэнант высушыў яго і ўсё жыццё вазіў з сабою ў табакерцы, каб праз сто з лішнім гадоў гэтая фамільная рэліквія трапілася на вока ягонаму праўнуку Гаю, народжанаму ў 1931-м у некалі варожым Напалеону Лондане.**

**Ад сябра міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, выхаванца юрыдычных факультэтаў Сарбоны і Оксфарда, брытанскага падданага Гая Пікарды вы можаце пачуць, што якраз з сухога вуха і пачалася ягоная цікавасць да краіны, па дарогах якой некалі гарцаваў на кані ягоны зухаваты продак. Асабіста я выслухаў гэтую гісторыю, сустрэўшыся з містэрам Пікардам у Полацку на святкаванні 500-годдзя Францішка Скарыны. Другая наша сустрэча адбылася ў бібліятэцы імя першадрукара на Holden Road у сталіцы Злучанага Каралеўства, дзе гэты чалавек, шчодра надзелены не толькі красамоўствам, але і талентам даследчыка, жыве пры Беларускай каталіцкай місіі, прысвячаючы свой час навуковым штудыям і сяброўскім гутаркам з удзячнымі слухачамі.**

**Сваім найбольш значным даробкам у беларусістыцы Гай Пікарда ўважае выдадзеныя ў Лондане зборнікі «Беларускі духоўны спеўнік» і «Беларускі царкоўны спеўнік». Ягоныя публікацыі па праблемах беларускай гісторыі і культуры няраз з'яўляліся ў часопісах «Запісы Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва» (Нью-Ёрк), «The journal of Byelorussian Studies» (Лондан), «Божым Шляхам» (Парыж—Лондан), адкуль і ўзятыя прапанаваныя чытачам «Крыніцы» тэксты (падпісаныя псеўданімам Г.Піхура), якіх, вядома, не было б, каб напалеонаўскі лейтэнант Франсуа Разье ўладкаваўся бліжэй да вогнішча.**

**Уладзімір АРЛОЎ**

Найбольшым асягненьнем супольнікаў было надрукаваньне клясычнага твору ангельскай праўнай літаратуры — Tenores Novelli аўтарам якой быў Sir Thomas Littleton Літлетон (прыб 1407-1481) быў сябрам Inner Temple (адно з чатырох таварыстваў лёндансkіх праўнікаў). Ён быў судзьдзёю і адным з найбольшых аўтарытэтаў у галіне ангельскага земскага права Паколькі ягоная кніга была першым падручнікам у гэтай галіне, дык выхад яе ў сьвет быў важным выдарэньнем ня толькі ў гісторыі друкарства, але таксама ў гісторыі права. Хоць кніга ня мае загаловачнай бачыны адпак прыпушчаецца, што яна была выданая ў другой палове 1481 г Тэмпэрлі думае, што Літлетон сам назіраў над яе выданьнем коратка перад сваёй сьмерцю[16] Шрыфт у гэтай кнізе быў лепшым чым у ранейшых выданьнях Яна з Літвы, аднак ён яшчэ быў далёка не дасканалы Літары былі «грубыя гатыцкія», «барбарскія і паламаныя», а тэкст быў перапоўнены скаротамі[17]

Ян з Літвы і Вільям Мэхлінскі надрукавалі яшчэ некалькі кнігаў у большасьці праўных, супольна, але ўжо ў 1483 г на загаловачных бачынах красуецца толькі імя Вільяма, а ягоная друкарня знаходзіцца цяпер у Гольборн каля мосту Фліт Такім чынам дзейнасьць Яна з Літвы ў Лёндане трывала крыху больш, чым тры гады Што сталася з ім пасьля — няведама. Паводле, аднак, адной тэорыі, вельмі прывабнай, хоць без дастатковых даных, Ян стаўшыся майстрам друкарства, выехаў з Англіі ў Кракаў[18] Там ён памагаў Фіёлу залажыць друкарню і надрукаваць паславянску «Трыядзь» і «Актойх» Ёсьць пэўныя меркаваньні, якія можна прывесьці ў абарону гэтай тэорыі Вялікі князь Казімер, які панаваў у Кракаве як польскі кароль, быў вялікім прыхільнікам і патронам «літоўскага» мастацтва. Ян з Літвы павінен быў быць досыць маладым, калі ён прыехаў у Лёндан, калі мы будзем уважаць досыць нізкую якасьць ягоных першых твораў, як вынік браку дасьведчаньня Пазьней ён робіць значны поступ наперад. Моўныя цяжкасьці, аднак, напэўна перашкаджалі яму ў разьвіцьці ягонай дзейнасьці асабліва, калі попыт на кнігі ў жывой ангельскай мове рос з дня надзень з вялікай шкодаю для лацінскіх выданьняў Удасканаліўшы сваё майстэрства што магло быць больш натуральным для яго, як вярнуцца да свайго князя каб пад ягонай дабразычлівай апекаю падзяляць разам з Фіёлам практычную манаполію на друк славянскіх кнігаў?

Як-бы там ня было, але для беларусаў, якія сяньня жывуць у Англіі ёсьць прыемна думаць, што пяцьсот год таму іхні зямляк хадзіў па вуліцах Лёндану і нават пакінуў значны сьлед свайго побыту ў гэтым горадзе.

*«Божым шляхам». Лондан, 1965. Травень–чэрвень*

---

[1] Мітр. Іларыён, «Перводруковании Львівскиі Апостол». Наук. Збірнік Укр. Вільн. Акад. Наук у С.С.А., Нью Ёрк, 1953, бач. 19–20.
[2] C. Timperly, «A Dictionary of Printers and Printing», London, 1839, b. 173–174.
[3] «British Museum Catalogue of Printed Books in the XVth Century», Part IV, London, 1916, p. XIV· F Harrison. «A Book about books», London, 1943, p. 116.
[4] Cf. Geo Chaucer, «The Canterbury Tales» — The Prologue, lines 43–46 & 52–54.
«A Knight ther was, and that a worthy man,
That fro the tyme that he first began
To riden out, he loved chivalrie,
Trouthe and honour, fredom and courteisie...
Full ofte tyme he hadde the bord bigonne
Above alle naciouns in Pruce;
In Lettow had he reised and in Ruce,
No Cristen man so ofte of his degree».
[5] Cf. «British Museum Catalogue of Books printed in the XVth centure». Part VI, London, 1930, pp. XLII–XLIII.
[6] Cf. «Tenores Novelli» of Sir Thomas Littleton, London, 1481
[7] Cf. «The Dictionary of National Biography». Ed. 1909, Vol. XI, p. 1012.
[8] Cf. «Brit. Mus. Cat.», Pt. VI, loc. cit.
[9] Cf. «Brit. Mus. Cat.», Pt. IV, p. XIV
[10] Cf. Timperly, Op. cit., p. 167
[11] Cf. R. Peddie, «Printing: a short history of the art», London, 1927, p. 178.
[12] Cf. R. Ostrowski, «Fragments from the History of Byelorussia», London, 1961, p. 83–84.
[13] Timperly, loc. cit.
[14] «Dict. Nat. Biography», loc. cit.
[15] Ян з Літвы і Вільям Мэхлінскі надрукавалі разам пяць праўных кнігаў Пасьля адыходу Яна, Вільям выдаў другое выданьне кнігі Літлетона (гл. тэкст).
[16] Timperly, op. cit., p. 174.
[17] Timperly, op. cit., p. 167
[18] R. Ostrowski, op. cit., p. 84.





# Аляксандар РЫПІНСКІ ў Лёндане

## (1849 - 1859)

Ня можна сказаць, каб Аляксандар Рыпінскі быў вялікім паэтам Для многіх ён ня быў нават добрым беларусам. Як бы там ня было, аднак займае пэўнае месца ў гісторыі беларускай літаратуры 19-га стаг. і ўжо дзеля гэтага заслужыў на нашую ўвагу

Аляксандар Радван-Рыпінскі нарадзіўся ў Беласелцы на Віцебшчыне[1] Паходзіў з старой беларускай шляхоцкай сям'і[2] Асьвету атрымаў у Віцебску ў школе дзе панаваў моцны польскі дух. Яшчэ будучы вучнем, у 1827 ён пачаў пісаць вершы папольску

Ягонае дасканалае веданьне беларускай мовы і зацікаўленьне жыцьцём і культурай беларускага сялянства паказваюць на тое, што аставаўся ў цеснай сувязі з сваім народам

Падзеі 1830 г захапілі Рыпінскага маладым чалавекам. Ён шчыра аддаўся «польскай» справе змаганьня супроць Масквы і служыў у паўстанчай арміі ў чыне паручніка. Пасьля разгрому паўстаньня Рыпінскі ўцёк заграніцу і пасяліўся на нейкі час у Парыжы, які тады быў сапраўднай другой бацькаўшчынай усіх славянаў Мала ведама аб ягоным жыцьці ў гэтым горадзе, хіба толькі тое, што ў 1839 г. прачытаў там рад лекцыяў у польскім выгнанчым літаратурным гуртку аб Беларусі, ейнай культуры, а ў асаблівасьці аб ейнай паэзіі і музыцы Гэтыя лекцыі былі выданыя папольску ў 1840 г пад загалоўкам «Бялорусь»[3]

У 1848 г у Францыі выбухла паўстаньне, якое прывяло да стварэньня Другой Рэспублікі і да зьмены ўрадавай палітыкі ў адносінах да выгнанцаў Многія з гэтых апошніх павінны былі шукаць новага месца жыхарства. Вялікая Брытанія дала гасьціну для 500 польскіх уцекачоў адразу пасьля паўстаньня 1830 г , дык цяпер вочы эмігрантаў з Парыжа зьвярнуліся ў бок гэтай краіны Сярод іх быў і Аляксандар Рыпінскі Дакладныя абставіны ягонага прыезду ў Англію няведамыя, але ўжо ў 1849 г мы бачым яго ў Тотэнгам, які быў тады маленькім гарадком на паўночнай ускраіне Лёндану, а цяпер зьяўляецца прадмесьцем гэтага гораду Прыемнае паложаньне і блізкасьць да сталіцы былі, магчыма прычынаю таго, што ў палове 19-га стаг у Тотэнгам было вельмі шмат школаў Дзеля гэтага там было вялікае запатрабаваньне на настаўнікаў, асабліва дзеля навучаньня замежных моваў Гэтую патрэбу маглі задаволіць эмігранты, многія з якіх мелі добрую асьвету і ўладалі некалькімі мовамі Дык ня дзіва, што ў гэтым часе мы знаходзім у Тотэнгам калёнію польскіх настаўнікаў, між якімі былі і беларусы Сярод настаўнікаў быў таксама сьвятар С.Бжэзінскі ў «установе Mr Hill у Bruce Castle, Tottenham»[4] Польскія і беларускія эмігранты атрымалі дазвол карыстацца з капліцы пры Бэльгійскай амбасадзе ў Лёндане, якая тады знаходзілася на London Road пры St. Georges Fields на паўднёвым беразе Тамізы Айцец Бжэзінскі, які быў капэлянам польскай калёніі ў Лёндане, адправіў там першую Службу Божую на Сёмуху 1843 г [5] Няма сумліву што Рыпінскі там часта бываў у часе свайго жыцьця ў Лёндане.

Пасяліўшыся ў Тотэнгам, Рыпінскі знайшоў там працу у Eagle House School недалёка ад West Green. Гэтая школа была заложаная ў 1841 г і мела вельмі шмат чужынцаў сярод сваіх вучняў Вось што кажа аб ей гісторык Тотэнгаму, Фрэдэрык Фіск. «Большасьць вучняў у інтарнаце былі сынамі чужынцаў з добрых сем яў, многія з іх прыходзілі, ня ведаючы ніводнага слова паангельску»[6] Закладчык і кіраўнік школы Andrew Price наняў Рыпінскага як выкладчыка францускай мовы — якую гэты апошні ведаў вельмі добра, дзякуючы свайму жыцьцю ў Парыжы,— і рысаваньня[7]

У 1851 г Рыпінскі жыў у маленькім доміку на 3 Chances Row разам з сваім прыяцелем Станіславам Руткоўскім, таксама выгнанцам. Ён тады рэкамэндаваўся, як «паручнік польскай арміі, цяпер мастак-маляр, настаўнік францускай і нямецкай моваў і рысаваньня»[8]

Жывучы ў Тотэнгам, Рыпінскі пазнаёміўся з Юліюшам Пшыемскім выгнанцам, як і ён, і настаўнікам ў Гров Гауз Скул Пшыемскі быў таксама крыху паэтам, і Рыпінскі прыводзіць некаторыя ягоныя вершы ў прадмове да аднэй з сваіх паэмаў папольску

У 1855 г знайходзім зацемку аб падатках, якія Рыпінскі павінен быў плаціць за дом і гарод на 5 Grove Place што знайходзіўся толькі пару крокаў ад школы Відаць, гэты дом быў ягонай собскасьцю. Гадавая рэнтавая вартасьць будынку была 20 фунтаў, што было нармаль-

най вартасьцю добрага дому на прадмесьці Лёндану ў тым часе[9] У сваім доме Рыпінскі заладжыў невялікую друкарню, дзе выдаваў ня толькі свае творы, але таксама надрукаваў прынамсі адзін нумар гадавой справаздачы з дзейнасьці Лёнданскага Таварыства Прыяцеляў Польшчы (1857 г.).

Літаратурная спадчына Рыпінскага ня ёсьць вялікай. Мы ўжо коратка ўспомнілі аб ягоных Парыскіх лекцыях. У Лёндане вышлі ў 1853 г тры выданьні ягонай беларускай жартаўлівай паэмы «Нячысьцік» Паводле прызнаньняў самога аўтара ён улажыў гэты твор на Рычмандзкім узгорку рамантычнай мясцовасьці каля Лёндану У трэцяе выданьне Рыпінскі ўвёў сыстэму націскаў дзеля аблягчэньня правільнай вымовы пабеларуску У паэме гаворыцца аб бедным селяніне Мікіце, які ў Вялікі Пост забіў сьвіньню і нарабіў каўбасаў Ён паслаў жонку па гарэлку, а сам таксама адлучыўся некуды на хвілінку У часе іхняй адсутнасьці прыйшоў чорт і ўкраў сьвіньню і каўбасы Жонка прыйшоўшы і ўбачыўшы што сталася, нападае на мужыка і жадае яму сьмерці Яе жаданьне зараз-жа спаўняецца М кіта падае мёртвым а агонь нішчыць усю хату Мараль паэмы (калі наагул тут ёсьць якая мараль): ніколі ня есьці каўбасаў у Вялікі Пост

Мастацкая вартасьць паэмы, якую аўтар называе «беларускай бальлядай», ня ёсьць вялікая Ейны зьмест ёсьць няцікавы і верш слабы Трэба, аднак, зазначыць, што мова твору добрая і досыць чыстая, а зьмест поўны сымпатыі да сялянства ў духу патэрналізму які быў тады характэрным для некаторых колаў беларускай шляхты Паводля Карскага «Нячысьцік» — гэта спроба, ня вельмі ўдачная аддаць дух народных забабонаў[10]

Хоць Рыпінскі пісаў таксама і папольску, але гэтыя ягоныя творы ня маюць вялікай цікавасьці Галоўнай ягонай заслугай было тое, што стараўся культываваць беларускую мову на чужыне, а таксама зьбіраў і распаўсюджваў весткі аб розных відах беларускай народнай творчасьці Ды і самі палякі ўважалі Рыпінскага за беларускага паэту[11]

Літаратура ня была адзінай галінай мастацкай дзейнасьці, якой займаўся Рыпінскі Ён быў таксама энтузіястам фатаграфіі (якая была тады толькі ў сваіх пачатках) і нядрэнным мастаком-маляром Абодвы гэтыя зацікаўленьні ня былі бескарыснымі У 1867 г , магчыма дзеля падмацаваньня сваёй ня вельмі вялікай настаўніцкай платы, ён рэклямуе сябе як прафэсіянальны фатограф[12]. Няведама нічога, што-б магло даць нам паняцьце аб дзейнасьці Рыпінскага ў гэтай галіне, хаця вельмі магчыма, што некаторыя ілюстрацыі да збору ягоных паэзіяў былі зробленыя ў ягонай студыі Мы больш знаем аб мастацкіх здольнасьцях Рыпінскага ў галіне рысаваньня бо да гэтага часу захаваліся гравюры з двух ягоных рысункаў, якія прадстаўляюць выгляд «акадэміі» Eagle House, дзе ён быў настаўнікам

Пасьля 1858 г мы не знайходзім больш вестак аб Рыпінскім у Лёндане Праўдападобна ён вярнуўся ў гэтым часе на бацькаўшчыну, дзе памёр ў 1860 г. Школа Eagle House дзе ён быў настаўнікам, ужо даўно разбурана, і на ейным месцы высіцца цяпер будынак Тотэнгамскага тэхнічнага каледжу Дом Рыпінскага 5 Grove Place стаіць яшчэ, і яго можна бачыць з боку вуліцы High Street. У Тотэнгамскім музэю у Bruce Castle, у парку якога Рыпінскі напэўна часта гуляў, мы знаходзім яшчэ некалькі ўспамінаў аб ім дзьве вышэйуспомненыя гравюры з ягоных абразоў, а таксама пасьведчаньне, упрыгожанае партрэтам каралевы Вікторыі, выданае Рыпінскім аднаму з вучняў

Рыпінскі быў вельмі строга асуджаны гісторыкамі беларускай л таратуры за палянафільства, «рэакцыйнасьць» і «недэмакратычнасьць» Некаторыя нават сьцьвярджалі што ён чыста выпадкова называўся беларускім паэтам[13] Асабліва яму закідаецца, што ён называў беларускую мову дыялектам а Беларусь — правінцыяй Польшчы. Было-б аднак няправільным закідаць Рыпінскаму палянафільства на гэтай аснове. З ягоных твораў, асабліва ў польскай мове, відаць, што Рыпінскі ўжываў назову «Польшча» не ў этнічным сэнсе але ў сэнсе «рэчпаспалітай» У вельмі падобны спосаб сяньня Вялікая Брытанія зьяўляецца «рэчпаспалітай» ангельскага, шкоцкага і валійскага народаў Адносна-ж слова «дыялект» дык у прошлым ён вельмі часта ўжываўся як сынонім слова «мова» (напр. славянскі дыялект). Сам Рыпінскі ў адным месцы гаворыць аб «рускім і польскім простых дыялектах» Ён, аднак, без сумніву лічыў літоўцаў, украінцаў і беларусаў за асобныя народы, злучаныя з палякамі ў аднэй рэчпаспалітай супольным змаганьнем супроць маскоўскага акупанта

Калі ідзе аб ягоную «рэакцыйнасьць» дык варта памятаць словы паэты ў прадмове да ангельскага выданьня аднаго ягонага твору·

«Перакананьне, якое паступова распаўсюдзілася і апошнім часам запусьціла карані сярод цывілізаваных народаў, што толькі нацыянальныя багацьці ёсьць годныя працы і часу сучаснага пісьменьніка і што толькі там ён павінен шукаць натхненьня і ідэяў, змусіла мяне напісаць гэты твор. Гэтай думкай я кіраваўся ў маёй цяперашняй і прошлай творчасьці і я чэрпаў мае ідэі з поля нашага простага люду так багата засеянага паэтычнымі і нацыянальнымі кветкамі Так як у палітыцы сяньня народныя масы ўважаюцца адзінай праўдзівай і моцнай асновай урадаў і мерай існаваньня незалежных нацыяў, таксама і ў літаратуры нацыянальнымі могуць сяньня ўважацца толькі тыя творы, якія былі ўзятыя з жыцьця гэтых масаў з глыбіні іхніх сэрцаў Маючы гэта на ўвеце у маёй паэзі не знойдзецца ніводнага месца дзе-б я ня выкарыстаў якой жывой пагаворкі, ці не запазычыў некай думкі з вуснаў нашага пачцівага сялянства, якое жыве на нашай польскай зямлі і гаворыць рознымі дыялектамі Толькі такую паэзію лічу нацыянальнай Усякая іншая паэзія ня дойдзе да сэрца народу»[14]

Ды нават памінаючы ўсё вышэй сказанае, было-б несправядліва судзіць Рыпінскага і іншых сучасных яму «палянафілаў» паводле нормаў нашага часу Нават сяньня ёсьць сярод беларусаў нямала адукаваных адзінак, якія праяўляюць палянафільскія ці маскваафільскія нахілы У часе, калі жыў Рыпінскі, беларускае нацыянальнае адраджэньне было толькі ў сваіх пачатках і брутальная палітыка русыфікацыі, якую праводзіў маскоўскі царскі урад на Беларусі, была ў поўным разгоне. Дзеля гэтага мы не павінны дзівіцца з тых прадстаўнікоў беларускай шляхты, якія ў тым часе глядзелі на Польшчу як на натуральнага саюзьніка ў змаганьні супроць Масквы Ня гледзячы на ўсе свае недахопы Рыпінскі быў далёка больш дадатнай фігурай з беларускага пункту гледжаньня чым, скажам, Сымон Полацкі ці Адам Міцкевіч ён прынамся ня цураўся сваёй роднай мовы На чалавека, які быў толькі прыпадковым беларусам, Рыпінскі выказаў зьдзіўляючае знаёмства і сталае зацікаўленьне культурай і мовай беларускага народу Ён ня меў, здаецца, ніякіх ілюзіяў адносна сваіх паэтычных здольнасьцяў, аднак у апошнім ведамым нам ягоным вершыку адчуваецца іскра нацыянальнай гордасьці

*Ты-ж сам, суседзька, хацеў,*
*Што-б і я табе запеў;*
*Ну, я табе і пяю,—*
*Прымі песенку маю.*
*Можа гэта ня песьнь? каша?*
*Ды ўсёжтакі свая, наша!*[15]

Да дадатнай стараны ягонай дзейнасьці трэба безумоўна залічыць тое, што Рыпінскі жывучы ў Парыжы і Лёндане, першы пачаў распаўсюджваць на Захадзе весткі аб Беларусі яе мове і культуры Хоць гэтая праца ў сваім часе не дала вялікіх вынікаў, тым ня менш яна мае сваё значэньне Для беларусаў, якія сяньня жывуць на выгнаньні асоба і дзейнасьць Рыпінскага прадстаўляюць немалую цікавасьць і таму яны павінны аднесьціся да яго з разуменьнем і сымпатыяй на якія ён заслужыў

**Г. ПІХУРА**

***«Божым шляхам». Лондан, 1964. Жнівень–верасень***

[1] Krosnowski: «Almanach Historique», Paris 1847, bač. 337

[2] Рыпінскія, або Рпінскія, былі старажытным шляхоцкім родам з Віцебшчыны; адзін з продкаў Аляксандра. Багдан Рыпінскі, быў праваслаўным архіяпіскапам Полацкім, Віцебскім і Мсьціслаўскім у 1570 г

[3] Białoruś — «Kilka słów o poezyi prostego ludu tej naszej Polskiej prowincyi, jego muzyce, śpiewie, tańcach etc., przez Alexandra Rypinskiego, członka Akademii Przemysłu, rolnictwa, rękodziel i handlu Francuskiego», Paris, 1840.

[4] Annual General Report of the Friends of Poland, London, 1842, bač. 23.

[5] Annual General Report..., London, 1843, bač. 25.

[6] Fred Fisk: «A History of Tottenham», II Series, London, 18..., bač. 171

[7] Annual General Report..., London, 1850, bač. 7; AGR 1857, bač. 19 & 22.

[8] Гл. The Census List for Tottenham 1853, што знаходзіцца ў London Record Office.

[9] Гл. Rate Book for Tottenham 1855, што знаходзіцца ў Bruce Castle Museum, Tottenham.

[10] E. Karski: «Geschichte der Weissrussischen Volksdichtung und Literatur», Berlin—Leipzig, 1926, bač. 125—126.

[11] S. Orgelbrand: «Encyklopedia Powszechna», T XIII, Warszawa 1902, bač. 191

[12] ARG 1857 in fine.

[13] С. Майхровіч: «Нарысы Беларускай Літаратуры XIX стагоддзя», Менск, 1957, бач. 67· М. Гарэцкі: «Гісторыя Беларускай Літаратуры», Вільня, 1921, бач. 69.

[14] Гл. заўвагі і выясьненьні аўтара (паангельску) ў: «The Sergeant Philosopher a Legend», translated by H. Daniels, London 1856, бач. 43—44. Арыгінал паэмы (папольску) быў выданы аўтарам ў Лёндане ў 1853 г.

[15] Гэты вершык Рыпінскі напісаў у альбом А. Дарэўскаму-Вярызе у 1860 г Гл. М. Гарэцкі: «Хрэстаматыя Беларускай Літаратуры», Вільня, бач. 102.

**КРЫНІЦА № 9**

**1994**

ШТОМЕСЯЧНЫ КУЛЬТУРАЛАГІЧНЫ ЧАСОПІС

ВЫДАЕЦЦА СА СТУДЗЕНЯ 1988 ГОДА

**Заснавальнікі:**
**СП Беларусі, калектыў рэдакцыі**



**Выдаецца на беларускай мове**

**Рукапісы аўтарам па пошце не вяртаюцца**

**Пішыце:**
**220807, г. Мінск, ГСП, вул. Кісялёва, 11**

**Званіце:**
**366-071, 366-142**

Падпісана да друку з арыгінал-макета 26. 10. 94. Фармат 60x84 1/8. Афсетны друк.
Папера газетная. Ум.-друк.арк. 13,02. Ул.фарб.-адб. 14,35. Ул.выд.арк. 14`,52.
Тыраж 4000 экз.
Кошт дагаворны. Зак. 1084.

**Надрукавана з арыгінал-макета заказчыка у друкарні выдавецтва**
**«Беларускі Дом друку», 220013, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.**